# Алесь Барскі

## З цыкла «Палетак»

I

У бялізне імглы
разасланай між вішнямі
жыта заснула
сном справядлівых.
Жыту прысніліся
пуні зацішныя
і сялянскія рукі шчаслівыя.
Мы жытнёвай маралі
дакладна не знаем.
Жыта партыйнае болей,
чым людзі
глянь, як разам жыве яно,
разам канае
упаўшы ад косаў
на твар і на грудзі.
О выіграй радасць
у струнных сцяблінах
і выгайдай шчасце
у сонечных зернях
і навучы ты кахаць
нас айчыну.
Улі ў нашы сэрцы
ёй вернасць.

2

Супольная радасць — Радзіма
у жыцце псальмы і оды
у жыцце Іерусалімы
сімфоніі і рапсодыі.
І феерверкі валошак
і мёдадайныя вікі
хто ж на свеце



як ты харошы,
хто ж на свеце
як ты вялікі?
Тут радасць і боль адначасны,
пчаліныя яды і мёды,
цалуецца цёмнае з ясным
Радзіма — балада і ода.

3

Зарылася сонца у травы,
як плуг залаты ураджайны.
Хто ўмее служыць гэтак справе
карыснай і жыццёдайнай.
Хто абагрэе пяшчотней
луг нібы лопух вялізны.
Хто выкліча толькі залётаў,
і песенных сюррэалізмаў,
і меладыйных пачаткаў,
і каляровых фіналаў?
хто на праменных кладках
крыллі падасць карнавалам?
Сонца!
З якой жа ты байкі,
з якіх ты малітваў уздохаў
упала у луг балалайкай
і ходзіш па ім скамарохам.

4

Дзяўчына як фрэска
з старыннай капліцы
у пажоўклым аблоку
даспелай пшаніцы.
Рукі узнімае
у неба скляпенне
з вясёлкаю сцеблаў
у радаснай жмені
багоў пасланцы —
мастакі і паэты
прыдзіце з майстэрняў
у гэты палетак.
Дайце мастацтву
панюхаць загоны.
Вядзіце ў мастацтва
сялянку-мадонну.
Стварыце мастацтва
у польнай капліцы

дзе колер з пшаніцы
і рыфма з пшаніцы.

5

У далёкім палетку
як воск жоўталіцым
пасвіцца неба у збожжы —
сонца купаецца
ў ванне пшаніцы,
як пазалочаны вожык.
О, лета маё!
колькіх рыфмаў і рытмік
бясплатна прыносіш паэтам.
Вазьмі маё сэрца
ты промнямі вытні
і пасадзі у палетак.
Хай яно вырасце
ў сонечнай глебе
і ў пуні з калоссем залезе
і ўзыдзе у хаце
сонечным хлебам,
найлепшай з усіх паэзіяй.

6

У гэтай вялікай майстэрні,
якая завецца полем,
дзе сонца розцамі праменняў
рэзбіць калоссем твары.
я вольны!
я мару!
Вось тут у палетку свабода
і абавязак, і шчырасць,
і дружба калоссяў кроўная.
і сонца,
і ветру,
і глебы
заўсёды усім пароўну.
Вазьмі раздзялі ты шчасце
на так ідэальныя долі,
як дзеліць яго між калоссяў
поле.

7

Палетак, як поп,
і святочны, і чысты
у расе пажоўклай
спявае гамоніць



Танцуе калоссе
заўзятага твіста
пад гукі разцягнутых
дрэваў-гармоняў.
А вецер на пальчыках
нібы ў балеце
То борза бяжыць
то застыне на момант
ці жыў бы хаця
адзін горад на свеце
калі б не падпёрся вясковай калонай?
Ды што гаварыць
аб чужым і далёкім
у поле вязуць мяне
добрыя коні.
Малюся
палетак, мой поп жоўтавокі
зрабі з мяне
жытні пявучы гармонік.

8

Жнівень — саламяная кантата
вышыты палетак канюшынай
і снапы — для селяніна свята.
разлегліся ў полі,
як жанчыны.
Прыдарожных вербаў вадаспады
і лугі — зялёных гурт авечак.
Кучаравая зямная радасць
у даліну збеглася на вечэ.
І далёкія-далёкія маланкі,
і трывога ў снапавым гарэме.
Ой, зямля —
мая ты крывічанка
жнівень — саламяная паэма.

9

У грамадным грамадным тэатры
пад сінім
нябесным скляпеннем
кожны колас —
гледач і актор
удзельнік шумнай арэны.
Я пытаю цябе,
як паэта,
пасланца і любімца бога,

ці не лепш
табе быць палеткам
і пшаніцу трымаць за ногі?
як жанчыну яе абязволіць
і заснуць у пасцелі туманнай,
і жыць вечна
проста як поле
і жыць вечна
як поле складана.

10

Пшаніца — рухомы падмурак
будоўлі названай летам.
Колас ніколі не журыць
сэрцаў сялянскіх паэтаў.
Бо кожны колас — кантата
зямлёю сагрэтая млоснай,
пшаніца заўсёды ёсць святам —
вясной у жніўнёвую восень.
Пшаніца — падмурак мядовы
восені звенчанай з летам.
Тут кожнае з зерняў — словам,
а кожны колас — паэтам.

11

Кожны колас,
як чыстая дзевіца,
сарамліва глядзіць
у загоны —
а над жніўнем
павісла медзвядзіца
і месяца серп залачоны.
Ён кліча
у поле жытнёвае,
у сялянскую радасць спацелую,
у дзявочую песню жніўнёвую,
у Русь маю Белую-Белую.

### З цыкла «Пад дрэвам»

1

Конь, нібы бог,
такі просты і дужы.
Маліся мастацтва
да цнотаў кабылы.



каб плуг пацягнуць —
трэба мець мабыць мужнасць
не толькі звычайную
конскую сілу.
Каб конь быў царом,
а кабыла царыцай —
войны не сеялі б
смерці над светам
зямлю пакрывалі б
авёс і пшаніца
і гімны на межах
спявалі б паэты.
А нават калі б
і здарыліся культы
ці іншыя вывіхі,
хібы і здрады,
дык коням царам
за цярпення іх мультум
паэты прабачылі б
іхнія вады.
Дык лезце кабылы
у царскія троны
у здымкі у фрэскі
дварцоў і капліцаў.
Ямчэй мне маліцца
да конскай іконы
чымсці да бронзы
двуконнага гіцля.

2

Я з сялянскага...
з іншага быць я не прагну.
Ва мне сум,
ва мне шум
і дурацкая радасць.
Аба мне не напіша
сімфонію Вагнар.
Мне музыку твораць прысады.
Люблю, калі песню
спяваюць бярозы
уплятаючы ў косы
высокія зоры
назіраю, як месяц,
трымаючы козыр,
заносіць руку

панад борам.
Удыхаю палын
такі сонны і млосны
як раскоша і боль
у адной сцяты жмені.
Безупынна тчэ сонца
жытнёвы кросны
ніткамі ціхіх праменняў.
Краю мой родны,
прыгожы і ціхі.
Дала табе дзіўную долю планета.
Хапае ў табе
і раскошы і ліха...
Толькі бракуе —
сумленных паэтаў.

3

Над скрыпкай восені
схіліўся вецер
смычком дажджоў
павёў па струнах
і ўсім, хто быў,
хто жыў на свеце,
стала маркотна,
стала сумна.

4

Глянь назад:
як далёка усё
і мінулае ўсё
у руінах.
Больш не будзеш ніколі
ніколі ты унукам,
больш не будзеш ніколі
ты сынам.
Не прарок я,
а знаю усё
і прарочу усім аднагодкам,
што хутка
заменіць нас час
з нашчадкаў
у продкаў.

5

Пейзаж майго сэрца
просты.
Ён з самых усмешак
і сосен.
Ён з псалмаў лістоў
кленавых
і з купалу неба
маёвага.
Ён з п'яных сасновых
мускатаў
і з чыстых-чыстых
дзяўчатак.

6

Зноў аблокі — малітвы цішы —
ранак рукою узніме,
і з неба іх кіне у вішні,
як лёгкакрылыя гімны.
Я ў словы зарос, як дуброва
лісцем зарастае зялёным,
прачнуліся ночы маёвыя
з дыялектыкай зорак сонных
і вершы прыходзяць сябрамі,
кладуцца у рытміку спеву,
ружа расце проста з каменя,
узнімаецца ласка з гневу.
Я выпісаў сэрцу рацэпты
на пергаміне цішы — аблоках.
Адышоў я з фалангі скептыкаў
скіраваў у здароўе крокі.

7

Брухі вербаў
цяжарныя песнямі
уздыхалі над сінім патокам
распаўзліся у ложы нябесным
цяжарныя бабы-аблокі.
Ды і сэрца маё зацяжарыла
такім паэтычным настроем,
такімі блакітнымі марамі,
такім ціхаструнным спакоем,
што мусеў я стацца матуляй
сінявокага codeршыка-сына
і прынёс яго ў белай кашулі
маёй беларускай краіне.

8

Мы ходзім на граніцы
сну і явы.
Глядзім з краіны цемры

у каляровы свет жаданняў,
у свет калоння, паўставання
або ў агонь,
або у попел.
Намі напоўнена планета,
намі напоўнена Еўропа.
Якія ж мы малыя чалавечкі,
прахожыя у часе, госці —
з сэрцам малым,
з вялікай злосцю!

9

Што сёння праўдай ёсць —
заўтра акажацца маною.
І так ва ўсім,
у кожнай быту сферы.
Мы захапляемся, у штосьці верым,
а наш нашчадак
будзе кпіць, смяяцца
з наіўнасці свайго прадзеда,
як мы смяемся часта з продкаў.
Жыццё ідэй і святасцей каротка,
як людзі
яны родзяцца, канаюць
і у гэтым прыгажосць
адвечнае адновы.
Адно расце,
другое ідзе з дымам,
як смешныя людскія словы: —
нашы ідэі будуць вечна маладымі.

10

Устаем мы штодзённа рана,
каб вечарам зноў упасці.
Можа з сэнсу свет абакраны,
можа мы яго хочам абкрасці
і занесці ў камору манетаю
дабрабыту ці славы звінячай.
Прылажы сваё вуха да свету
і паслухай як стогне, як плача.
Гарады і дзяржавы і сэрцы
у дзвярах, у замках, у засовах.
Як праўда на свет тут прарвецца
і як выцвіце шчырымі словамі
я разумны, я вольны, я шчыры —
крычаць людзі дзяржавы і партыі.



Як далёка блакітныя шыры,
як далёка да вольнага заўтра.

11

Стаіць маўчыць,
стаіць шуміць
з'ядналы нібы гвардыя.
Глядзіць удаль,
як вартавы,
лес-мір
лес-бог
лес — партыя.
Ніхто яго не разгадаў
ні слоў яго,
ні думак.
Ён не раскажа сваіх спраў,
не выспявае думак.
Стаіць філосаф векавы
на ўзгорках і ў лагчынах
ад ног да рук і галавы
аддалы сын айчыны.

12

Ты белая, белая, белая
дык прэч вы
з сумленнямі чорнымі.
Ты выйдзеш з ігрушамі спелымі
над сінія тоні азёрныя.
І станеш на беразе чыстая,
нібы бяроза маёвая
і заспяваеш вечыстую
песню у матчынай мове
можа абудзіш сумленні
у тых дзе яны пачарнелі
і зменіш душу пакаленню
О, Русь мая, Белая, Белая...

13

Які ж прыгожы гэты свет,
дзе толькі я і лес і ціша.
О, як ён кліча, як заве,
як сэрца песняю калыша.
Не, не пайду у гарады —
у дым, у пыл, у растараны.
Я тут у пушчы малады —
а там у сэрцы цяжка ранен.
Я пушчай тут — а пушча мной.

Хаджу у сэрцы з ветрам сінім.
О, лес ты мой.
О, лес я твой!
Ніколі мы сябе не кінем.

14

Даўно дзяцінства наша
засталося ў загуменнях —
а маладосць
на прызьбах засталася.
Я на каленях,
па каменнях
уцякаў з сялянскай масы
ў гарадскія класы.

15

Не хачу я гарэць
у рэкламным нэоне
ні мясам ляжаць
у рэкламнай вітрыне.
Мілей мне хістацца
лісточкам зялёным
у вечары сінім.
Ці нават праклёнам
у злосці адчайнай,
ці крыкам птушыным
з адлёту у вырай,
ці хлебам матчыным
іржаным звычайным,
ці смехам, ці плачам —
каб толькі быць шчырым.

16

Як продак
нацягнуў на ступу шкуру
ды і зрабіў сабе
вясёлы бубен,
змянілася грамадскасці натура,
і кожнаму паслухаць люба
рытмічнай песні.
Пад гукі бубна
бегла племя
рыбу лавіць у водах весніх,
і ў дрыгву ганіла тура —
ён абвяшчаў прыходы буры.
Пад бубен племя танцавала
і з ворагамі ваявала,



трымаў ён душы ў палоне
і засталося так да сёння,
хоць і змяніліся тут формы,
бубен застаўся быту нормай,
але назваўся дырэктывай.
Яна вядзе да перамогі
апанавала нас шчаслівасць —
маем бога.

### З цыклу «Мадонна»

I

Каханне
ты цудатворнасць
у хлеб ты заменіш камень
і белым сумленне чорнае
пад тваім дотыкам стане
і з вейкі слязе
пад павеку вярнуцца
ты загадаеш
паўчалавеку
скажаш быць чалавекам
і будзе ім
знаю
і пустую амфору душы
напоўніш старынным настроем
і станецца поўным
пустое
ты мацней
за Хрыстовы учынкі ў Кане
Хрыстос там не выкрасаў
хлеба з камення
і не ўчыніў парожняга
поўным
актам сваім чарадзейскім
актам сакральным
і піў народ галілейскі
віно з вады натуральнай.

2

Лес павісне ўніз верхавінамі
у азёрах блакітных і сініх
прыйдзе вечар і ціша такая
што чула за сэрца кранае

і ціхай песеннай мовай
пакліча ў сонны човен
і вясло я вазьму ў далоні
паплывём на сярэдзіну тоні
і там між вадой і між небам
мы адны больш нікога не трэба
і далёка далёка ад бога
і далёка ад дна зямнога
мы вуды у радасць закінем
у шчасце сіняе сіняе
і з неба зацвіўшага зорамі
як з яблыні шчыра без сораму
Ты яблык сарвеш рукамі
і як Ева дасі мне Адаму

3

Давай адкрыем клеткі
каб птушкі з іх ляцелі ў шыры,
і знімем ланцугі
з сабачых шыяў
адчынім дзверы
турмаў палітычных
платы развалім
на дзяржаўных межах,
распусцім арміі
і партыі распусцім
хай цэлы свет уп'ецца воляй
і хай ад шчасця будзе п'яны
і рады так
як я ў палоне у каханай

4

Ты выйшла з сукенкі
і агалілася
як колас выходзіць
зруні у маі
як ліпа з імглы выплывае
і рукамі імглістую сукню
спіхае з плячэй да ступеняў
і топча нагамі у травы
ты выйшла з сукенкі
як месяц з аблокаў
і прыйшла да пасцелі
як конь падыходзіць
да сена
і больш я не бачыў нічога



бо стаўся ад шчасця
аслепленым богам

5

Памятаеш той поўдзень у лесе
калі збіралі мы суніцы
і нас застала навальніца
і жорсткімі бічамі біла дрэвы
і гойсалі яны у лева у права
і не маглі знайсці ратунку
стагналі плакалі крычалі
і многія памерлі з болю
зваліліся як труны ў травы
ды ўрэшце ўдалося сонцу
спіхнуць у даль жывёлу — хмару
і заспявалі ціха птушкі
і заспявалі ціха дрэвы
і правілі імшу памёршым
І Ты сказала тады ціха
— у шчасці многа ёсць няшчасцяў
але найгоршая стыхія
не можа знішчыць усіх дрэваў
з лесу вялікага кахання

6

Як шчасце пагладзіла
нашыя сэрцы
разумнымі быць мы не можам
навошта павага
навошта развага
шчаслівымі
будзем куляцца
крычэць і смяяцца
каб радасць асмеліць
каб цётка Ганўся
ідучы над рэчку
сказала з дакорам
— зусім падурэлі

7

Калі клёны чупрыны павесяць
уплёўшы ў іх зоркі і месяц
не пазбягай жаданай
не ўцякай ад кахання
выходзь на спатканне
можа нехта з гандлярскаю жылкай
дзесь ашукаў кагосьці

але мусіць прайсці праз памылкі
кожная з маладосцяў
і таму калі клёны павесяць
чупрыны у змроках шэрых
ты ключом майскага месяца
адмыкай ад кахання дзверы
адмыкай іх з даверам.

8

Грудзі твае — урачыстасць
як сад зацвіўшы ў нядзелю
купалы яблынь
чыстыя чыстыя
маглі б Рублёва застрэліць
а над імі як крыж Хрыстовы
анямелы без слова
збіты з ног смагай
збіты жаданнем
слабы каханнем
сільны каханнем
раскрыжаваны
над купалам яблынь
танцуюць пад дрэвам
анёлы і д'яблы
крыжам я рынуў
на купалы — бёдры
на яблыні — грудзі
пачуў што гіну
крычу
не ратуйце добрыя людзі

9

У гэтую чорную ноч
усё для нас сталася белым
праз нашу трывогу
плылі і аблокі і сонца
і птушкі на рукі нам селі
і звер падышоў палахлівы
прытуліўся да нашага шчасця
у гэтую цёмную ноч
усё для нас сталася ясным
адышлі лістапады
прышло дзесяць маяў
бо слова Тваё
майму слову сказала
— кахаю

10

Найвышэйшая ступень кахання
большага шчасця не стрэнем
вышэй не ўзыйдзем
і не скоцімся ніжай
тут дно і вяршыня
танец на ліне
тут цені змяркання
і іскры світання
на кужалю нашых каханняў
д'ябла сляды засталіся
і кшталты ступеняў божых
таму мы чарнейшымі
таму мы бялейшымі стацца не можам

11

Грудзі твае — паэтыка
лепшых не рэзьбіў Фідый
я сёння малюся богу
дай божа мне сто паэтык
дай у далоні трывогу
каб аддаць хацця сотую долю
іх хараства зямнога
поле шырокае поле
доля шырокая доля
дайце далоні — падзякую
бо вы ж дзяўчыну вынеслі
з дзяцінства ў юнацтва грудзістае
ў каханне чыстае-чыстае
і бог вам падставіў ногу
і вы ля мяне ўпалі
і я падхваціў дзяўчыну
і за гэта вам сёння дзякую
што магу і смяяцца і плакаць.

# Яша Бурш

## МАЁ Я

Вынасіў пад сэрцам
чалавечнасць
як жанчына
ва ўлонні плод
знаёмлю яе з людзьмі
у натоўпе
а яна мне шэпча
«назвы маюць свой
век
састарэлі
маюць іншае значэнне
будзем надаваць
іншы імёны
назвы
значэння
людскім рухам
думкам
і чынам»

## ЦЯЖКАЕ ЧЫТАННЕ

Дарабілі ключ
да мяне
нібы дашліфавалі да сябе
а следу адчытаць
не могуць
хочуць рэканструяваць
мой касцяк
з васьмігадзінных элементаў
мае спраўнасці
апроч таго
па мне
хай трава не расце



а я сабе
сваёю дарогай
на свой рахунак
існую штодзённа

## МОЙ АДРАС

Люблю купацца
у цямнотах
ночы
люблю шпацыр
цёмнаю вуліцай
ноч
заблытвае травою
мае думкі
і бляскам расы
пасярэблівае іх
ноччу ніхто не бачыць
сакрэту уздыхаў
бачуся
ад стаптаных падноскаў
да неастрыжаных валасоў
або
кропляў расы
з'яўляюся маленькім жыццём
добра мне ў расе
святочна чыста
у малой кроплі
цэлы палац
празрыстасці
найбліжэйшыя
адведайце мяне
адрас
— палац Расы
я

## БЕЛАВЕЖА

Сып мне снегам у твар
вастры на вейках іней
прыпадабнюся
да пнёў

і да галля
у сваё зацішша зваблю
сарнаў трух
у іх інстынкты
розумам пранікну
каб век даўжэйшым
шпаркасць кулі затрымаю

## ГАСЦІННАСЦЬ СОСНАЎ

Ствалы соснаў
на сонцы загарэлі
кідаюць шышкі
праходжым
пад ногі
пагутарыць
хочуць
аб ветрах
і пагодзе
аб узросце на пясках
дзе жытам не каласець

мяне быццам праўнука
заўсёды малога
купяць
за шума-быліну
прасядзець у падножжа
пакуль стомы поспеху
скінутым шышкам
не пакіну

## АГАРАК ВЁСКІ

Вёска ўрасла ў пейзаж
за пушчай
як у бога за плячыма
раніцаю дымкі
снеданнем няслі
як у неба ахвяру
ды вось проста
людская злосць
полымем у вёсцы заквітнела



лёс кучаравымі агаркамі
бы ягняты
разлажыўшы
вецер ліжа
дваццатага веку нараджэнцаў

## СВЯЦЦЯ НАТУРЫ

Змяркание як сваха
дзень
з ноччу
прагне ажаніць
а ўсё...
каб ноч была ласкавейшаю
і ў змярканні
каб цверазейшым будзіўся
чалавек

## ДОБРЫ — БЯЗРАДНЫ

Бязрадная пушча
як дзіцё
не можа помсціць
за вырвану з яе палехі
уласнасць
услухайся
шуміць яна дзіцячым
плачам

## ДЗЯЛЯНКА СОНЦА

Праменні сонца
бліпчаць
як барада старэчы
пераліваюцца на фоне блакіту
гладжу імі шчокі
дотыкам праменні
расказваюць
аб гісторыі доследаў сонца
дзялянцы на Зямлі
я пачуўся мікробам чалавецтва

## ГАРЫЗОНТЫ

Век летуценняў зайшоў за гарызонт
і толькі зарыва турботы
злучае мяне
з хлебам фізічнага быту
узростам пару надточвання
неперадуманых рэчаў

## ШПАЦЫР МІМІКІ

Твар шчарствелы сном
на шпацыр пазваляе
міміцы дзівоснай
і павейкамі замкнуў кантакт
са светам
і са мною
зачыніць дзвярэй не магу
хоць чэрствасць твару
страшна
хаджу кругом
не ведаю
як з сонным тварам
свядомасць
падзяліць

## ЧАЛАВЕЧЫЯ СПРАВЫ

Захацелася думцы спорту
села ў човен
і на вадзе
слоўнай
упоперак
ад чалавека да людзей
што крок
дзеяння прыстані
разменьваюць час
на дробныя грошыкі
новых davераў
на «віват»
выстралы
шлях з думкай чоўна



між прыстаняў
у лукаткі
упоперак слову
уздоўж надзей

## КАБ ГЭТА Я

Эх неба
каб я меў
столькі зорак
у руках
усе адлогі
у людскіх сэрцах... —
вылепіў бы
помнікі з іх
на месцах
дзе гісторыя
прысядала
пішучы свой дзённік

## ПАСЕВЫ

Зямля парысаваная
баразнамі
вядучымі
на зярняты хлеба
як твар
пацыраваны
павуціннем турбот
ледзь можа
абматаць
права існавання
і магчымасць
размнажацца

барозны
барозняць зямлю
павуціны маршчын
цыруюць твар
у імя
новых пасеваў

## ГУЛЬНЯ Ў СТВАРЭННЕ СВЕТУ

Укартаваў усмешку
у калоду зубоў
пагуляем
у стварэнне свету
без слоў
будзе ў ім
толькі глыбіня
непаўторнасць
і навіна
уся моўная гульня
заглушае прыём думкі
буду гаварыць вачыма
запішаш вейкай
у памяці

## ТАБУЛЯ РАСА

Што ж прыгажэй
кранае ласкай душу
ад струнаў успамін
з часоў
як падростак
ідзе
у нязведаны свет
калі жыццё
яму здаецца
гульнёй
хваль марскіх з ветрам
філасофія жыцця
па костачкі яму сягае
таму і шчаслівы
фантазіі будучыню сее
пасеў
павінен узыйсці
усе кветкі заквітнець
цэлы свет
усмешкі пад ногі сцеле
толькі мае прыгажосці
маладосць

а хто яе не меў



## ЗАГАДКАВАСЦЬ

Цягнік б'е ў поўнач
лубом
як у няходжаныя дзверы
пазбаўленыя
жыцця ільгот
жаль
іскрамі пырскае
каб засяліць глухамань
болем
завязаць размову
з утоеным цемнатой

## РАЗМОВА ЦЕЛА З ДУШОЙ

Ты не ўмела карыстацца
свабодай
мушу гніць
тут
доўгія гады

я выперла цеснату
унутранасці
яшчэ перад усведамленнем
пагаднення
ты ўжо мела ліхую канструкцыю

насіла мяне
на банкеты таямніцы
з забароненых крыніц
піць ром прычын
я не змясцілася
ты
адкрыла вусны

## ПЕРАХОП

Машына апярэдзіла душу
чалавека
зрабілася цэнтрам цывілізацыі
у каханні да машыны

людзі губляюць галовы
і звычаі
машына пагарджае людской
недакладнасцю
душа машыны
полымем
пакарае прастору
і чалавечае сэрца
машына
пазбаўляючы спадчыны
чалавека
пакінула яго ў хвасце паніжэння
не абразіўся
ад машыны перахапіў
яе адносіны
да чалавека

## НЕЦЯРПЛІВАСЦЬ

Думка вытоптвае рукамі
сцежку
да памяці
іншай галавы
ды якое ж невядомае
будзе
тое
зразуменне

## НА ЎЛАСНЫ КОШТ

Успакойся
матка
зышла з варты
у чарговасць лёсу
ты застаўся
сярод рэпарцёраў тваіх хібаў
людская установа
выставіла табе
рахунак
— вылічыла легкадумнасць
на ўласны кошт



## МАНЕЎР

Мозг абсунуўся
у страх
калі кулак брутальна
ударыў у твар
пустое слова
авалодала сэрцам
людзі разбегліся
па вызначаных дарогах
як мозгу не хапіла
у галавах
замест дзеяння
прадукуецца
слова

## РЭКАГНАСЦЫРОЎКА

У маіх рухах да думкі
жыве паўнатою мінуласць
я
яе прыстаняй
рэкангнасцыроўкай цераз мяне
да замыкання
двузначнасці
я памостам
у час
у глыбіню
цыферблатам крокаў у гуманізм

## АХВЯРА ЗАЙЗДРАСЦІ

Любіў калоць у вочы
немагчымасцю здзяйснення
упаў снапом
на ток помсты
прабіты джалам
зайздрасці

## УРОК ДУМАК

Па маіх вуснах
ходзіць
розуму асцярожнасць

часам
кіне словам
у адкрытую душу
і
на вейках
тчэцца
розум чалавека
нагляданні утокам
і вось
кілім
шчырага спаткання

## ЗБЛІЗКУ

На скрыжаванні дарог
я зблізіўся
да сяброў
і пачуў у атмасферы
ліпкасць медузы
набраў сімпатыі
да адкрытых ворагаў
— маюць характар

## БЯЗВОЛЬНЫЯ РУКІ

Засыпаліся рукі працай
не маюць часу
твару пагладзіць
або
за думкаю
успяваць

праца
як свет
толькі рукі змяняюцца

## З СЯБЕ

Пішу вершы
каб паўтарыць сябе
на вонкі
пішу вершы
каб завязаць кантакт
з сабою





*Віктар Кабац*

невысказаным
шукаю мэт
да людзей
пакінуўшых
вытаптаныя сцежкі
каб паказаць ім
дарогу
у Беларусь
і...
перажываю
саромлюся

# Мікалай Гайдук

## ТРЫЗНА

*«Грозно бо бяше и жалостно тогда видети, зане трава кровью пролита, а древеса тугою к земли преклонишася».*
*(«Задоншчына»)*

Па такім ранку — шэрым ды імглістым, што пад канец лета здараецца, пра ўвесь дзень судзіць можна: як заутра імжа долам лажыцца — дзень пагожы стане; калі ж туман верхам пойдзе — быць дажджу пасля поўдня.

Ён, стары дзесяцкі Яцук, мяркуючы пра настаўшы дзень, паволі брыдзе з грыдніцы цераз дзядзінец. Падстаўляе сваю здратаваную мазалямі ды рысамі чэрствую далонь пад падаючую імжу, і кіруецца ў бок лесвіцы, што вядзе на пляцоўку старажавой вежы.

Юрась ля стайні глянсуе глінкаю і аўчынкай медную акоўку збруі. І так медзь у тумане ззяе сонечнымі блікамі, а ён усё трэ і трэ. Які ж гэты Юрась за апошні час ладны стаў: высокі, плечы ўшыр раздаліся, здаровы румянец барвіць шчаку, бы першы прымаразак спелую каліну. Мяккі пухкі волас над вуснамі і па барадзе зачарнеў. Статны з яго муж будзе, па бацьку, відаць пайшоў!

— Дзядзь, чаго ж на вежу лезці, і так на два сажні нічога не відаць, — заўважае яму Юрась.

І голас то ў яго мужны: глыбокі і цвёрды. А ці ж даўно гэта ён, Яцук, з уцехі, тройчы пускаў у круг свой кованы рог турыны, частаваў сяброў-грыдзяў хмяльным мёдам ды настойкамі калі вестка з цвердзі, з Суража, прыйшла, што яго дачка Мілошка павіла воя-ўнука. Дамоў на дзень-два вырвацца хацеў бо сын жа быў недзе ў палку з князем. Але дзе ж яму, тадышняму валадару Нарвы, крэпасць пакінуць: полая вада ішла — трэба было дубовыя калоды з пушчы гнаць, каб сцены крэпасц падправіць ды падняць на некалькі вянцоў вышэй...

Ніяк ужо дваццаты год ідзе, як было тое, а ўсё здаецца быц цам гэта ўчора.

— Бач, унуча, — гаворыць, як бы са сваімі думамі-ўспамінамі, Яцук, — старыя ногі самі, па звычцы, на лесвіцу нясуць. Не мала ж ужо — гадоў трыццаць так, з дня ў дзень, хаджу. І, скажу табе, шмат чаго ўбачыў, нават і ў такой каламуці.

— Э, там! — недаверліва азваўся Юрась. — Яцвяга і пры сонцы цяжка ў кустах прыкмеціць. А то...

— Ну-ну, — спыняе ён унука, узыходзячы на пляцоўку вежы, што сажняў на пяць узвышаецца над варотамі крэпасці прыкрытая счарнелымі ад дажджоў і сонца асінавымі драніцамі. — Гадоў шэсць таму, гэта як твае пастрыжыны былі, я не то што ўдзень, а ўночы, цэлы ізгон яцвяжскі прыўважыў. — Яцук ведае, што колькі ўжо раз гаварыў пра гэта Юрасю, але не шкодзіць, здаецца, яшчэ лішні раз напомніць. — Скочылі мы тады на коні, ды стралой да броду. Вось тут, на плыцізнах, — і ён, выхіліўшыся з-пад дашка вежы, паказвае рукой туды, дзе праз малочную муць імглы паблісквае Нарва, — секанулі мы іх. Заднія то адразу павярнулі, хвасты паказаўшы. А ўсё ж некалькі жыўцом узялі, а чалавек шэсць вунь, на тым беразе, і па сёння пад крушняй спачывае...

Што гэта?.. Няўжо? Забыўшыся пра ўсё, ён упіраецца зрокам у процілеглы бераг, і ў прорве паміж звалами імглы, на пясчаным рачным адкосе... Не можа быць! Гэта хіба пад старасць трызненні мяне мучыць сталі... Варушацца... Яны, так яны: у бабровых варсістых башлыках, лісіх, відаць, нарутках, прыкрытыя шчытамі. І многа ж іх, дзесяткаў шэсць на беразе і яшчэ прыбываюць з лесу...

Трымціць рука ад трывожнага лёскату трашчоткі. І ўсё ж не верыцца яшчэ, ці гэта на самай справе яны. Нешта пякуча ўпіваецца ў руку вышэй локця, і рука бязвольна выпускае трашчотку.

— Яцвягі!.. Братцы, яцвягі, — крычыць ён дзікім голасам.

Злосна фуркочуць стрэлы, уядаюцца ў сцены, дашак, слупкі, пляцоўкі. Ужо лежачы плашмя на памосце, ён бачыць, як высыпалі з грыдніц на дзядзінец воі, як адрываецца з-пад лесу грамада коннікаў і мкне цераз брод да брамы крэпасці. Перасільваючы боль, ён крычыць:

— Браму! Браму падпірайце-е...

Юрась было скочыў на лесвіцу, відаць, да яго хоча ўзлезці. І ён халадзее з жаху:

— Куды ты!? Назад! Праніжуць цябе, як глушца...

І Юр паслухаў, бяжыць разам з іншымі да брамы. Створкі брамы счэпліваюць жалезнымі крукамі, паспешна закладаюць у засаўкі дубовыя друкі. Сярод дзядзінца ўжо стаіць валадар крэпасці Міхалка.



— Маладыя браму самі гаціце, а стральцы да бойніц хутчэй! — крычыць ён і сам кідаецца з лукам і калчанам да бойніц над брамай.

Стральцы з калчанамі стрэлаў, лукамі, доўбнямі ды мячамі паспешна ўзбіраюцца на падмосткі крэпаснай сцяны і разбягаюцца да прыадчыненых створак бойніц. Напружваюцца, чырванеюць іх твары, спешна штахаюць цяцівы лукаў, ляскаюць кушы, свішча каменне, выпушчанае з прашчаў... Значыць, паспелі, не ўпусцілі ў крэпасць. О, вялікі Сварожа, дзякуем табе за літасць над намі! Дзякуй табе, добры Сварожа...

Пячэ і церпне рука. Рукаў набрак крывёю. Страла прайшла навылет праз мякіш каля локця і затрымалася пяром. Трэба як мага хутчэй, пакуль не запухла, пераламаць брэхву стралы і выцягнуць яе. Каб памог хто. Не, ім цяпер не да таго. Мус самому. Звяло сківаіцы, сплывае халоднымі кроплямі пот з чала, ліецца ў вочы, а ў ваччу мітусяцца ружовыя іскрыстыя кругі. Не паддаецца брэхва, відаць з грабу высек яе праклята яцвяг. Та-а-ак, пераламалася ўсё ж такі. Ну, цяпер трэба яе выцягнуць, зубамі. Трашчыць рука, боль молатам б'е ў скроні. Паволі, надта ж паволі выходзіць яна, ядавітая. Кроў цуркам сцякае па пальцах, а рука зусім здранцвела, быццам чужая. О-ох! Вышла, уся вышла...

Ужо закручваючы і заціскаючы рану разарваным рукавом кужэльнай кашулі, прыглядаецца да гэтага, пашчапанага зубамі, закрываўленага кавалка дрэва. Колькі ж іх прашывала яго рукі, сцёгны, нават вуха і ўсё ж такі духу не дасталі. І гэтая таксама, але хіба ж будзе і тая, суджаная, не паміраць яму сваёй смерцю...

Праз шчыліны вежы відаць, як спачатку ўпаасобку, а потым групамі адскокваюць яцвяжскія коннікі ад крэпасных сцен. Той-сёй з коней б'ецца пад ездаком, становіцца на дыбкі, іржэ, значыць: панёс у сабе стралу нашую. А вось цягнуць яцвягі і свайго родзіча. Забіты, відаць, так яму і трэба...

Ну, адбіліся мы.

Ля бойніц воі аддыхваюцца, уціраюць успацелыя твары, галдзяць. Дзяўчаты, маладзіцы ды падросткі моўчкі, але ўсё подбегам, носяць і падаюць на падмосткі да бойніц пучкі стрэлаў, падсыпаюць прашчнікам у карабкі каменне. Старэйшыя жанчыны, тайком уціраюць набегшую слязу, разрабляюць ля крэпаснага калодзежа з гліны і вады хлюпасткую жыжу, носяць яе цэбрамі і гладышкамі на сцяну і ліюць на вонкавыя бярвенні, каб агонь не так лёгка яе ўзяў ды і ворагу ўзбірацца не так лоўка было.

— Дзякуй табе, Яцук, што ў час трывогу падняў, а то б... —

гамоняць усхліпваючы жанчыны. — Але ж, што далей з намі будзе? Скот ды коні то ўсе нашы прапалі. Калі і адсядзімся, дык зноў гадоў тры нашы скотніцы пуставаць будуць. Дзе што якое — усё пехта і пехта, ці ў Бельск, ці ў Горадню. Ні малака табе, ні воўны. — Лямантуюць, ўсплясквоюць рукамі. — І дало ж нам у такую рань дабро з цвердзі на выган пусціць...

Разнагалосы жаласлівы жаночы лямант пераходзіць у старадаўнюю песню-плач:

Сварожа, Сварожа! Прыкрый нас няшчасных,
Сварожа, Сварожа! Ахіні дзетак нашых,
Сварожа, Сварожа! Узмоцні сілы нашы.
Сварожа, Сварожа! Ад нас звядзі паганых...

Воі, насупіўшыся, слухаюць, з-пад брыва сочаць праз шчыліны байніц за ворагам.

Пасля няўдалага нападу на крэпасць знячэўку, яцвягі рассыпаюцца па выгане, арканяць коней, збіраюць у гурт быдла і авечкі ды кіруюць цераз брод на Нарве ў бок Блудаўскай пушчы.

— А мо сялікам і абыдзецца, — мяркуе ўголас прашчнік Мсцішка. — Не раз жа бывала, што, павярэдзіўшы, або вярталіся ў свае верві, або ішлі далей — на Берасцень ці Драгічын.

— Каб то ж! — уздыхае стралец Уней. — Тады б мы іх дазорылі: не вяртацца ім у іх Судовію з сайгатам. Не то што на Супраслі, але і на Бобры насцігплі б мы іх, паганых.

— Пашто ў загадкі пускаціся, — спыняе іх Міхал. — За вялікая сіла іх тута прываліла, каб толькі па нашае брашно. Сотня іх, а то і болей — штосьці горшае ў іх на мыслі. Борзе трэ ў Крушву, Бельск ды Гарадок весць падаць. Як імгла ляжа — падпальвай! — звяртаецца ён да Унея, паказваючы на віцевы слуп, што ўзвышаецца сярод дзядзінца, увесь спавіты прасмоленымі саламянымі перавяслаімі.

— А ты, Юрась, ідзі ка мне, — загадвае ён і кіруецца ў грыдніцу.

Юрась лоўка саскоквае з падмостку бойніцы і бяжыць цераз дзядзінец у грыдніцу.

Згадкі нядобрыя халодзяць старое сэрца, а яно зусім пад горла ціснецца. Супакойся ты, стары, уйміся! Няўжо можа штонебудзь яму стацца? О, Сварожа! Цяжка караеш ты маю кроў, цяжка. Сынавы косці твае вятры-сухавеі недзе ў стэпах палавецкіх пылам крыюць, а цяпер ты хочаш згасіць адзінае сонца мае змрочнай старасці...

— Міхалю, Міхалю! Не пасылай дзіцяці, не пасылай, малю цябе, — а скупыя, пякучыя старэчыя слёзы так і ціснуцца ў вочы. — Зарэжуць яго, загубяць... — і ён, прысланіўшыся да касяка дзвярэй грыдніцы, засланяе далонню вочы.

— Чаго ты, дзядзь? — унімае яго ўнук. — Не плач, не ўбівайся, прайду як-лень.

— Суйміся, Яцук, — гаворыць ціха Міхаль. — Нужа мяне прымусіла пасланць яго. Да стойбішча руднікаў як-небудзь дабярэцца, а там цераз Крушву ды ў Берасцень паскача. А нас тута, хто ведае, што чакаць можа.

Супакойся, стары, уцішся.

На дзядзінцы ўжо валадар загадвае прашчніку Мсцішку і стральцу Балібору выхіліцца патайным ходам з крэпасці, быццам на адбой статку яцвягам, каб Юрасю вольны адвод даць.

Тыя праціскаюцца цераз вузкі пералаз у сцяне і паўзуць, хаваючыся за наднарвянскія лозы, бліжэй да броду. Там два яцвягі гарцуюць ля статку быдла, якое чамусьці не хоча ісці цераз ваду. Ад гурту адбіваецца лонская цялушка і пабрыквае берагам Нарвы ў бок Мсцішкі і Балібора. За ёю гоніцца коннік. На гэта толькі і чакаюць нараўляне. Балібор напінае цяціву і страла мякка грэзне ў яцвяжскіх грудзях.

Хрыплівы енк верхавога пужае каня, і той рвецца ўплык. Прашыты стралою яцвяг некаторы час бязвольна хістаецца, прыпаўшы да конскай холкі, і неўзабаве ссоўваецца на стратаваны, чэрствы выган. Яго сябра спачатку было падаецца ў бок упаўшага, але, прыкмеціўшы ля кустоў нараўлян, паварочвае назад да сваіх, нешта крычыць і паказвае на прыбярэжныя лозы.

У грамадзе яцвягаў, што стаяць за бродам, заенчыла берасцяная труба і на яе кліч збягаюцца з наваколля коннікі. Яшчэ праз колькі хвілін яны асцярожна абкружаюць прыбярэжныя кусты. Нараўляне ж загадзя перабеглі ўжо пад крэпасць. Яцвягі, не знайшоўшы нікога ў кустах, падаюцца да свайго падстрэленага родзіча. Той жа ляжыць на лучны стрэл ад крэпасці — з бойніц ураз сыпнулі стрэлы і каменне. Храпуць, іржаць ды дыбяцца параненыя коні, гарланяць яцвягі, адскокваючы назад ад крэпасці.

Твары нараўлян праясняюцца. Нават і яму палегчала на сэрцы: вылазка ўдалася — Юрась напэўна ўжо здолеў значна аддаліцца ад крэпасці.

І ўсё ж такі на вялікую ўцеху ранавата.

З усяго відаць, што яцвягі рыхтуюць прыступ на крэпасць. Адны з іх збіваюць з жэрдзя і сухастою плыты на Нарве і Нараўцы, другія звозяць са стагоў і абарогаў, што раскіданы воддаль крэпасці на нараўлянскіх лугах і палетках, снапы і вязкі сена. Ладуюць на плытах плывучыя стагі.

Мітусяцца абаронцы, падкідаюць смолі на палаючы ўжо колькі часу віцевы слуп, тоячы ў сэрцы надзею, што Крушва або Гарадок, а то і Бельск прыўважаць іх бяду і на падмогу падскочаць.

О, Сварожа, хісткая гэта надзея!

Ворагі ўжо наладавалі стагоў з пятнаццаць і цяпер, схаваўшыся за гэтыя шчыты-заслоны, пасоўваюцца ўброд з трох бакоў да крэпасці. Ні стралой іх дастаць, ні суліцай калупнуць: у саломе ды сене ўсё застрагне. І падпаліць стагі неяк: абклалі іх яцвягі сырой ялінаю — ад палаючай стралы ім не заняцца.

— Брацця мая і другі, — голас Міхаля дрыжыць і зрываецца, — калі смерць прылучыцца нам, то ўкупе супольную чашу прымем... Прыспела, брацця, наша гадзіна за цвердзь родную і за сябе пастаяць, аддамо ж паганымваздар семярыцаю!

Цяжка слухаць лямант жанчын, калі яны, прыгарнуўшы малалетак-дзяцей, спаўзаюць у падземныя лазы-норы, каб там перачакаць страшную гадзіну. Што з імі будзе, калі крэпасць стане ў агні? У лазах ад дыму і агню задыхнешся, пакуль праграбешся пад крэпаснай сцяной на той бок. Але такая смерць лепшая, чым жыццё рабамі-калоднікамі, проданымі за мора Варажскае...

Хто толькі можа ўзняць прашчу або напяць цяціву лука — усе становяцца да бойніц.

Плывуны-стагі ўжо на лучны стрэл ад крэпасці.

Калі моцна сціснуць зубы і затрымаць дых, тады можна на момант перамагчы боль у руцэ і напяць цяціву лука. Але пасля таго, як страла вылецела і лук уздрыгвае — трэба заплюшчваць ад болю вочы.

Некалькі яцвягаў адкацілася з-за стагоў далей ад крэпасці, на выган ідаць, раненыя. Пара ляжыць на рачных адкосах — забітыя. Але і ў крэпасці ёсць страты. Прашчніку Мсцішку страла прашыла шыю, і ён віецца на дзядзінцы, захлёбваючыся ўласнаю крывёю. На падмостку ля свае бойніцы ляжыць забіты напавал стралой у вока Уней. Са стралой у грудзях прысеў і не падымаецца ўжо Мірон.

Тыя ўжо пад сценамі. Едкі бела-жоўты дым клубіцца ў бойніцах, затапляе дзядзінец, слепіць і душыць — гэта яцвягі падпалілі свае стагі. Нараўляне надрыўна кашляюць, слёпнуць у клубах дыму.

— Паддавайцеся! — крычаць яцвягі.

На самым версе сцяны дым не такі едкі. Там, лежачы плашмя, падлеткі спіхаюць на ворагаў калоды, ліюць вар. А тыя лезуць, лезуць.

Ціха, неяк саромліва плача-стогне падлетак, калі прашчны камень разбівае яму твар або страла прашывае жывот. Яшчэ цішэйшы яго крык, як яму яцвягі скручваюць вяроўкай рукі і ногі, ды садануўшы нагою ў грудзі, спіхаюць на той бок сцяны, у вечную рабату.

Яцвягі на сценах.

Бяссільна перавесіўся ля бойніцы валадар Міхаль. Шматкі ружовай пены адрываюцца ад яго вуснаў і бязгучна распырскваюцца па бярвеннях сцяны. Страшна стогне Буд, — страла ўелася яму ў рот і выйшла на патыліцы...

Гіне крэпасць, гіне!

— Не! Не дам ёй згінуць! Не дам...

Лук ужо мне не патрэбен. На дзядзінцы яшчэ тлее галаўня ўпаўшага віцевага стаўба. У грыдніцы вывернутыя саламяныя пасцелі грыдзяў, стус адзежын і радзён загараецца адразу. Полымя перакідаецца на палаці, сцены, столь. У свірні ў гліняных карчагах ільняны і канапляны алей. З разбітай пасудзіны ён ліецца мякка і плаўна, а падпалены — паўзе вогненнымі змеямі па ўсяму свірну. На вышках у стайнях і скотніцах сухое сена...

Гарыць наша цвердзь. Палае, як урачысты пахавальны стус. Полымя выкідваецца з дзвярэй і акеніц, паўзе па драніцавых стрэхах, перавальваецца на крэпасныя сцены. Не дзіва — усё лета суш стаяла.

Яцвягі ўжо на дзядзінцы. Адны кінуліся да памяшчэнняў, але адскочылі стуль — усё гарыць. Разбягаюцца па дзядзінцы і падмостках, здзіраюць з мёртвых зброю і адзежу, раненым соўгаюць пад шыйную ключыцу вастрыі сваіх кароткіх нямецкіх мячоў.

Раве, баронячыся, Буд. Не патрэбна ўжо, не. Трашчыць і рушыцца на яго і яго ворагаў палаючая старажавая вежа. Прыгожую трызну маеш ты, Буд. Заслужыў на яе, хутка і ўлучна, без пагрэху, пасылаў ты стрэлы ў ворагаў нашых.

Яцвягі кідаюцца да брамы. Намагаюцца выважыць яе. Па што? Над ёю ўжо тлее сцяна. Яны кідаюцца ў шчыліны бойніц, узбіраюцца на сцены, скачуць з іх прэч.

Але гэты вунь, высокі з рыжай барадою ідзе па мой дух. Ядавіта паблісквае ў пажары яго меч. Добра, як добра Юрасю, ты жыў, я ведаю — ты жыў і цэлы...

О, Сварожа! Сварожа-а-ах...

# Воўчы спеў

*«Въ лето 1254. Данило же прия... венец въ городе Дорогычыне».*
*Іпацієўскі летапіс, запіс пад 1255 г.*

— Божа ўсемагучы, чаму так жорстка караеш зямлю нашую?

Вусны каралеўскага пісца ўжо мо ў соты раз бясшумна паўтаралі гэтае пытанне-малітву. Доўгія, касцістыя яго пальцы застылі на густа запісаных пергаментных лістах разгорнутай кнігі.

За сценамі замка выла мяцеліца, грукацела ў вузкія акенцы, калыхала палахлівым праменьчыкам свячы. Цені трывожна бегалі па зводчатым каменным полапе, па вопратцы і зброі, абы-як кінутай на дубовыя лавы. Золата гарачымі блісками ззяла на каралеўскім кажусе і хозавых ботах. А твары караля Данілы Раманавіча і яго брата Васілька здаваліся быць яшчэ больш панніклымі і змрочнымі.

Асцярожна, каб не парушыць трывожнай цішы, пісец пачаў гартаць лісты сваіх запісаў-хронікі.

У каторы ўжо раз за дні побыту караля Данілы ў Мельніку ўспамінае ён і зноў прачытвае свае запісы:

«У лета 1254. Былі тады ў Кракаве паслы папы. Няслі яны ад папы благаслаўленне і вянец і сан каралеўскі. Бачыць хацелі князя Данілу. Ён перадаў ім: «Не выпадае ніяк мне бачыцца з вамі ў зямлі чужой».

— Так, ужо і тады хацелі папскія паслы захіліць на свой бок гаспадара нашага Данілу, — моўчкі разважаў пісец. — Калі ўбачылі, што каронаю яго ў ярмо не заманіш, у чужую зямлю не заклічаш — самі пайшлі да яго ў горад стольны Холм. Нават разводдзя не пабаяліся. Гм, разам з епіскапамі прыбылі...

І вочы пісца забегалі па пергаменце:

«Прымі вянчанне на караля». Не прыняў ён і тады, кажучы: «Не перастаюць жыць у нязгодзе з намі войскі татарскія. Як жа я магу прыняць вянец без дапамогі?»

Пурга паволі ціхла. Чуваць было, як выюць ваўкі ў лазняках



над Бугам і трывожна храпуць на замкавым дзядзінцы коні дружыннікаў, ды пастукваюць калатушкі начной стражы.

Невысокая, каржакаватая постаць князя Васілька паднялася з покуцця і захадзіла па пакоі.

— Нічога, браце мой, тут не прыдумаеш...

— Або прыдумаем, або з вяроўкай на шыі нас у арду павядуць, — спакваля азваўся кароль.

І зноў у пакоі суцішылася. Недзе на бужышчах воўчая руя спрабавала ладзіць свой жудасны хор. А пісец, забыўшыся на ўсё, патануў ва ўспамінах.

Вось урачысты ўезд у Драгічын папскага легата Апізы ў акружэнні кракаўскага князя, сандамірскага Баляслава і князя мазавецкага Земавіта. Перад легатам, на падушцы з ружовага аксаміту, прыслужнікі нясуць карону, каралеўскі посах і яблык. Золата і каштоўныя камені гараць чароўнымі блісками ў майскім сонцы. Рамесніцкі люд, купцы драгічынскія і чужаземцы, сяляне цясняцца паабапал дарогі, што вядзе на замкавую гару, у паважнай цішы сочаць за незвычайным карагодам. Ліецца меднагучны гоман званоў з вяршынь багародзіцкай царквы...

Даніла на каленях перад аналоем. Епіскап уладзімірскі бярэ з рук Апізы карону і ўскладае яе на чало Данілы. Ліецца малінавы спеў хора, адбіваецца ў высокіх царкоўных зводах, падае на схіленыя галовы ўрачыстай каралеўскай світы. Даніла паволі ўзнімае рукі і епіскап са словамі: «Сіе венчаецца на караля Даніла, раб божы...» намашчвае іх мурам. Даніла ўстае ў шэлесце і ззянні каралеўскіх шатаў. Апіза ўручае яму посах у правую і яблык у левую руку, кажучы: «Далучыўся, кароль, днём святым да ліку непераможных воінаў бязмернага каралеўства хрыстова...»

І ўжо па памяці пісец чытае ўголас:

— Даніло же прія венец в городе Дорогычыне...

— Ніколі... Ніколі рука мая не працягнулася б па посах каралеўскі, каб не арда татарская...

Як быццам бы вырваны з адлеглага сну сам сабе ў адказ прашаптаў Даніла.

— І не тое, што Міндоўг, хітрасцю карону прыдбаўшы, палез з дружынаю сваёй ды з крыжакамі ў зямлю нашую, — працягваў яго думку Васілька. — Што ж, мы спадзяваліся: папа нам дапаможа адапхнуць ад граніц лютых ворагаў нашых. А ён не тое, каб...

— А ён сам хоча з нашых касцей сцяну ад татар узвесці, каб арда часам і да яго трону не дабралася. Вось яно што!

Кароль гнеўна адсунуў шлем з забралам, што ляжаў побач на лаве.

— Гэта табе не Бурундай. Той дык са сваімі войскамі цьмою-цьмушчаю падышоў да зямлі Бельскай і шле пасланцоў: «Іду на Літву, — маўляў, — калі прыяцель ты мне, дык прыходзь з дапамогай». А папа ўсё лёстачкамі, паціхеньку.

— Так, яно так вядома, як усё тут, — загаварыў Васілька, — а можа цяпер папа хоць крыху дапаможа. Няўжо яму лягчэй будзе, калі Бурундай, як семнаццаць год таму Батый, крывёю залье і попелам засыпле землі нашыя...

Кароль падняўся, падышоў да дзвярэй і, выхіліўшыся з іх, клікнуў стражніку:

— Дворскага ка мне!

Неўзабаве дворскі ціхачом усунуўся ў пакой і схіліўшыся стаў ля дзвярэй.

— Легата папскага прымаю, задбай, што трэба.

Мігам паслужнікі расставілі лавы, засцілаючы іх адамашкам і мядзвежымі скурамі, унеслі і раскаталі на падлозе каўры. Дворскі клапаціўся вакол урачыстага ўбранства караля. Князь Васілька таксама загадаў прынесці сёе-тое са сваіх убораў.

Калі пакой прыбраўся ва ўрачысты выгляд і нават пісец перастаў корпацца ў пыльным мяшку з пергаментамі, кароль азваўся да князя Васілька:

— Сядай, Васілёк, браце, вось тут, разам са мною, па правай руцэ.

— Не выпадае, мне, Даніла, ты ж у кароне, — збянтэжыўся Васілька.

— Карона? Яна з рук чужых, а ты маёй душы і цела палавіна.

З дастойным паклонам увайшоў легат і, узняўшы вочы на караля, прамовіў:

— Каралю зямлі рускай, ад айца святога са сталіцы Пятровай, прыношу табе благаслаўленне і надзею яго на...

— Толькі ўсяго? — нецярпліва ўсклікнуў кароль.

Легат ад нечаканасці і здзіўлення ўздрыгнуўся ўсім целам:

...і надзею, што твае хрысталюбівыя воі змогуць сілу бязбожных татар...

— Войска!.. Войска і зброя нам патрэбны! — Кароль сарваўся з месца. — Бурундай з ардою татарскаю ў зямлі яцвяжскай вясны чакае, каб хлынуць полчышчамі на зямлю нашую. Каменя на камені не пакіне.

Легат маўчаў.

— Чаму маўчыш, пасланча? З пустымі рукамі і славаслоўем зноў да нас прыбываеш!.. Сёння прыбыў ты сюды, сёння і назад збірайся! — выкрыкнуў кароль.

Легат скланяўся ў нявольнічых паклонах і задам падаваўся да дзвярэй. Вось ён ціхенька высунуўся з іх, каб больш ужо ніколі не прыносіць каралю Данілу на зямлю рускую благаслаўленне ад хрыстовага намесніка з Вечнага Горада.

Кароль маўчаў. У вачах яго ігралі сухія маланкавыя бліскі злосці і адчаю.

— І зноў самі мы сабе апорай і дапамогаю, — ціха азваўся Васілька.

Васковыя свечы плакалі гарачымі слязьмі і затаплялі пакой мядовым пахам надбужанскіх лугоў і бору.

Вусны каралеўскага пісца бясшумна маліліся.

Люты 1257 года ахутаў землі паміж Бугам і Нарвай сыпкімі снежнымі сумётамі. Пад сценамі мельніцкага замка воўчыя зграі спявалі свае нудныя, жудасныя песні.



*Анатоль Корзун*

# Жнівень у Белавежскай пушчы

*— Мурашкі вам з падушачкамі!*
*— Дзякую.*
*(Народнае прывітанне пчаляру, занятаму падлазкай).*

У такую пару жалуды пачыналі сыпацца румяным краплістым дажджом. Ныралі ў пухкую хвалістую поўсць верасоў, страсаючы з буйнага квецця блакітны дымок пыльцы, або лажыліся на перасохшы ў летнюю спёку шорсткі мох і там даспявалі ў цішы сухіх сонечных поўдняў.

Клыкастыя старыя вяпрыхі выводзілі тады свае чароды з маліннікаў і чарнічных далін на выжары — у дубовае. За імі ціхачом, паўз густыя ельнікі валакліся воўчыя вывадкі. Застывалі за каржакаватымі вываратнямі і пільна сачылі, ці не адаб'ецца дзе ўбок ад чарады гарэзлівае парася. Але вяпрыха, старанна вылускваючы з моху і верасоў хрумсткія жалуды, чуткая на падазроныя шолахі пушчы: пагрозліва рохкала на шурсткіх ды свавольных і ваўкам не квапілася выпрабаваць на ўласнай скуры вастрыню яе клыкоў.

На момант мацёра-вяпрыха спыніла ласавацца жалудамі, насцярожана павярнула рыла ў бок залітага верасамі выгалку, сапнула, трывожна азвалася. Чарада мігам згрудзілася ля маткі. Затрашчаў сухапад — паласатае стадка знікла ў пушчанскай крэкаці. Ваўчыха як бы ад нечаканасці прыпала на пярэднія лапы да зямлі, потым задрала галаву, пацягнула парэпанай мызай паветра і таксама трухтам падалася са сваім вывадкам следам вяпровай чародкі.

Выгалкам, па калена ў верасах, брылі дзве постаці. Перадам ішоў старэйшы, а за ім, стараючыся трапіць след у след, каб не наткнуцца на задрамаўшую ў верасах вужаку, крочыў юнак гадоў чатырнаццаці. Абодва яны ад пояса па шыю былі ўвешаны бортнымі прыладамі і спавіты ўсмоленымі канаплянымі вя-

роўкамі — лазівамі. Кіраваліся яны да разгалістага дуба, што высіўся ля скраю выгалу.

Малады подбегам выперадзіў старэйшага.

— Куды ты? — запытаў яго старэйшы.

— На астракол гляну — маруха можа настраміўся.

— Наўрад, мядзведзь ныне сваімі малымі заняты: у малінніках бушуе ды за звярыным маладняком леташнім ганяецца.

— А як і да борці панадзіўся: дуплянікам уся пушча прапахла.

— Ого! На кале і так стрымець не стане — басюры даўно і косткі разнеслі.

Юнак усё ж абабег вакол дуба, пад якім падвецце скрозь было густа ўткана моцнымі, высокімі ў тры локці і завостранымі зверху дубовымі каллямі. Але нічога на астракол не напаролася, толькі, відаць, зубры пакінулі на іх дзе-недзе шматкі бурай шэрсці, абціраючы са сваіх шый і грудзін назойлівых пушчанскіх кляшчоў.

— Ладуй карабец, я палезу, — загадаў юнаку старэйшы.

Сам жа, спрытна абвіваючы лазівам таўшчэзны камель дуба, вязаў страмёна за страмёнам і павольна стаў падымацца па іх на дрэва.

Тымчасам юнак дабыў крэсіва і губу, скрасаў агню і, падсыпаўшы горсць сухога парахна, раздзьмуў дымар. Потым акуратна ўлажыў у берасцяны карабец сітца, барту з шырокім і вострым лязом, вукліцу, бліскучую вострую дажку з пачарнелым ад смолі тронкам, паверх паклаў распалены дымар.

Бортнік быў ужо на першай галіне і размотваў лазіва. Страмёны замыславата і, здавалася б, назаўсёды зашморгнутыя прыўваходзе на дрэва, цяпер як бы самі па сабе распускаліся. Калі апошняе з іх разышлося, ён зматаў лазіва ў скрутак і ўжо па голлях дабраўся да борці.

— Паведай, як борць, — папрасіў знізу юнак.

— Добра есць — неруш! — задаволена выгукнуў зверху бортнік і стаў спускаць уніз канец лазіва.

Хлопец прымацаваў да яго выладаваны карабец, лёгка тузануў, падаючы знак, што можна падымаць, а сам пайшоў пад старыя елі надраць моху на дымнае вогнішча ад разазлаваных падлазкай пчол.

Наверсе бортнік замацаваў сябе паўпол да дрэва лазівам, адхіліў самабітню, што боўталася пры бортнай даўжні на скручанай з лыка і лазы віціне, ахоўваючы борць ад мядзведзя, і стаў адклешчваць лязом барты даўжыню борці. Растрывожаны яго стукамі рой дуплякоў струменем сыпаўся з лятка, распаўзаўся па сітцы, што ахінала твар бортніка, путаўся ў яго доўгіх валасах, прыкрываючы шыю. Едкі дым з дымара адурманьваў пчол. Яны адляталі прэч, але хутка вярталіся, каб з яшчэ большай заядласцю бараніць сваё гняздо. Бортнік жа ўпарта пранікаў унутр борці, і неўзабаве важкія ад мёду соты павандравалі ў карабец. Калі карабец напоўніўся, бортнік асцярожна спусціў яго на лазіве ўніз. Хлопец заладоўваў соты ў скураны мех-булгу і адпраўляў парожні карабец бортніку.

Сонца паволі сыходзіла з поўдня. Лянiва тлела маленькае дымнае вогнішча пад дубам. Толькі хлопцу не было часу на спачынак: адна булга была даверху напоўнена мёданоснымі вашчынамі, зашморгнена суроўцам і стаяла абапертай аб камель дуба. Ён ладаваў ужо другую булгу, наровячы класці ў яе соты так, каб памясцілася іх там як мага болей, ды каб у хадзе яны не перашкаджалі.

Борць выдалася вельмі ўраджайнай і хлопец ад задавальнення ўюном круціўся вакол дуба. Яго карціла перакінуцца словам з бацькам, але ж баяўся ён узлаваць таго парушэннем пушчанскай звычкі, якая не дазваляе лішне гарланіць у лесе.

Калі чарговы апарожнены карабец знік у густым дубовым вецці хлопец пачуў за плячыма нейкі хруст, як быццам трэск сухой голькі пад асцярожнай нагою чалавека. Не паспеў ён азірнуцца, як чыесьці хваткія рукі кляшчамі заціснулі яму шыю. Хлопец з усяе сілы ірвануўся, упіўся пазногцямі ў чужыя жылістыя запясці, завяргаў нагамі, захроп, але ад тупога ўдару пад рэбры абмяк і асунуўся на зямлю. Да напасніка на падмогу далучыўся другі. Яны запхалі хлопцу вехцем травы рот, вяроўкай акруцілі назад рукі, звязалі ногі. Праз хвіліну цела хлопца бяссільна павісла прытрочанае паўпол да дуба.

Напаснікі застылі, прыслоненыя плячыма да дуба. Гэта былі бялявыя, прысадзістыя, моцна збудаваныя мужчыны. Галовы прыкрывалі стаўбуністыя, скураныя, поўсцю звонку шапкі. Нарукі з язвяцовых шкур былі падпяразаны шырокімі сыраўцовымі дзягамі. На нагах мелі порты з сырога ільнянага палатна, узбраныя ў аборкі, ды лыкавыя лапці. Доўгатварыя, з глыбока пасаджанымі вачыма, яны былі апалены сонцам і вятрамі.

Яны шэптам перагаворваліся ды зырка сачылі за хлопцам.

Хутка з дубовага лісця сплыў напоўнены карабец. Яны апарожнілі яго і, тузануўшы за канец лазіва, закінулі на плечы абедзве булгі, намерваючыся таксама адысці, як і з'явіліся.

Неўзабаве наверсе дуба пачуўся глухі стук. Гэта бортнік заклёпваў борць. Ад лёскату хлопец ачнуўся, затрапятаўся, застагнаў і стаў азірацца.

У далёкім прасвеце бору ўбачыў дзве постаці з булгамі за плячыма. Яны, перабягаючы ад дрэва да дрэва, заглыбляліся

ўсё далей і далей у пушчу, пакуль зусім не зніклі ў яе гушчавіне.

— Яны — яцвягі! — Мільганула думка ў хлопца.

Ён напружыўся з усіх сіл, павярнуўся тварам да дуба. Абціраючыся шчокамі аб шурпатую кару дрэва, намагаўся ссунуць дзягу, якая таймавала яму вусны. Сыровец не паддаваўся. Хлопец раскрываівіў увесь твар. Урэшце дзяга злезла на бараду. Ён выплюнуў вехаць травы і закрычаў немым голасам.

Устрывожаны крыкам сына бортнік кулём скаціўся з вершаліны дрэва, кінуўся да хлопца.

— Хто цябе так, сынок?!

— Забралі!.. Абедзве з сотамі знеслі...

— Хто?

— Яны! Яцвягі. О, там, там пабеглі борам...

Бортнік аслабаніў сыну рукі. Хлопец хутка вызваліўся з прывязі, аслабаніў сабе ногі. Захапіўшы лук, калчан са стрэламі ды барту, яны скочылі следам яцвягаў.

Некаторы час мігалі ў рэдкім сасновым бары іх звітныя постаці. Чуліся патрэскванні сухападу пад нагамі. Потым усё знікла і суцішылася.

Пушча млела ў жары надвячоркавай смагі. Недзе на вершалінах дрэў буркавалі галубы. У ляшчынніку шамацела вавёрка. Сонца паволі апускалася за зубчатыя вярхі елак. Пацягнула халадком. Звольна набліжаўся надвячорак.

Бортнікі вярнуліся ні з чым.

— Няма што, сыне. Яцвяг у пушчы, што чачуга ў рацэ — мігне і следу не пакіне, — прамовіў, абціраючы далонню пот з чала старэйшы.

— Ну і як яны падышлі мяне? — не супакойваўся малады.

— Ведацьмеш, што ў пушчы дзве пары вачэй мусіць быць ды і вуха востра, як у лося.

— Найменш тры гарнцы мёду-дупляніку ды чвэрць камення воску знеслі — бедаваў хлопец.

— Не турбуйся па маласці. Дуплякі мёду назбіраюць. Капа борцей нашых па пушчы раскідана. — Суцяшаў яго бацька. — Добра, што жыцця не пазбавілі, злыдні. Тота ж зноў у Русь сталі набягаць. Трэба цівуну ў Бельск паведаміць, няхай заставу ладзіць, бо зусім нам тут жыцця не стане.

Бортнік яшчэ раз узабраўся да пчол. Закляшчыў, як след, борць. Выпрабаваў самабітню, ці спраўна збівае нязванага лазебніка. Сышоўшы ўніз, ужо разам з сынам, яны выпрабавалі крэпасць колляў, падцясалі іх вяршкі, каб збіты з-пад борці самабітняю звер знайшоў на іх пэўную смерць. Абнавілі на дубе свой знак-кляймо: стралу з пераламанай брэхвай і, сабраўшы свае прылады, падаліся праз выгалак у пушчу.

У гусцеючым змроку, як спозненая цень, захісталася ля колляў пад дубам ліса. Лізнула з травы і моху кроплі пралітага мёду, спрабавала на зуб кавалачак адарванага ад дзягі раменю ды расплылася ў цьме. Недзе за выгалкам не ўтаймоўвалася крыкса-сойка ды на версе бортнага дуба не суніміліся растрывожаныя лазьбаваннем дуплякі.

У Бельскую пушчу прыйшла паркая жнівеньская ноч.

# Уладзімір Гайдук

## КОЛЬКІ

Колькі ў марах маіх
Ёсць жаданняў, надзей...
Ды насупраць жа іх
Жыцця сцежка ідзе.

Колькі ў сэрцы маім
Песень звонкіх, жывых.
Не раз голас дрыжыць,
З болем рвецца да іх.

У вачах у маіх
Агню колькі, любві,
Аж па іх берагі
Многа слёз і тугі.

Колькі думак я склаў,
Быццам кветкі ў вянок,
Толькі ты ў іх адна,
Была вечнай вясной.

Колькі рос я абцёр
Ў каляіны дарог,
Толькі імя тваё
Адшукаць я не мог.

Не такая ж бяда,
Адзінокім не жыў...
Бо паэзія была
Верным другам маім.



* * *

У полі плача вецер-валацужнік.
Асенні сум — мой друг сардэчны —
Вядзе мяне на шэрыя загоны,
Як на магілу залатога лета.

На ўсё свой час, сезоны прамінання
Ідуць парадкам, быццам дзень па ночы,
А мне шкада лістоў, што ападаюць
І птушак, што знікаюць у пралёце.

## КОЛАС

Паглядзі на плён працы
Што зярнят мары
Адкрыта на свет нясе

Убачыш галоднага рукі
Зложаныя да малітвы
Хрыста радзі
Градавы груган нахлынуў
Слёзы адзвінелі косамі
І ў горы чуваць песню змагання

Сялянскае сэрца
Потам аблітае
Праслаў яго
За хлеб свой белы
Не цурайся калыскі дзяцінства.
Глядзі
Надзея збярэцца ў спелы колас.

## БУНТ ДУШЫ

Над адвечнаю пушчай
Закружыўся арол,
Быццам дух спадзявання.
Гэй душа!
Чом агнём ты палаеш?

Хадзі на сцяжынак шляхі,
Ўсё тут блізкае нам!
І шаўковы імхі,
І каса-дзераза.

Можа Бай выйдзе нам на спатканне,
Многа казак раскажа нязнаных.
Мы пасядзем пад дубам.
Дзе паслухаць так люба.
Можа прыдзе,
Мы пачакаем.

Бярозавы сок —
Настой духмянай вясны
Аджане гора ўсё.
Лепш нап'юся халоднай расы,
Ніж чужых чыстых слёз.

Кветка, глянь,
То ж пралеска.
Расцвіла, бо вясна.
Я смяюся,
Са мною цешся.
Ну й краса!

А якія пялёсткі,
Як юнацкія мары,
А водар —
Вачэй таямніца.
Паглядзі.
Што я бачу? —
Агонь сэрца паліць,
Не магу больш дзівіцца...

Уцякаю сам ад сябе
На поле, хай бачаць усе,
Прытулюся да поту жыцця,
Плачу я,
А смяецца душа.

Калі хочаш крычы,
Не ламіся ў бядзе.
Знай, ніколі не йдзі
Лесам ты да людзей.



## СЯЛЯНКА

Беларуская дзяўчына-сялянка —
Маёй паэтычнай каханкай.

Ты музай маёй і натхненнем,
І радасцю, і цярпеннем.

Кшталт твой у зайздрасць кідае Венеру —
Вобраз святое і грэшнае дзевы.

Вочы палоняць святлом таямнічым,
А вусны — штосьць маюць з жывое крыніцы.

А грудзі, ейбогу, адзіна спакуса...
Ўсміхнешся — і ўмомант я заблуджуся...

Постаць твая сярод жыта мільгнула
І песня краса за сэрца кранула.

Руплівая ў працы і першая ў танцы,
Сардэчна, зычліва — праўдзівая грацыя.

Ты сімвалічная і рэальная.
Адна, назаўсёды каханая!

## СЕЛЯНІН-МАСТАК

Прасіліся зярняты
Сваёй дарогі
Ім снілася
Песня калосся

Пальцамі мерыў
Жменю жыцця
З непакоем
І радасцю ў сэрцы

З жаваранкам цешыўся
З праменняў і расы
Сваё тварэнне
Апраўдаў надзеяй

* * *

Ёсць дні, якіх нельга забыць.
І ёсць хвіліны, быццам дні.
Як хутка ўдаль імчаць гады,
Нікомі іх не даганіць.

Час, бы вада з блакітных рэк.
Час, бы зара, ўжо новы дзень
Вітае сонечны прамень,
А чалавека — чалавек.

Гарыць святы агонь жыцця.
Табе кахання боль аддам
У непраходнай смерці брам —
Пачаткам і канцом — зямля.

### ОЙ, НЯМА, ЯК...

Ой, няма, як вясною,
Пад кудравай вярбою
Прашаптаць да світання,
Аб каханні з табою.

Ой, няма, як улетку,
Ля дарогі на ўзмежку
Завіваць у вяночак
Сваё шчасце і кветкі.

Ой, няма, як увосень,
Калі вецер прыносіць
Срэбнае павуцінне,
Вэлюмам табе ў косы.

Ой, няма, як зімою,
Коні мчацца стралою.
З песняй едзе вяселле...
Ой, няма, як з табою!

## Юрка Зубрыцкі

### ДАРОГІ ЖЫЦЦЯ

У канстытуцыі ружы,
самыя ружы.
— У нас роўны ўсе! —
гучыць дзяржаўная мана.
Але чамусьці
у засценках
пад аружжам
Бедных трымаюць,
багатых — няма.
Патрыятызм —
залатым канём!
А за шырмай,
сабраўшыся,
шэптам
Прадавала Польшчу
панскае вараннё,
Часцей — у розніцу,
а ўдасца — оптам.
А каб жылося спакайней пануючым,
Дэфензіва
працавала чыста:
У тайных закутках
вырасталі
кучы
Расстраляных камуністаў.
Зямлю
раскрышылі,
хоць ветрам
павей —
Век
залаты
сялянам
настаў

І праўда:
«Віват!» —
крычаў
багацей,
А бядняк
кулакі
сціскаў.
Сейм...
Пасяджэнні...
хлусні ўзлёты...
З кожнай легальнай трыбуны —
звон:
Калі
сапраўдныя
вы
патрыёты,
Дык
галасуйце
за спісак
АЗоН!*
І бядняк
«незалежны» голас
свой
Аддаваў ім вось
рад не рад,
Аддаваў,
абыякава
махнуўшы
рукой,
І ішоў
у кабалу
назад.
Гаварыў мне
аб гэтым
бацька мой.
І я
ўглядзеўся
ў лёсу
каляіны:

* *Obóz Zjednoczenia Narodowego (OZN) — палітычная арганізацыя, створана ў 1937 годзе на месца скампраметаванага палітычна ББВР: намагалася згуртаваць навокал санацыйнага рэжыму розныя нацыяналістычныя групіроўкі, спрыяла далейшай фашызацыі краіны.*



Як можна
жыць,
калі
безупынна
Так здзекуюцца
над табой?!
Мне,
грамадзяніну ПНР,
дзіўна,
Мне,
гаспадару
краіны!

## ЗМАГАРЫ

Плыве «Змагар», ракоча трубамі.
І змагары на ім іржаць...
О, не ахвота вам займацца трумамі,
Пакуль бакоў іх не праесць іржа.

Салодкім сном, лухтой напоены
У падзеі хочаце ўвайсці.
За месца ў іх свае спакойны вы,
Хоць бестурботны у жыцці.

Праз мёртвы зыб, пад сцягам-саванам
Пустынны розум ваш брыдзе.
Не варты вы людскога слова нат',
Калі вам боязна людзей.

## СВАРОЖЫЧЫ

Прашчур наш дыялектыкі не ведаў,
І не ведаў метадаў другіх.
На сабе пазнаўшы сілу нетраў,
Узнімаўся з тваністай дрыгвы.

У нямым ішоў ён захапленні
На высокаберажны парог,
Каб, сардэчна ўпаўшы на калені,
— Слаўся, — вымавіць, — Сварог!

Ідуць гады, праносяцца стагоддзі,
Распароў дрыгву стальны рапір,
А Сварог з Сварожычамі ходзіць
Берагам завілістай ракі.

## БАЛЛАДА ПРА ЗУБРА

Ішоў па лугах патрыяршай хадою
Зубрыны асілак з зубрынай сям'ёю.

Ішоў сцяжынкай сівабародай
У імшар гадоў, да шчасця бродаў.

Пад залацістым купалам соснаў
Шчыра маліўся ён раніцы роснай

І, апроч сібернае завеі,
У іншыя сілы зямныя не верыў.

Ды людзі прышлі.
І зубра неўзаметку
Друкамі загналі ў бярозаву клетку.

Завезлі яго у заморскія далі,
Сярод кіпарысаў уладкавалі.

Далі яму корму ўсялякага ўдосталь.
— Гадуйся — сказалі. — Не дуйся
заростань.

Узяўся есці было ахвоча,
Ды сум халодны сцяў яму вочы,

І сакавітасці кіпарысныя
Іголкамі вострымі ў вочы пырснулі.

А за жалезным крацістым плотам
Сытыя твары аблітыя потам...

І моліцца зубр пра апошні картэж —
Рагамі на поўнач, у Белавеж.



## ЛЯ ПОМНІКА ПУШКІНУ

Масква. Зіма. Мароз раскатам
Пусціў
па дахах
сонца
ў кар'ер.
Цвярскім бульварам іду з Арбата.
Пушыцца інеем каўнер.
І бачу:
у ззянні дня марознага
Смяюцца залівіста, ад душы,
І тупаюць па снезе грацыёзныя
Чырванашчокія малышы.
Жэўжыкі, захутаныя па вушы,
Кожнага дзядзьку бяруць на прыцэл.
А побач —
проставалосы Пушкін
З капелюшам змятым у руцэ.
Адзін хлапчук узабраўся на санкі
І звонка крычыць паэту:
— Дзядзечка Пушкін,
адзень вушанку!..
Замерзнеш,
цяпер не лета!



*Віктар Кабац*

# Уладыслаў Дваракоўскі

## На світанні

— Якуб! Якуб! — адазвалася Алёна да свайго мужа, які спаў побач яе. — Чуеш, устань.

— Чаго? Што такое? — спрасонку буркнуў Якуб і, сеўшы, вадзіў вачыма па цёмным пакоі хаты.

— Устань, нехта выстраліў недалёка.

— Здалося табе.

— Не, не здалося, выразна чула, у тым баку на Матыса, я ж не спала.

— Мо Андрэй практыкуецца, зброю атрымалі, некалькі чалавек запісалася, ходзяць!

Няўжо Андрэй такі дурань, што запісаўся.

— Ды што ў гэтым дзіўнага, ты бачыш, што робіцца. Сам думаю.

— Ашалеў, я табе запішуся!

— Сябры змагаюцца, а я спадніцы пільную.

— А што мне твае сябры, я з табою жыву і зберагчы хачу.

—Эх Алёна, — уздыхнуў Якуб. — Няма ў нас агульнай мовы...

Сухі вінтовачны выстрал трэснуў Якуба быццам бізун праз плечы. Ён ускочыў з ложка і сунуўшы ногі ў боты, падышоў да акна, потым, прыслухоўваючыся, адчыніў яго і асцярожна выглянуў на панадворак.

Чорна. Толькі контуры будоўлі чорнай плямай адціналіся на цёмным небе. Ніводзін водгук не трывожыў заснуўшых хвілін, толькі недзе далёка-далёка на поўдзень, здавалася, што ледзь чутна пыхцеў цягнік, чах, чах, чах, але гэта было Якубавае сэрца, якое ламаталася ад жаху.

— Якуб, не выглядай — даляцела да яго ціхая просьба, у якой адчувалася трывога, а па хвіліне адчуў побач, прытуліўшаеся гарачае цела, якое дрыжала.

— Нядобра, — шапнуў ён на вуха, — здаецца ў Андрэя бліснуў агонь, ды нешта зваліліся з клуні на зямлю, Андрэй там спіць.

— Мо папяросу прыкурваў.
— Не, Андрэй не курыць, бацька таксама не, мабыць толькі чужыя. Калі б чужыя ламаталі б.
— А хто чуў? Дагэтуль маглі расстраляць, ведаеш.
— Страшна, зачыні акно, можа хто сочыць, барані божа, схавацца не ўспееш, — сказала яна і адышла ў глыбіню пакоя.
Нічога не адказаў. Вытрашчыўшы вочы, глядзеў у цемру, быццам хацеў прагледзець яе і злавіць хаця шорах набліжаючагася няшчасця. Прадчуваў і спадзяваўся, што яно недзе недалёка і нахлыне раптам, неспадзявана, як маланка. Андрэй запісаўся змагацца з ворагамі. Так, запісаўся. Ды што яму? Хлопец малады, прагны барацьбы. Некалькі дзён таму назад вяртаючыся з патрулём, падстрэліў аднаго бандзюгу. Нехта, хаця было гэта поцемку, пазнаў Андрэяў голас, калі той крыкнуў «стой». Чужы не пазнаў бы, мусіў быць свой, бо крыкнуў «папомніш». Адпомсцяць. Можа быць, ведаеш колькі іх тутака ёсць. Удзень сябар, руку падае на прывітанне, а ўначы мардуе ды да «Сталінка» гоніць.
— Якуб?
— Чаго?
— Страшна мне, зачыні акно.
— Зараз, трэба ж паслухаць, а мо гэта толькі зладзеі і выцягнуць што-небудзь хочуць, бандзюгі ішлі б проста па душу.
Якуб углядаўся. Больш нічога асаблівага не было чуваць, толькі пасля нейкага часу ў тым баку, на Зарэчаны, пачуліся выстралы. Спярша адзінокія, потым доўгая кулямётная чарга, выбух здаецца гранаты, а яшчэ пасля нядоўгай паўзы неба пачалося афарбоўвацца чырвонай крывёй пажару.
— Падпалілі злачынцы, відавочна не далі рады ўзяць.
Меў Андрэй рацыю, што запісаўся, больш гэтакіх, тады б не гулялі так.
— З кім гэта ты гаворыш? — трывожна запытала жонка.
— Са сваімі думкамі. Зарэчаны гараць, пэўна, жывым не далі рады ўзяць. Ох, душа разрываецца глядзець на гэта.
—Дзе гарыць? Зарэчаны? Божа мой, дзе Андрэй, чаму яго няма, — крычала Алёна бегаючы па пакоі.
— Ціха, — сыкнуў Якуб, — бачыш, нехта да нас бяжыць.
— Хавайся! Якуб, хутчэй. Чаго стаіш, хавайся! — прасіла яна яго праз слёзы.
Але Якуб не хаваўся. Ён зачыніў акно і, адышоўшы ад яго, углядаўся, як акамянелы, у чырвонае зарыва пажару, на якім выразна адбіваўся чорны сілуэт чалавечай фігуры.
— Андрэй? Не, не можа быць, каб гэта ён? Злачынца? Па аднаму не ходзяць, тады хто ж — думаў ён пільней углядаючыся, нават стрымаў дыханне, каб не было чуваць ломату ўласнага сэрца.



Чорная фігура бегла. У яе рухах было нешта тарапліваe, нейкі поспех, нешта трывожнае, то стрымлівалася, разглядаючыся, то зноў бегла ў напрамку Якубавай хаты.
Якуба нешта кальнула ў сэрца. Ён хутка, не звяртаючы ўвагі на пратэсты жонкі, пайшоў насустрач да дзвярэй, але там ужо ламатаў нехта і жудасным голасам не прасіў але крычаў:
— Якуб, адчыні хутчэй, о, божа! Забілі яго! Доктара хутчэй, Якуб!
Якуб скочыў, як апараны. Алёна за ім. Адчыніўшы дзверы, ён убачыў перад сабою Андрэевага бацьку, Максіма, босага, у адной споднай бялізне, яго плечы ўздымаліся енкам, ён кінуўся да ног Якуба.
— Каго забілі? Дзе? — запытала Алёна.
Але Якуб здагадаўся адразу.
— Андрэя забілі, цяпер былі, а ён, як на няшчасце, лёг спаць у хаце. Божа, Якуб, ратуй! Ён яшчэ жыве, ратуй мяне старога, — прасіў Максім, абнімаючы ягоныя ногі.
— Я не застануся адна, я цябе не пушчу, я разам пайду, яны яшчэ сюды прыдуць і мяне заб'юць, — гаварыла Алёна праз слёзы, хапаючы мужа за рукі.
— Алёна перастань, трэба ратаваць чалавека, яны больш не прыдуць, чуеш, пеўні пяюць — світаць будзе, пойдуць хутчэй.
Калі яны забеглі, Андрэй ляжаў непрытомны. На стале курэла лямпа, а на падлозе каля ложка, на якім ляжаў Андрэй, віднела лужа крыві. Левая рука звісала безуладна да самай зямлі, правай рукой прыкрываў грудзі, з якіх праз пальцы сачылася чырвоная мазь крыві.
Алена крыкнула, падаючыся назад да дзвярэй, але, затрымаўшыся каля іх, пачала плакаць. Андрэй заенчыў, паварушыўся, абцёр з вачэй слёзы, якія цяклі па шчоках, размазваючы кроў па ўсім твары.
— Каня запрагайце, — крыкнуў Якуб. — Алёна простыні дзяры, хутчэй пярыну гатоў, вады абмыць, чаго стаіш!
Калі воз затрымаўся ля хаты, Андрэй зноў заенчыў. Ён расплюшчыў вочы паглядзеў кругом, не пазнаючы нікога, памацаў забінтаваныя грудзі, і ўздыхнуўшы, зноў заплюшчыў вочы.
— Божа мой, Якуб, я не застануся адна, яны прыйдуць тут, паеду разам, Якуб не пакідай мяне, — прасіла Алёна.
Але Якуб не звяртаў увагі. Ён, заціснуўшы зубы, узяў Андрэя на рукі і панёс на воз. Потым, звяртаючыся да жонкі, гнеўна сказаў.
— Не дурэй, да хаты ідзі, яны больш не прыйдуць, каб не ты,

гэтага не было б. Трэба было адразу ўзяцца за зброю і пакончыць з гэтым, чуеш, ідзі, світае, зараз дзень будзе, ідзі.

Калі крыху ад'ехалі ад хаты, Андрэй прыйшоў да прытомнасці. Запытаў куды яго вязуць, а даведаўшыся што ў бальніцу, паклікаў Якуба.

— Нахіліся, — папрасіў, — хачу табе нешта сказаць.

Калі Якуб нахіліўся да гарачага твару Андрэя, той трывожна, ледзь чутна прашаптаў:

— Якуб, вярніся. З левага боку ў пакоі пад падлогай дошку адчыніш... аўтамат і патроны, бяры сабе, вяртайся. Яны яшчэ сёння прыйдуць да цябе. Калі прастрэлілі мне грудзі я прытварыўся мёртвым. Гаварылі паміж сабою, што яшчэ цябе трэба прыкончыць, вяртайся... — голас яго заламаўся, ён крыху памаўчаў, а потым як бы з плачам сказаў:

— Я не выжыву ўсё роўна, слаба мне, вярніся, адпомсці, знаеш хто: Бахно, Баровіч, Герман. Шкада, божа, як баліць, бывай.

Якуб пружынай выскачыў з воза. Алёна — праляцела ў думцы — прыдуць, мо ўжо там яны.

— Вязіце, я вас даганю, дакументы забылі, вязіце ў тую бальніцу, што каля Роха, ведаеце, — крыкнуў Максіму і, не чакаючы адразу, кінуўся назад.

Зарэчаны гарэлі. Чырвоны агар вісеў высока на цёмных хмарах, ён быццам калыхаўся, то патухаў, то зноў мацней разгараўся. Чуўся далёкі гоман, крык, часамі адзінокі выстрал, а з другога боку ад горада раўлі машыны і ясныя шарыкі ракет узрываліся ў цёмнае неба. Гэта ехала войска на дапамогу.

Якуб не памятаў, як перабег гэты кавалак дарогі. Ускочыўшы да Андрэевай хаты, ён вобмацкам знайшоў сховішча. Дакрануўшыся да халоднай сталі аўтамата, ён апрытомнеў. Схапіўшы яго і скрадаючыся як злодзей, пабег да сваёй хаты, але дабегшы ён затрымаўся і стаяў, як акамянелы. Дзверы і вокны былі шырока адчынены, на зямлі валяліся шматкі, шафа была разбіта. Нікога. Паклікаў Алёну. Ніхто не адазваўся. Здагадаўся — былі! Выйшаўшы на панадворак, ён да крыві зацiснуў рукі на аўтамаце... а на ўсходзе світала, пачынаўся новы дзень.

# Міхась Красоўскі

## Небывалы баль

Быў надзвычай цёмны вечар, калі на прыстанку ў полі высыпаліся з ПКС-у пасажыры і памалу пачалі разыходзіцца. Арцём, які чакаў прыезду сына, непадалёк пільнуючы свайго палахлівага каня, пачуў мужчынскі голас з цемры:

— Ці ёсць тут хто з фурманкай? А калі ёсць, то адкуль?!

Арцём пазнаў голас сына і паспешна вымавіў:

— Ёсць, ёсць! Хадзі сюды, сынку!

Калі сядалі на воз, Арцём нават у цемры здолеў заўважыць, што сын яго, Родзік, — якому няпоўных дваццаць адзін год — загадаваў доўгія, аж па плечы, валасы і запусціў даволі значную бараду. Няёмка зрабілася ад гэтага Арцёму. Таму, мажліва, і не вязалася іхняя размова, калі ехалі. На пытанні, якія задаваў сын, бацька эдказваў лаканічна, а часам і неўпапад. Ён цалкам аддаўся думцы: якім спосабам падзейнічае на сына, каб ён сёння ж вечарам збрыў сваю бараду, астрыг валасы. Каб ніхто-ніхталюткі не бачыў яго гэтакім блазнам — ні блізкі, ні далёкі з аднавяскоўцаў. Яшчэ пашанцавала, што прышлося ехаць з гэтакім кудлатым цемрай. А, барані божа, у дзень? А сустрэча са знаёмымі людзьмі? То ж то сорам! Сядзяць побач. Бацька старанна падстрыжаны, выбрыты — чысцюня; сын, малакасос, як манах з барадою і з каўтунамі антычнага велікамучаніка. І гэтая ж дурная мода — недарэчнасць — якая ад культуры ў горадзе родзіцца і разносіцца па свеце, каб яе халера насіла.

Горад, ачаг культуры і цывілізацыі другой палавіны XX-га стагоддзя, выпускае ў свет божы капіраваныя вобразы дапатопных часоў дзікуноў. І Родзік, крывінка мая, сялянскі сын, паддаўся ўплывам гарадскога дурману і, як відаць, не сароміцца, а, магчыма, ганарыцца тым і хоча сябе паказаць у роднай вёсцы гарадскім галганам. Гэтакія горкія думкі Арцёма спыніла пытанне сына:

— А ці Васілёк Казёл прыехаў дадому са Шчэціна, бо ён пісаў мне, што мае гасціць у вёсцы ў гэты час? Вось тут-то Арцёма асяніла. Пачаў расказваць пра Васілька, ды так красамоў-

на і складна, што сам з сябе здзівіўся. І праўду толькі сказаў у адным сказе: што Васілёк прыехаў і ўжо тыдзень жыве дома, і што кожны дзень даведваецца, ці не прыехаў Родзік. А рэшту маніў, хлусіў, як таленавіты ілгун.

— Прыехаў Васілёк — кажа — аброслы барадою, а каўтуны аж на плячах трасуцца. Як на дзікага на якога ўсе ў вёсцы глядзяць. Дзяўчаты зірнуць, адвернуцца і ў кулакі хіхочуць. А хлопцы — то проста рагочуць і ўсё наровяць за бараду Казла хапіць. А дзеці заўсёды за ім, як за камедыянтам па пятах топчуць, не адбіцца. Хоць не выходзь з хаты! А бабка Лабадудзіха, сустрэўшы яго на вуліцы, схапіла за рукаў і давай Васільку ў руку бусі ляпіць.

— Што вы — кажа — бабульку, я ж маладзік, вы — старэйшая.

— І што ж, што маладзік, але вы духоўны, свяціцель.

— Які ж я вам свяціцель, вы не пазналі. Я Васілёк Казлоў.

— А каб ты згарэў — кажа бабка — чортаў Казёл з барадою. А я ж думала, што нейкі бацюшка з другой парафіі.

А Кастусь Бамбіза то заўсёды пры сустрэчы з Васільком становіцца па-ваеннаму «ва фронт» і гучыць на ўвесь голас: «Здравія жалаю генерал-маёр Васілёк Казёл-Казловіч!»

Не будзеш жа біцца з усёй вёскай. Засеў Васілёк дома, нідзе не паказваецца. Аж заходзіць да дому Казлоў дзед Халімон і кажа:

— Ці вы чулі? Сёння мая нявестка прыехала з Беластоку і гаварыла, што на свае вочы цуд бачыла.

— Які цуд — пытаюць дзеда — мо заблудоўскі?

— А зусім не тое. АР-моўцы вылавілі ў горадзе ўсіх маладзікоў з заросшымі барадамі і валасамі. Завядуць іх да цырульніка, машынкай праедуць уздоўж і ўпоперак галавы і барады і... будзь здароў. Калі які грошы меў, — то цырульнік дакончваў пад прэм'ераву прычоску, а які не меў грошай — а гэта найбольш, бо гэтыя валасянікі-лахмачы пераважна ж басякі ды шалуха людская, — то як выйдзе з пасястай галавою і барадою на вуліцу, усе на яго такога, як на амерыканца, глядзяць, і як з пудзіла гарохавага смяюцца.

Пасядзеў яшчэ крыху дзед Халімон і пайшоў дадому. Нядоўга чакаючы, выйшаў з хаты Васілёк і рашуча пайшоў да Марымончука Федзі, нашага вясковага цырульніка. Астрыжаны, агалены стаў прыгожым красунчыкам, адмаладзеў на дваццаць год і скончылася яго пакута, пасмешышча.

Калі бацька пачаў пра Васілька расказваць, то Родзік адсунуўся ад бацькі далей, нібы для выгады, а калі пачуў, што вёска мае свайго цырульніка, запытаў:



— Ці то той Марымончук, што каля школы жыве?

— Той. А які спрытны майстар, гарадскі яму не дакажа. За паваротам дарогі было відаць ясна асвечаную электрычным святлом вуліцу. Родзік адразу замітусіўся на фуры.

— Я тут вылезу на хвіліну, вы там, заехаўшы, ўнясіце мой чамадан дахаты.

— Добра, добра, сынку, — адказаў Арцём.

А Родзік пазаклунькамі, сцежкай у цемры, пакрочыў адразу да Марымончука Федзі, што жыве каля школы.

# Уладзімір Паўлючук

## СОН

Надта ж часта сніцца мне гэты сон. Ні расказаць яго, ні апісаць. Сон наогул не мае сюжэту. Гэта застыўшы нерухомы вобраз, кадр з фільма, затрыманага ў бязруху.

Сам не ведаю нават дакладна, які гэта вобраз: пахучая кветка канюшыны, родны панадворак, твар знаёмай дзяўчыны ў пахучым веснавым садзе? Ці можа крыніца ў полі, над якой, пасучы кароў, стругаў жалейкі? Ведаю толькі, што гэта сніцца мне маё дзяцінства і мая маладосць.

Вобраз згушчаецца, расце, асягае памеры космаса і значэнне філасофскага каменя, адкрыўшага найглыбейшыя таямніцы існавання. Ахоплівае мяне здзіўленне, як я мог дагэтуль не зразумець, што існуе на свеце гэты пах канюшыны; жах, што мог гэтага не зразумець ніколі; радасць, што, зразумеўшы гэта, хопіць пайсці ўлетку туды, дзе над ручаём квітнее канюшына, бзычаць пчолы і дзе ўпершыню марыў аб дзяўчыне, хопіць пайсці туды, каб дасягнуць вяршыню шчасця. Здзіўленне, жах і радасць такія вялікія, што крычу, як кажуць, «дзікім голасам». Потым звычайна, жонка таўхане локцем у бок ды кажа:

— Калі, урэшце, адвучу цябе крычаць праз сон? Лячыся ці што?

Паверыў я аднойчы ў сонныя прароцтвы. Паехаў у Старую Вёску пахадзіць крутымі сцежкамі чалавечага шчасця. Пабыў над крыніцаю, дзе калісьці стругаў жалейкі, пасучы кароў, над ракою, дзе марыў аб дзяўчыне, абышоў хмызнякі і пералескі, дзе з сябрамі гуляў у ваенныя гульні, аблазіў агароды і загарадзь, дзе заўсёды так свойска пахла гарбузамі.

І здзівіўся вельмі: пагоркі ў Старой Вёсцы сталі неяк нізкімі, даліны страцілі сваю глыбіню, хаты сталі, нават тыя мураваныя, карлікавымі. Пчолы нават і тыя бзычаць неяк інакш, канюшына пахне іншым пахам, а заманлівыя гнілкі пад старой Максімавай грушай маюць смак звычайных груш, і няма каму нават збіраць іх зараз. Гасцінцы ў Старой Вёсцы скараціліся, лес прарадзеў і страціў усю сваю таямнічасць, дрэвы пачалі расці ніжэйшымі, баразны на палях сталі плыткімі і людзі ходзяць нейкія іншыя, быццам не тутэйшыя. А дарогай лапочуць трактары і гудуць пад восень на ўсё наваколле малатарні.

Не веру цяпер снам, нават тым найбольш прарочым. Няма ўжо Старой Вёскі, хаця стаяць яшчэ старыя хаты, жыве стары дзядзька Максім і сыплюцца пад восень са старой грушы гнілкі. Бо няма ўжо маёй маладосці, бескарыслівай шчырай гульні з сябрамі, бескарыслівага шчырага кахання, бескарыслівa праведзеных гадзін над рэчкаю і гнілак, якімі ў нядзелю частавалася дзяўчат — бескарыслівa.

Што ж тады рабіць чалавеку са змешчанелай душою, прыехаўшаму ў родную вёску, каб адпачыць ад свайго не пазбаўленага бескарыслівасці жыцця? Што рабіць, калі сны аб краіне шчасця — Парландыі аказаліся маной? Калі натуральная сувязь з вёскай, натуральная паэзія вясковага жыцця і паварот у краіну маладосці стаў немагчымым?

Асталося адно: тварыць вобраз гэтай, пакінутай назаўсёды, краіны штучна — дарогаю гульні слоў і ўяўленняў. Робяць гэта ўсе пакінуўшыя вёску мастакі ды паэты. Вяртаюцца яны да гэтага застыўшага, нерухомага вобразу вёскі іх дзяцінства, прабуючы ў яе краявідзе і яе паэтычных аксесуарах знайсці таямнічы шыфр, таямнічы ключ да шчасця. Прабуюць зноў расцягнуць да бясконца скараціўшыяся гвалтоўна гасцінцы, пашырыць палі, павысіць пагоркі, паглыбіць даліны і надаць Максімавым гнілкам нештадзённы смак першага кахання. Але не толькі мастакі ды паэты. Уласна кажучы, усе выхадцы з вёскі з'яўляюцца па-свойму такімі паэтамі і мастакамі. Усе адчуваюць дзіўную настальгію за гэтай краінай маладосці, не той сапраўднай — босай і галоднай, але той ідэалізаванай — краінай песні, мараў, бадзёрага шчасця.

### ПАХ ЗАСМЕЧАНАЙ ВУЛІЦЫ

На вуліцы гэтай адчуваю сябе ў першы момант страшэнна адзінока. Гэта вуліца майго дзяцінства, па якой бегалася калісьці ў кашульцы, без штонікаў і боса. Улетку вуліца мае свой пах — адзіны і непаўторны — пах раскаленага сонцам каменя, растрэсенай саломы, высахшага гною ў шчылінах шашы. Так не пахне ніводная вуліца ў свеце. Пах гэты ўмомант выклікае ўсю атмасферу дзяцінства: бруднага, босага і недаедзенага. У гэтай атмасферы мой модны плашч, мой капялюш і мой сучасны парт-

фель выдаюцца нечым не на месцы, нечым насмешлівым, не сур'ёзным, нечым абражаючым вёску, вуліцу, гэты пах і маё дзяцінства. З сорамам цісну пад пахаю партфель, уціскаю галаву пад капелюшом і чым хутчэй спяшаю ў знаёмую хату. І толькі тады, калі пераапрануся ды астаўлю ў хаце гарадскі свой багаж — выйду на вясковую вуліцу, каб пацешыцца светам майго дзяцінства. Свет майго дзяцінства перайшоў аднак дзіўны метамарфоз: пахіліліся да зямлі стройныя калісьці хаты, прынізіліся неяк высокія пагоркі, пашчуплелі і паскрамнелі векавечныя дрэвы, зменшыліся лугі, скараціліся дарогі, а даліны сталі плыткімі.

Ля маёй хаты крама, у краме піва, пры піве, як заўсёды — мужчыны. Гарачыя праменні сонца іграюць у тоўстых шкляных куфлях, напоўненых піўнай плынню, асвятляюць запыленыя постаці мужчын. Па нябрытых іх тварах плыве пот змешаны з пылам. Мужчыны размаўляюць. Размова датычыць вясковай штодзённай будзённасці. Размова канкрэтная, немнагаслоўная, напоўненая лянотай і грузасцю спякотнага дня.

Стары Якім выбірае сабе касу.

— Гэтая пэўна добрая, — гаворыць стукаючы астрыём касы ў камень сходкаў.

— Плюньце, дзядзька Якім, брашчыць як бляха, не чуеце?

— Давайце, я вам выберу, во гэтая.

— Палатно мае вельмі тонкае, хутка зострыцца.

— Адкуль ведаеш, што тонкае?

— Ну, што вы дзядзька, не чуеце, вазьміце, во так пакалышыце.

Гэта мой стары сябар, малодшы ад мяне на некалькі гадоў. Лянівым спакойным рухам, поўным гаспадарскай годнасці, бярэ ў руку касу і са знаўствам акрэслівае яе якасць. Потым такім жа самым годным рухам падымае недапіты куфаль піва. Побач п'е з куфля яго жонка, загарэлая на мулятку маладзіца, у фартуху забалочаным — проста ад агарода.

— Плаці ты, баба, — кажа яе муж.

Помню яе маладзенькаю дзяўчынкаю і яго — зухаватым вясковым хлапчуком — было гэта тады, калі перад намі адкрытыя былі ўсе магчымасці і ўсе дарогі жыцця. І яны сваю прафесію, свой стыль жыцця і сваю дарогу выбралі добраахвотна.

Малаважная ў істоце карціна пад крамаю складае неразлучную цэласць з вясковай вуліцаю, з яе пахам, з атмасфераю яе жыцця, з рытмам яе пульса. Раскаленыя сонцам камені, загарэлыя твары, павольныя рухі, лапідарныя, часта грубіянскія размовы, шорсткая сялянская годнасць і дабрадушлівасць на фоне летняга вясковага пейзажа — усё гэта можна было б упаэтызаваць, выэкспанаваць, паднесці да ідэалу, так як зроблена гэта з грубасцю і бесцырымоннасцю амерыканскіх пастухоў — каўбояў.

У гарадской вопратцы і з гарадскім багажом маю пачуццё прыніжанасці ў гэтай атмасферы. Мае словы і жэсты здаюцца быць дзіцячымі, спешчанымі ў параўнанні з жэстамі і словамі маіх калег-сялян, не хапае ім характару, мужчынскай рашучасці і волі.

Па вуліцы прайшла маладая пара. Апранутыя чыста і модна, ішлі трымаючыся за рукі — ён у руках трымаў транзістарны радыёпрыёмнік. Не пасуюць яны да настрою гэтай вёскі, да яе нябрытай атмасферы. Ці за некалькі гадоў пакінуць яны вёску, каб недзе ў свеце рэалізаваць стыль чыстага, моднага, выперфумаванага жыцця? Ці наадварот, у суровай вясковай атмасферы, у прастаце жэстаў, беспрэтэнзыёзнасці слоў, у непасрэднасці людскіх адносін знойдуць мадэль свайго шчасця? А можа яшчэ інакш — можа захочуць змяніць настрой вёскі і пах маёй вуліцы на зусім іншы, модны, сучасны стыль?

## НАКЦЮРН АПУСЦЕЛЫХ ПАЛЁЎ

Восень мае пах мёду, вераснёвага лесу, гнілак пад спелаю грушаю і жоўтых гарбузоў, параскіданых па Максімавым агародзе. Перад усім, аднак, восень пахне полем — пустым і шырокім, бульбяніскам, заранаю скібаю, дымам, які сцелецца ўздоўж межаў.

Штотыдзень пакідаю сваю гарадскую кватэру і запыленую вуліцу, еду за горад, каб выйсці ў, пахучым асеннім настроі, полі. Потым драблю свае адчуванні, бяру іх пад мікраскоп, аглядаю іх формы — хачу такім чынам зразумець сябе, сяброў, жыццё, чалавечае шчасце і неспакой. Бо каб разумець паэзію асенніх палёў, іх прыгажосць і сум — трэба пажыць у гарадской кватэры, а каб разумець жыццё ў гарадской кватэры — трэба ўмець быць адзінокім, адзін на адзін з шырынёю апусцелых асенніх палёў.

Выходжу на паўстанку, з якога відаць Максімавы гумны, луг і край лесу, — з другога боку, абшар палёў аж па суседнюю вёску. Вясковыя палі ніколі не бываюць так абшырнымі і прасторнымі, як восенню. На лузе — некалькі гусак, карова ў бульбяніску ляніва шукае спажывы, на гарызонце араты арэ свой загон і некалькі людзей павольна цягнецца недзе палявою мяжою. Так больш-менш было тут гадоў сто або і дзвесце, і так больш менш, здаецца, павінна быць тут заўсёды да канца свету. Бо

свет за Максімавымі гумнамі мае форму аграмаднай плоскай талеркі, трывалай і ўстойлівай, існуючай наперакор, ці больш за ўсё — незалежна ад часу.

Зусім не так у маёй кватэры. Свет не мае тут увогуле плошчаў, не мае размераў і няма тут нічога ўстойлівага і трывалага. Адчуванне, успрыманне рэальнасці адбываецца не ў катэгорыях прасторы, а ў катэгорыях падзей. Падзеі плывуць адна за другой, аднастайна, няўхільна — усё ў адным напрамку. Падзеі дробныя, штодзённыя, асабістыя: уставанне з ложка, чышчэнне зубоў, дробныя злосці, дробныя радасці, размовы, лісты, інструкцыі, фармуляры, распараджэнні... — свет значэнняў, свет паняццяў — зменлівых, няўстойлівых, свет падзей — вось мой свет — маёй кватэры і маёй канцылярыі, майго горада. Свет за Максімавымі гумнамі існуе ў папярочным разрэзе, свет у маёй кватэры мае форму вертыкальнай простай, наступаючых адна за другою падзей — на адной з яе пунктаў існую я, без размераў і рэальнасці — існую як матэрыяльнае праяўленне яўлення, фармуліровак, юрыдычных законаў, персанальных рубрык, існую толькі дзеля іх, як іх матэрыяльны экземпляр.

Дзіўны гэты штотыднёвы пераход са свету немярымых паняццяў у свет асенняй шырыні. Сядаю ў рове пад карчом, па-дзіцячаму пляту вянкі з апошніх кветак, мармычу пад носам дзіцячыя песні. Потым хаджу палявымі межамі ды складаю вершы палям, маладосці і сумнай восені. Вершы, якіх ніколі не запішу, бо складаюцца яны не на тое, каб іх запісваць. Знаходжу пры тым усім, драмаўшую недзе ў глыбі, сваю ўласную, здавалася б, сапраўдную душу, прытоптаную гарадскім пылам. Для гэтай душы неістотны свет дэфініцый і паняццяў, жыве яна адчуваннем гэтай прасторы, як нечага рэальнага і адзінага ў сваіх непаўторных вартасцях.

На Максімавым полі паводжу сябе па-дзіцячаму дзіўна і неразумна, ашаломлены шырынёй, пахам палёў і ўсім тым, што прыводзяць яны з глыбінь памяці ва ўяўленне.

Пад вечар, калі згінуць з луга гусі, з бульбяніска — каровы і людзі схаваюцца ўглыбі панадворкаў, а палі стануцца абсалютна ўжо пустымі, аўтобус забярэ мяне ў горад. А калі зноў стану на гарадскім тратуары —людным, стомленым і стракатым, адчую ўражанне вяртання са стану нірваны ў звычайны рытм людзей. Вернуцца ўсе мае клопаты і турботы, спешлівасць і нецярплівасць, штодзённасць без абшараў і размераў станецца зноў важнай, істотнай і адзінай у маім жыцці — вернецца сённяшняя мая душа, душа чалавека нашай супярэчлівай цывілізацыі.

Толькі часам, у прамяжутках паміж гэтымі станамі, самога



сябе пытаю: які з гэтых станаў з'яўляецца больш поўным, больш «праўдзівым» адчуваннем рэчаіснасці, якая «душа» з'яўляецца маёй сапраўднай «душой»? І не ведаю на гэта адказу.

## ПАЭЗІЯ МАКСІМАВЫХ ЗАГУМЕННЯЎ

За Максімавымі гумнамі пачынаецца паэзія асенніх палёў, паэзія звычайнай сялянскай працы. Пахне тут дынямі, морквай, разоранай скібай і асеннім сонцам. На разораным бульбяніку група людзей: дзядзька Максім, яго сусед, дзядзькавы госці з горада, што прыехалі памагчы яму збіраць бульбу. Трэба тады і самому ўзяцца да гэтай ад дзяцінства добра вядомай сялянскай працы.

Апрануўшы тоўстыя цяжкія нагавіцы, сунуся з групаю людзей праз Максімава поле. Уся паэзія сялянскай працы ў момант нікне, гіне са свядомасці ўся роскаш гартання агрэтай асеннім сонцам зямлі, перасоўвання поўных кошыкаў бульбы, суіснавання з бязмежнай прасторай палёў. Вернецца яна ізноў, калі атрахнуся з пяску і балота і стануся на гэтым полі асобаю чужою — гарадскім бяздзельнікам. Бо паэзія Максімавых загуменняў, паэзію працы на Максімавым полі можна адчуць і зразумець, толькі з пэўнай да іх дыстанцыі — з перспектывы горада.

Выходзячы з аўтобуса і ўбачыўшы Максімаву пастаць утопленую ў апусцелы краявід, лянівую, павольную, поўную цікага спакою і гармоніі з шэрай шырынёю палёў, з апошнімі саламянымі стрэхамі — у момант разумею і адчуваю ўсю роскаш гэтай лянівай, няспешлівай працы, у момант лаўлю форму Максімавых адчуванняў, Максімавага светапогляду, Максімавага шчасця. Губляю яе поўзаючы па разоранай скібе Максімавага бульбяніка. Губляе яе і сам Максім, стогнучы, охкаючы, наракаючы на боль у правым баку, на дрэнны ўраджай, на цяжкую працу, на старасць, на вялікія падаткі, на людскую няўдзячнасць. І так як я, Максім знаходзіць і з усёй вострасцю ўсведамляе сабе форму свайго сялянскага шчасця, калі прыходзіць яму пакінуць сваю хатку і выехаць у горад, да дзяцей. Бывае тут коратка.

— Бы ў той турме, — тлумачыць, — няма зусім поля і неба толькі кавалачак.

І чым хутчэй вяртаецца пад сваю ўбогую саламяную страху.

Бо ў простай, незмеханізаванай сялянскай працы ёсць нешта з паэзіі ці з містыкі, нешта, як паэзія цяжкае да выяўлення, слоўнага сфармуліравання, нешта, што можна адчуць толькі тады, калі перастанеш быць яе элементам, яе дзейнікам, а стаешся

пабочным яе назіральнікам, пабочным назіральнікам самога сябе.

Разумею цяпер, чаму на тэму Максімавага светапогляду — народнага светапогляду і светапогляду першабытных людзей — ад стагоддзя ідуць між спецыялістамі заўзятыя спрэчкі. Напісана на гэтую тэму сотні аграмадных тамоў, і далей ніхто толкам не ведае, якія погляды Максіма і яму падобных людзей на прыроду, на істоту матэрыі, жыцця, духаў і г.д. Здавалася б нічога прасцейшага: пайсці да майго дзядзькі Максіма ды запытаць, што ён думае аб усім гэтым. Справа аднак у тым, што ён аб гэтым нічога не думае. Не мае сваёй філасофіі, замкнутай у мнагаслоўі ў дапрацаваных катэгорыях і паняццях. «Філасофія» яго замыкаецца ў гэтых павольных, лянівых рухах, у гармоніі з акружаючым краявідам, у канкрэтных вобразах народнай культуры: вобразах асілкаў, дэманаў, добрых і дрэнных тварэнняў, замыкаецца ў багатай народнай абрадавасці, у простых нескладаных народных песнях. «Філасофія» гэтая з'яўляецца менавіта паэзіяй Максімавай працы, няўлоўнай у час самога акту працы і таму не выяўленай ясна ў зразумелых кожнаму катэгорыях і паняццях.

## ГІСТОРЫІ З-НАД РАЗОРАНАЙ СКІБЫ

Збіранне бульбы, як ніводная іншая праца, захавала свой ручны, незмеханізаваны характар. Пры збіранні бульбы можна свабодна размаўляць з суседкамі, можна было б нават супольна спяваць сабе песні.

На Максімавым полі песні аднак не спяваюцца. Адбываецца затое праз увесь дзень асаблівая канфрантацыя: параўноўванне майго жыцця, маіх радасцей, турбот, майго *шчасця* і *няшчасця* — з жыццём іншых людзей. Праз увесь дзень на Максімавым полі разгледзіцца дзесяткі розных чалавечых гісторый, дзесяткі прыкладаў часта дзівосных і незвычайных, разгледзіцца іх з розных бакоў і параўнаецца з уласнымі ўяўленнямі аб жыцці, чалавечай справядлівасці і годнасці.

— Скажыце вы, то ж у гэтай Нінчынай сястры такое дзіва Хадзіў да яе адзін з вёскі і кінуў. Прыехаў другі з Беластока, тут жа і ажаніўся. Сабраліся госці, селі за стол — робяць вяселле. Сваты, сваякі, малады, маладая — усё як трэба. Толькі яны селі за стол, маладая кажа: я выйду на хвілінку, мне нешта нядобра. Вышла, ды няма яе і няма. Пайшоў малады шукаць яе. Глядзіць, а яна ўжо ляжыць і дзіця родзіць. Схапіў малады шапку і чым хутчэй у ногі. І госці разышліся. Вось на чым кончылася. Жыве цяпер адна з дзіцём.



— Нашто ж ужо было ёй выходзіць за другога, калі ў такім стане.

— Але і мужчыны, скажыце, якія халеры: ходзіць, ходзіць, ды і кіне. Чаго ж тады ўжо лазіць, калі не падабаецца.

— То мужчыны! Цяпер народ распусны, ведаеце, не тое, што калісь. Во, пaглядзіце, як жыве Мікалай Доўгі: страціў жонку, калі меў 30 год — трое дзяцей і такая гаспадарка — то ж не ажаніўся. «Дзяцей, — кажа, — шкада. Другая жонка пачне крыўдзіць». I так пражыў неяк.

— Таксама нейкая дурнота надыдзе на чалавека, як і той яго Верцы: чаго ёй не хапала? Ды раптам захацелася павесіцца. Хіба з пяць разоў здымаў яе з вяроўкі, начамі і днямі пільнаваў — у канцы такі павесілася.

Гісторыі дзіўныя, часам страшныя і макабрычныя. Разбор іх прыносіць аднак нейкую асаблівую прыемнасць: аказваецца, што не так ужо дрэнна — ёсць на свеце справы горшыя ад маіх; людзі дурнейшыя, праблемы больш бязвыхадныя, ёсць няшчасці і прыклады да наследвання.

Канфрантацыя на разораным бульбяніку мае і іншы яшчэ характар. Цётка з горада, якая прыехала на два дні дапамагчы збіраць бульбу, супрацьстаўляе вясковаму стылю жыцця гарадскія радасці і прыемнасці.

— Ну і цырк у гэтым годзе прыехаў, яшчэ такога не было. Я ледзь не лопнула, як комікі пачалі даказваць. Кажа адзін другому: давай будзем біцца, насадзіў рукавіцу другім бокам, ды...

— Ерунда там твой цырк! Вось у нас штодзень лепшы цырк, як Федзя пачне сваю жонку ганяць кругом хаты.

А бабулі далікатна, але заўзята ліцытуюць сваіх унукаў: чый прыгажэйшы і разумнейшы.

— Ой, наш Артурэк ужо многа разумее, усё, што не скажаш яму — разумее.

— Што вы яго ахрысцілі так брыдка, я нідзе такога і не чула.

— Гожа, па-гарадскому, гэта толькі дахтары, ды адвакаты так называюць і дзіця само гожае. Чорны-чорны: і валасы, і бровы, і вочы.

— На вёсцы то б сказалі, што нейкае дзіця не сваё, а цыганскае, калі такі чорны.

— Што там вёска, ён не жыве ў вёсцы, ён жыве ў горадзе.

— Але чорны чалавек хутка сівее і хутка старэецца. Наша Ніначка ясьненькая, валасы больш пасуюць.

На разораным бульбяніску прадоўжваецца канфрантацыя...



*Віктар Кабац*

# Сымон Раманчук

## Восень жыцця

Званок зазваніў раз, другі. Шырокаплечы, са змучаным тварам і добрымі вачыма чалавек павольна ўстаў з-за стала, выпраставаўся і, не спяшаючыся, пайшоў да дзвярэй. На парозе стаяў нейкі незнаёмы ў чорным паліто і невялічкім капялюшы.

— Пан Віленскі? — спытаў незнаёмы.

Чалавек са змучаным тварам са здзіўленнем аглядзеў незнаёмага.

— Так, я вас слухаю.

— У мяне да вас справа. Сур'ёзная...

— Тады прашу, заходзьце. Люба! — звярнуўся ён да кагосьці на кухні. — Мяне няма дома! — Прашу, — уваходзячы ў гасцінную, казаў гаспадар. — Калі ласка, сядайце. Я вас слухаю, — працягваў ён, пакуль госць уладкоўваўся ў крэсле.

— Вы знаеце Алега Северскага? — спытаў незнаёмы.

— Так... Але, з кім маю чэсць?..

— Міліцыя. Вось мой дакумент. Мы не хацелі раней вас турбаваць, перашкаджаць у працы, таму што многае трэба было высніць.

— Не разумею... — бляднеючы і прадчуваючы нешта нядобрае, сказаў Віленскі. — Выбачайце, не разумею... Міліцыя? Да мяне?

— Да вас. Вы ведалі Алега, праўда?

— Ведаў, але гэта мне яшчэ нічога не тлумачыць! — працягваў хваляваціца Віленскі.

— Выбачайце, я здаецца, пералякаў вас. Але нам трэва ведаць — вы былі з ім знаёмы? Прашу адказаць, гэта важна. Супакойцеся, вы тут ні пры чым, проста ваш адказ патрэбен, каб лічыць справу закончанай.

— Гэта быў сябра майго юнацтва. Потым мы разышліся, а нават можна сказаць, раз'ехаліся. Я быў за граніцай, дзе быў і што рабіў ён не ведаю. Мы не перапісваліся, хаця калісьці вельмі любілі адзін аднаго.

— А цяпер з ім што? Вы ведаеце? — спакойна спытаў незнаёмы.

— Не. Ведаю толькі, што ён жыў у Шчэціне. Год таму назад нечакана прыйшло ад яго пісьмо. Па поваду маёй кнігі апавяданняў. Дзякаваў. Я паслаў яму адказ, але пісьма больш не атрымаў. Гэтым, праўду кажучы, усё кончылася...

— А ведаеце, пане Віленскі, яго ўжо няма, — ціха сказаў незнаёмы.

— Вы пра што?

— Я кажу яго няма, Алега. Са снежня. Знайшлі мёртвым над каналам у Шчэціне. З гэтым сшыткам у кішэні паліто. Там было запісана. Ён прасіў аддаць сшытак вам...

— Але... не, гэта страшна! Чаму? Як гэта здарылася?... — ускрыкнуў пан Віленскі.

— Урач сказаў, што ён замёрз. Мабыць, быў п'яны. Там яго і пахавалі, — гэтак жа ціха сказаў незнаёмы.

— Сёння я рашыў пабачыць вас і выпаўніць волю даўнейшага вашага знаёмага, а гэтым самым закончыць справу.

— Вы верыце, што яна гэтым закончыцца? — гледзячы недзе ў бок, — спытаў Віленскі. — Чалавек можа загінуў не проста так, — быццам разважаючы з сабою, працягваў ён. — Вы, міліцыя, пішаце «Справа №», адкрываеце і закрываеце тэчку з паперамі гэтай справы, але ці тут канец? Вам патрэбны факты, але за кожным фактам стаіць кусочак чалавечай душы! З гэтым вы лічыцеся?

— Лічымся. Вельмі лічымся...

— Напэўна? — быццам забыўшыся, працягваў Віленскі. — Лічыцеся... А чалавека, усё ж, няма... Жаль, але ўжо позна. Вы сказалі, што сёння справа закончыцца. А для мяне справа толькі пачынаецца. Дзе гэты сшытак?... Дзякуй.

Віленскі ўстаў, узяў памятыя лісты паперы, падышоў да акна, вярнуўся, зноў сеў.

— Я яшчэ вам патрэбен? — углядаючыся ў твар незнаёмага ціха спытаў ён.

— Не, выбачайце, гэта ўсё. Усяго добрага! — развітаўся незнаёмы.

Віленскі працягваў сядзець. Вестка аб смерці даўняга сябра прыкавала яго да крэсла. Раптам яму зрабілася страшна, і ён паклікаў жонку.

— Любка, ты памятаеш? Я расказваў табе аб мастаку, сябры майго дзяцінства. Памятаеш? Вось, прынеслі мне сшытак і аб'явілі, што яго ўжо няма... Не, гэта немагчыма! — ажывіўся ён.

— Гэта несправядліва! Вось табе і Алежка! Кажуць, замёрз



п'яны. І чамусьці захацеў, каб гэты сшытак аддалі мне... Толькі мне! Глядзі, колькі ён напісаў!..

* ✲ *

«Саша! Я не ведаю, чаму мне раптам захацелася пісаць, але, відавочна, так трэба. Чалавеку кепска, калі ён адзін. Хаця ты паслухай мяне... Я буду пісаць урыўкамі; будзь добры, не насміхайся, ляпей пісаць не ўмею. Дат не стаўлю, рэдка іх памятаю... Прачытай, табе спатрэбіцца.

* ✲ *

Як хутка бягуць дні! Быў учора на полі і бачыў умершыя, пустыя палеткі. Пералякала мяне іх безнадзейнае адзіноцтва. Сярод аднавобразнай, шэрай раўніны я не прыкмеціў найменшага следу жыцця. Пуста ўсюды, толькі халодны вецер, быццам магілкавае дыханне, бязлітасна рве кроны дрэваў і нясе ўдаль умершае лісце тапаляў, вербаў, дубоў. Помніш? Мы вучылі:

Грустно и жутко. Заря умирает,
Чёрные лужи повсюду блестят;
Туча всё ниже и ниже сползает,
Меркнет, бледнея, закат.

Небо осеннее сыростью дышит.
Сердце трепещет, ему холодно.
Крикнуть о помощи... Кто же услышит?
В поле безлюдно, темно.

Не ведаю, чаму мне гэтак сумна. Можа таму, што палі ўжо больш не зеляняцца. Але ж вясна зноў прыдзе! Адкуль жа сум? Развітаўся я з думамі, спадзяваннямі, марамі. Адыходзіць не толькі лета, адыходзіць вясна майго юнацтва. Наступае восень. Восень жыцця...

* ✲ *

У маім існаванні многа дзён, якія да мяне не належаць. Гэтыя дні напоўнены страшэннымі зданнямі, быццё якіх нельга вытлумачыць лагічным спосабам. Разумееш, раптам свет закрываецца нейкай чорнай сурветай, якаясьці дзіўная загадкавая сіла разбурае ўсё навокал мяне, — застаюцца толькі руіны. Сёння я магу спакойна гаварыць з табою; пішу і адпачываю. Калінебудзь я раскажу табе гэту дзіўную гісторыю. Гэта яна прынесла з сабою буру, загадала перажыць фантастычны сон і зразу-

мець — іменна зразумець — людзей з самага «дна» жыцця, як гэта вы, эстэты, прывыклі называць людзей уніжаных, якім плацяць за мінуты нізкай звярынай асалоды.

Я пазнаў гэты свет і бачанае яшчэ болей адапхнула мяне ад людзей, сярод якіх я жыву, з якімі сустракаюся. Між намі — бяздонне! Па-мойму, усюды «дно». Розніца вось у чым: адны з людзей — хітрэйшыя, больш спрытныя, якія жывуць як «дно», але ў іх ёсць вялікае ўменне — уменне маскіравацца, ашукваць.

Сэнс «дна» ў тым, што людзі адгэтуль не ўмеюць хітраваць, або гэткія заняткі ім ужо даўным-даўно абрыдлі. Ненавіджу ашуканства, хлусні і ведаю, мне не пазбегнуць адзіноцтва. Таму, калі прыдзе маё крушэнне, пайду шукаць чалавечых пачуццяў на цёмныя вуліцы вялікіх гарадоў, да гэтых маўклівых поўных бесперапыннага чакання ценяў.

* ✲ *

Габэна ведаеш? Француз. Цудоўны «Парыжскі бадзяга». Ты бачыў гэты фільм? Кахаю Парыж, хаця і не быў там ніколі. Праўду кажучы, хачу пабачыць толькі два гарады: Горад Мадзільяні, Тулюз-Латрэка, Жэрар Філіпа, — і той другі, Парыж Паўночны, туманны і задуменны Ленінград. Ах, мары, мары! Зрэшты, гэтым я толькі і жыву.

* ✲ *

Быў канец зімы, ці гэта была ўжо вясна (у святах я не разбіраюся)— не памятаю. Кінуў я Шчэцін, прыехаў на Беласточчыну, у нашу малую, раскінутую на скраю Белавежскай пушчы, вёсачку. Людзі святкавалі Вялікдзень. Пайшоў я ў царкву. Проста, мне хацелася паглядзець на людзей, пачуць хор, ты ж не забыў, як прыгожа ў нас спяваюць!

Мне зноў хацелася паглядзець на натоўп людзей, плывучы вакол белакаменнай царквы. Крэсны ход, гарэўшыя навокал галоўні-лампадкі, напамінаюць нейкія цудоўна-таямнічыя хвіліны. Люблю гэты час, гэтае трапятанне чалавечых сэрцаў. Быў перапынак у набажэнстве. Раптам я прыкмеціў цябе! Ты ішоў з незнаёмай мне дзяўчынай. Жонкай, нарачонай? Мне хацелася падысці, пагаварыць, але я стаяў, не мог ступіць ні кроку. Ты пайшоў, не заўважыў мяне. У тую ноч я больш цябе не бачыў. Ці пабачу калі-небудзь?

* ✲ *

Мой спакой працягваецца, таму і пішу. Не ўдалося мне яшчэ, аднак, вызваліцца ад здарыўшагася. Калі б ты мог бачыць! Пэндзаль мой повен суму. Малюю нявінны тварык дзіцяці, а сум гаворыць, жыве. Гэта след тых трагічных, загінуўшых твараў... Ведаю, твой погляд на жыццё і людзей зусім іншы, больш вучоны, поўны сэнсу, інакш успрыймаючы тыя ж самыя з'явы і факты.

Намаляваў табе лермантаўскага «Дэмана» У. Врубеля. Ён — увасабленне звышчалавечай сілы, след шалёных унутраных перажыванняў, барацьбы. Гэта сімвал парываючай прыгажосці, але прыгажосці, сеючай вакруг, быццам вогненны меч, смерць разрушэння, збіраючай багаты ўраджай людскіх мукаў. На жаль гэты ўсемагутны дэман у сваёй прыгажосці, грозе і сіле — няшчасны і ніхто не зможа ніколі сказаць па якой прычыне, чаму?..

Твая кніжка вельмі мяне зацікавіла. Ты кахаеш людзей, гэта відна. Ты маеш адну пераможную якасць, даражэйшы дар — ты падабаешся ўсім з першага позірку. А я вось, адзін. Сам сабе і блазен і кароль. Сам, таму што нельга вярнуць гуку, які прагучэў, як нельга сабраць з зямлі разлітую ваду...

Ты думаеш я адзін такі? Я знаю многіх паэтаў, артыстаў. Гляджу на іх, прыглядаюся. Ведаеш, што тут найбольш неспадзяванае? Гэтыя людзі, ці то з-за сваёй уражлівасці, ці поглядаў, ці творчых пошукаў, ідуць на касцёр чалавечых плётак і паддаюцца балючаму полымю інквізіцыі — жыццю. Уяві сабе, аказваецца, гэтым людзям якраз найлепш на кастры інквізіцыі. Здагадваешся, чаму? Адтуль лепш за ўсё відаць усякую подласць, людскую нікчэмнасць і ўсялякія іншыя свінствы. А ўсяго гэтага — быццам асенняга балота — няма магчымасці абмінуць.

Адсюль вы, літаратары, і рынуліся ў псіхалагізм. Не пярэчу, ты маеш рацыю, мастакі зрабілі тое ж самае. Усе мы ўзялі на аперацыйны стол адзінку — чалавека. Трэм мы яго, быццам хірургі рэжам, так і гэтак, варочаем, а які толк?

А то ёсць яшчэ і іншыя людзі. Трагічней яны ад упамянутых. Іх трагедыя ў наіўнасці, у донкішоцтве. Гэтыя людзі, ваюючыя з ветракамі, не знаюць спакою. Гэта нейкае дзіўнае змаганне, гэта боскі парыў. Да якіх людзей належу я? Да гэтых апошніх.

Нейкая сіла прыказвае ўзяць пэндзаль у рукі і маляваць. Кладу фарбы, як балота. Хачу, каб больш было ў ёй балота жыцця. Але ніколі мне ніхто праўды не скажа, чаго варта мая праца. Можа яна варта пахвалы, можа толькі пляўка?..

Калі акружаюць мяне цені, страшныя зданні, подласць і зло, тады я дарэмна шукаю збавення. Няма яго! Хочацца ўцячы ў нейкі храм спакою і цішыні. Не знаходжу я яго, і ў гэтым уся мая трагедыя.

* ⁂ *

Трагедыя мая павялічваецца з кожным днём. Ты думаеш, жанчына? Я прытрымліваюся думкі філосафаў: «Жанчына — забаўка, зробленая з паперы; яна цікавая датуль, пакуль яна цэлая; калі яна папсуецца — губляе ўсякую цікавасць, таму што выглядае як кусок парванай паперы».

Мае палотны — гладкае, ліхое балота. Ты, эстэт кахаючы прыгажосць, ці ж захочаш трымаць у сваім доме гэты абсурд — мой малюнак? Зразумела не, наіўны я чалавек! Я нічога не магу табе абяцаць! Не, не прасі мяне, я не магу прыехаць да цябе, я баюся сустрэчы. Яна будзе штучнай. Я чужы для цябе і баюся, мы можам чаго добрага пасварыцца. Вельмі многа змянілася ў нашым жыцці. Не вярнуць переражытага. Жыццё — акіян, а мне яго ніколі не перайсці. І крылляў у мяне няма, ды і лётаць я не ўмею...

Мінулае не вернецца, такі закон. Шкада мне нашай дружбы, шкада школьных год... Ты разумееш, шкада, бяцам шкада жыцця. Праўду кажучы, я больш цаню і даражу тым першым.

Даўно ўжо за поўнач. Пішу бог ведае як! Заўтра зноў дзень барацьбы з самым сабою, з безнадзейным жыццём. Адзіноцтва, як спрут, душыць мяне, сасе кроў, мучыць, як павук муху.

Ведаю, ты ўжо больш ніколі не напішаш да мяне. Навошта табе такі псеўда-друг? Помні толькі — сярод усіх нас, знаўшы цябе, толькі я адзін па-сапраўднаму разумеў твой боль і расчараванні. Выбачай, гэты эгаізм дыктуе ўстаючы дзень. Баюся зноў быць адзін, адзін сярод людзей, сярод белага свету.

Пішы! Зрэшты... Калі атрымаеш гэтыя карткі, мяне ўжо не будзе. Я ведаю гэта. Са мной здарыцца тое ж, што здарылася з адным англійскім матросам, якога змыла вялікая хваля. Ты не чуў аб гэтай гісторыі?.. У 1868 годзе плыў карабель у Лондан. Адзін з членаў экіпажа ў ранак Хрыстова нараджэння бачыў сон: каля мыса хваля змые яго і яшчэ кагосьці, і яны загінуць. Сон паўтарыўся. Быў дан матросу прыказ спусціць шлюпку. Матрос адмовіў. Начальства рашыла запісаць гэты факт у дзённік. Старшы ўзяў за пяро, а матрос прашаптаў: ведаю цяпер, хто другая асоба майго сну. Шлюпку з імі спусцілі; тут велізарнейшая хваля з такой сілай ударыла ў карабель, што шлюпка перавярнулася, а матрос са старшым назаўсёды адышлі з хваляй...

Гэтак і са мною будзе. Як гэта здарыцца — няважна. Але я ведаю, будзе канец. Мяне або заб'юць, або зап'юся да смерці, замерзну пад плотам, як нікому непатрэбны стары сабака...

Гэты сшытак прышлюць табе. Прачытай, успомні. Такі я быў не заўсёды. Гэта восень майго жыцця. Лісты гэтага сшытка — можа да чаго-небудзь і будуць прыгодны. Пра мяне не пішы нічога — я не варты гэтага. Не здзіўляйся, што менавіта табе я пішу аб усім. Калісьці мы разам марылі, помніш? Ты цяпер велічыня, пра цябе ў газетах пішуць. Дай Бог табе шчасця!

Твой даўні сябра, Алег.

П. С. Пра мяне не пішы нічога. Не трэба, каб аба мне помнілі. Бацькоў ужо няма, памяць нікому, значыць, і не патрэбна.

Будзь здароў, шчаслівы, славен!»

# Віктар Рудчык

# Жменя зямлі

Стары Андрэй стаяў перад агароджай і прагна ўзіраўся ў зялёны астравок дрэвак, якія раслі недалёка ад шашы сярод шэрай раўніны палёў. Густое лісце, бы слуўка свае ядро, закрывала ад людскіх вачэй сялянскую сялібу. Урэшце Андрэй цалкам разгубіўся. Проста не ведаў ці яму сніцца, ці сапраўды нейкім цудам з'явіўся ён тут і перад яго вачыма гэтая ж самая «Зарэчанка».

«О, плот паваліўся», — заўважыў Андрэй.

Убіў кол і падпёр кульгавую агароджу.

«Ну, цяпер будзе стаяць», — прашаптаў і, пераадолеўшы няввед-адкуль нарадзіўшаеся хістанне, таўкнуў вароткі.

У саду, пад цяжарам даспелых фруктаў, яблыні кланяліся галінкамі аж да самай зямлі.

Андрэй прагна глядзеў навокал, а вочы яго гарэлі ад радасці: цудоўны ўраджай!

Недзе за зялёным лісцем скрыпнулі дзверы. Адначасова забрахаў сабака — грозна, галасна, заўзята.

— Жук! Ціха, Жук, — адазваўся Андрэй.

Сабака брахаў яшчэ больш злосна.

— А вы чаго тут?

Чужы голас ударыў Андрэя быццам рукой у твар. Раптоўна адвярнуў сваю пасівелую галаву. Убачыў старую, тоўстую жанчыну. Страляла ў яго незычлівым, недаверлівым позіркам.

— Рэкс, пайшоў вон! — закрычала яна.

«Хто гэта? Чаго яна тут? — падумаў Андрэй і раптам здалося яму, што яго яблыні... гэтыя яблыні, якія калісьці садзіў уласнымі рукамі, неяк верцяцца, валяцца, танцуюць, як бы віхар схапіў іх у свае кіпцюры і жане... і ломіць... і круціць... і цёмным туманам прыкрывае... Андрэй азіраецца навокал ды нічога не бачыць.

— Вы да каго? — грыміць жаночы голас.



Слабенькі праменьчык сонца на адну хвіліну раз'ясняе цёмны туман.

— Я? Да каго я?! — усклікае Андрэй.

— Антон! — адвярнуўшы галаву, крычыць жанчына. — Нейкі валацуга ўлез у наш сад!..

«Валацуга?» — слова ляціць каменем, падае знянацку, неспадзявана, выклікае боль, страшэнны боль, ад якога Андрэй аж скульваецца ўдвое.

— ...ды стаіць і маўчыць... — грыміць жанчына.

— «Я... я... валацуга? Тут? У «Зарэчанцы»? Сярод гэтых яблыняў!?

Рукі яму сціскаюцца аж пальцы трашчаць, а па шчоках скальзяць дзве вялікія слязіны. І толькі востры боль вяртае пачуццё рэчаіснасці. Гэта Рэкс — вялікі, каўтунясты сабака — рве Андрэеву нагавіцу.

* ✲ *

Андрэй выпраг каня і падвёў яго пад калодзеж.

Паветра пахла свежым сенам, спелымі чарэшнямі і распаленым пылам.

Жорж стаяў перад калодзежам і валахатым ручніком расціраў загарэлае цела.

— Дык як кірмаш? — запытаў бацьку.

Андрэй нездаволена махнуў рукой.

— Ат, цэлы дзень патраціў і без грошай вяртаюся, — сказаў, не тоячы злосці. — Яны ў гэтай касе, паны, халера, да першай толькі...

— Паспяшайцеся! — ад хаты раздаўся жаночы голас.

— А ты што рабіў? — пацікавіўся бацька.

— Касіў гэты кусок за рэчкай. Убіўся, што рук не чую.

— Касіць — гэта не тое, што там у вашых Фастах...

Паставіўшы на стол глыбокую міску кіслага малака, Андрэева жонка аб'явіла:

— Прышоў ліст ад нашай Нінкі.

Тон яе голасу здаўся Андрэю надта ж шорсткі.

— Ці штосьці злога піша? — запытаў з трывогай.

— А я не магла разабрацца, — сказала жонка голасам, які выразна выяўляў яе раздражненне. — Цяперака ўсе так вучаны, што, калі напіша, дык роднай маці вочы на лоб вылезуць, і нічога не разбярэ. Маеш, чытай! — падала ліст сыну.

Жорж найперш прабег позіркам па радках крывых літар і ўрэшце пачаў чытаць:

«Каханыя! Вельмі спяшаюся. Не гневайцеся, што коратка. На

жаль, на гэты раз не зможам прыехаць да вас у водпуск. Франэк выпадкова дастаў два месцы над Балатонам, а я — прэмію за новы метад палімерызацыі каталітычнай, якую апрацаваў нядаўна наш калектыў...»

— Чаго? — спыніў яго бацька.

— Гэта хімічныя назвы, — паясніў Жорж і чытаў далей:

«...выбіраемся тады на цэлы месяц у Венгрыю...»

— Куды? — пацікавілася маці.

Жорж коратка паясніў, дзе знаходзіцца гэтая краіна ды і зноў вярнуўся да лісту:

«...а дзеці завезлі мы ўжо да бацькоў Франка. Цешуся, што нарэшце пабачу крыху больш, чымсьці бацькоўскае смецце...»

— Што?! Што яна піша?

Словы палі занадта раптоўна. Андрэй не чакаў іх і не мог чакаць. Рука яго замерла напалавіне дарогі паміж міскаю і вуснамі, ды нервова дрыжала і здавалася, што вось-вось упадзе ўніз, як падрэзаная галінка.

— А я думаў, — памалу, як бы праз сілу адазваўся урэшце, — што яна і Франак... значыць пры жніве...

— Пры жніве! Яшчэ чаго! — спыніў яго сын. — А ці не лепш, не выгадней ляжаць на пляжу, мачыць ногі ў вадзе, хадзіць на танцы? Яе рацыя, тата.

Андрэй выразна ўздрыгнуў.

— Жорж...! І ты...? — сказаў гледзячы проста ў яго вочы, быццам у сыноўскіх вачах спадзяваўся знайсці, зусім што другое.

— А так! — пацвердзіў сваё Жорж. — Што б яна тут мела? Рукі, папухлыя ад чортапалоху, і ногі, падзіраўленыя іржышчам.

— Жоржык, сынок! Што ты гаворыш? — умяшалася маці.

— Дык як жа: цалкам астаўляеце нас адных? Ужо мы вам непатрэбныя?

* ✲ *

Плуг хістаўся ў бакі, а конь выцягваў хрыбет і цяжка пераступаў з нагі на нагу. Андрэй ледзь-ледзь утрымоўваў лямех у глебе. Зямля, густа параросшая пырнікам, скутэчна абаранялася перад чалавекам.

Дайшоўшы да канца палоскі Андрэй выкінуў плуг з баразны і пачаў чысціць яго ад зямлі.

«Дык і назбіралася гэтага свінства! — падумаў. — Зусім поле запусціў».

На душы стала цяжка. Андрэй абапершыся на плуг, нейк сумна паглядзеў удалячынь, дзе пад лесам усімі адценкамі чырвонасці зіхацела ападаючае сонца.

— Будзе прыгожая пагода, — прыкінуў сабе Андрэй. — Каб хаця паспець з бульбай.

Апошнім часам усе ніткі вырываліся з яго рук, а чарговая бяда вызначала каляндар яго дзён. Пастаянна прыходзілася спяшацца, пастаянна адзін, аднекуль ні падтрымкі, ні дапамогі.

— Мусіць не паспею, — сцвердзіў ціха, параўняўшы абодва загоны. Сцебануў пугай каня і, цяжка дыхаючы, далей паплёўся за плугам. Ногі штораз часцей пападалі адна на адну, быццам надаела ім ужо насіць Андрэева цела.

Сёння цэлы дзень працаваў ён пры капанні бульбы. Неяк удалося яму наняць некалькі жанчын. Цяпер так трудна знайсці работнікаў у вёсцы! Стараўся тады, як кавалер за паненкай. Выворваў, капаў, клаў мяшкі на воз, вазіў да ям, вяртаўся і зноў выворваў, капаў...

Аднак пад вечар пайшоў яшчэ араць вось гэты кусок.

«Каб паспець пад пшаніцу...» — думаў.

Зачапіў за камень. Плуг са скрыгатам выскачыў з баразны.

— Тррры! — закрычаў Андрэй, рвануўшы лейцы. Конь спыніўся.

— Пры назад! Пры назад! — галасіў гаспадар і цягнуў за плуг, які падаўся ледзь на некалькі сантыметраў. Старыя рукі дрыжэлі ад стомы, а вусны прагна глыталі паветра.

«Адпачыну крыху, — рашыў Андрэй. — Толькі адкашляюся.

Сеў на скібу, абаперся рукамі на пугаўё, а галава адразу асунулася на калені. Здалёк выдаваўся проста шэрай грудой зямлі.

— Адну хвілінку... аддыхаюся... — шаптаў, ловячы паветра, як рыба, якую выкінулі з вады. Стома аднак перамагла волю, а сон цалкам нечакана склеіў яму вочы. Сонныя думкі паплылі свабодна...

— Сястра памерла, дык зямля не твая! — галасіў Андрэй.

— Дастаў пасаг, значыць мая! — бараніўся быўшы швагер.

— Трупам паду, а не...

У паветры мільганула дубінка і Андрэй паляцеў без памяці.

Тут сон абарваўся. Андрэй зноў вярнуўся да рэчаіснасці з краіны ўспамінаў. Над ім стаяла яго родная жонка.

— О, Божа мой, — галасіла. — Бач ты яго, гультая праклятага! Чакаю я яго і чакаю... ужо другі раз вячэру падагрэла... конь з плугам сам вярнуўся... думаю, не дай бог, якое няшчасце сталася... а ён, чорт стары, спіць!

Андрэй працёр вочы.

— Дзе конь? — запытаў цяжка падымаючыся з зямлі.

— Гавару ж, што дома!

— Дома? — недаверліва паўтарыў Андрэй і, не чакаючы адказу, спешна пакрочыў да сваёй сялібы, якую ў вёсцы называлі «Зарэчанкай» — хіба таму, што стаяла ўводдалі за вёскай, ужо за рэчкай.

— Солтыс быў у нас, — спяшаючы за мужам, гаварыла жонка. — Гаварыў, каб канечне заплаціць гэты падатак, бо інакш фінанс зноў прышле зборшчыка.

Андрэй маўчаў, як бы жончыны словы цалкам да яго не даходзілі. Злапаў каня, сцябануў яго пугай і пагнаў назад у поле.

— Ты куды? — шчыра здзівілася жонка.

— Араць, — глуха адказаў Андрэй.

— Што?! Цяпер, сярод ночы? З глузду з'ехаў ці як?

— Мушу гэты кавалак...

— Нічога не мусіш! Спаць!

— Гэты кавалак... на пшаніцу... — трымаўся свайго Андрэй.

* * *

У кутку зіхацеў экран тэлевізара. Жорж, добра пад'еўшы, адпачываў рассеўшыся ў мяккім крэсле. Праграма не надта ж яго зацікаўляла. Увагу яго займала думка пра тое, што сёння выявіў яму сябра з камітэта.

— А ведаеш, не стрымаў урэшце і звярнуўся да жонкі, якая з дачушкай на каленях сядзела побач, — наш дырэктар шукае кагосьці на кіраўніка аддзела эляны.

— Дык што?

— Магчыма... — Жорж на момант спыніў голас, таемна прымружыўшы вочы, — магчыма... — гаварыў расцягваючы словы.

— Ты? — выразна пацікавілася Варка. Жорж сцвярджальна кіўнуў галавою.

— Навошта гэта табе?

— Шацунак у людзей і... зразумела, плата шмат вышэйшая.

— Дык хіба магу гэтым разам разлічваць на футра?

— А ці я калі-небудзь шкадаваў табе грошай?

— Тата, а мне лялыку, — загаманіла дачушка. — Вялікую лялыку і каб гаварыла «мама».

Дзверы адчыніліся з трэскам.

— Мама, дай ключ! — Да нас ліст! — ужо ад парога крычаў кучаравы хлапчук.

Варка прыглядзелася адрасу. Кульгавыя, і неахайныя літары, выведзеныя рукой не прывыкшай да алоўка білі ўзаемна сабе паклоны, як калоссе акалочанага збожжа.

— Чытай, гэта пэўна ад тваіх, — падала ліст мужу.

Жорж раскрыў канверт.



«У першых словах нашага лісту, — чытаў, — паведамляем вас, дарагія дзеткі, што мы, дзякуючы богу, жывыя і здаровыя, чаго і вам таксама жадаем. Толькі мне гэты праклятыя раматус жыць не дае, ногі ломіць, а бацьку ў грудзях як бы сэрца баліць, ды кашаль страшэнны мучыць, што спаць не можа. А што добрага чуваць у вас? Ці дзеткі вашыя каханыя, значыць Эльвірка і Ярэк, здаровыя і вясёлыя? Бо ў нас, значыць, у вёсцы была адна такая камісія, што гаспадароў на трупаў, гавораць, эканамічных ці нейкіх другіх запісвала. Мабыць пазыкі з банку даваць будуць ды ульгі ў падатку таксама ж. Да нас аднак жа не прыйшлі, праклятыя! Бацька хадзіў да старшыні самага гміннага, дык ён сказаў, што мы ўжо гэтакі зусім труп, і грошай нам няма што даваць, і ульгі таксама нічога не дапамогуць, бо і так ужо незадоўга гаспадарка нашая, кажа гультай, пойдзе пад дзяржаву...»

— Што?! — крыкнуў Жорж. — Простыя словы бацькаўскага лісту разбудзілі ў яго сэрцы прытухлую любоў да бацькаўшчыны, з якою ж спалучалі яго непарыўныя вузлы ўспамінаў.

Гарачае вось лета, чэрвень. На лугах звіняць косы, паветра прыносіць цудоўны пах свежага сена, а ён ускочыўшы на каня, жанецца аж пыль стаўбом ляціць... Другім разам ідзе за каровамі, састаўляе снапы ў дзесяткі, ганяецца разам з іншымі хлопцамі, босымі нагамі топча за плугам бацькаўскую зямлю... гэтую зямлю, якую цяпер...

Усё гэта асталося так далёка за ім, але аднака ж яно і блізкае, і мілае яго сэрцу...

— Зноў гэтыя пастаянныя турботы з тваімі старымі! — з яўнай злосцю сказала Варка. — Ці не досыць нам сваёй бяды?

— Ты штосьці гаварыла? — Жорж атрахнуўся з задуменнасці.

— Не! Спявала куплет пад загалоўкам «Страшны двор» паважаных цесцяў.

— Чаго чапляешся?

— Я не чапляюся, але ўжо вышэй носа маю і гэтай тваёй гаспадаркі, і гэтых пастаянных жаляў, і гэтай жабраніны грошай!..

— Да каго маюць звяртацца? Я іх сын!

— Гэта мяшок без дна.

— Не магу ж іх...

— «Не магу, не магу...» — паўтараеш мне гэта, як папугай. Прадалі б, к чорту, гэтую гаспадарку і быў бы канец!

Прадаць... Жорж не адзін раз разважаў гэтакую магчымасць. Хутар нядрэнны, зямля ўраджайная, уся ў купе, добры даезд да горада. Развесці б там агародніну! Ох, даход быў бы, даход! Купец знойдзецца. Толькі бацькі...

— Юрка, а сколькі, для прыкладу, было б за гэтую вашу «Зарэчанку»? — пацікавілася Варка.
— Ці я ведаю... — задумаўся Жорж. — Хіба нейкія дзве сотні...
— А, нічога сабе! — усклікнула Варка. — Самаход бы купілі і піяніна для Эльвіркі, каб іграць вучылася. Яна так прыгожа ў нас спявае...
— Не забывай, што сястра Ніна таксама мае права да бацькаўшчыны.
— А хто яе бачыў у «Зарэчанцы»? Вялікай вучонай стала! Носа са сталіцы не паказвае. Хто найбольш забіваўся на гэтай зямлі? Ані водпуску, ані свята! Нам па-праву свята належыцца...
Жорж міма вушэй пусціў словы жонкі. Так, гэта праўда, яго пот шчодра перамяшаўся з бацькаўскай зямлёю. Не, нельга чакаць, нельга дапусціць, каб гэтую пладаносную зямлю забралі за даўгі.
«Калі б знайшоўся купец... Дык можна папрабаваць».

* ✲ *

Была нядзеля. Жонка раненька пайшла ў царкву, а Андрэй блытаўся па панадворку, не знаходзячы для сябе ні месца, ні занятку.
У суботу вечарам зусім нечакана прыехаў сын. Андрэй чакаў ад яго грошай. Два тыдні ўжо за іконамі мацеры божай ляжалі квітанцыі з пячаткамі фінансавага аддзела. На днях мог прыбыць зборшчык. Цяпер нікому не даруюць.
«З парадамі прыехаў, гаўняк! — злосцінца Андрэй, прыпомніўшы сабе ўчарашнюю размову з сынам. — Прадай! Пакінь! Астаў! Забыла ўжо цяля, што карову ссала!»
— Добры дзень, кум!
Андрэй падняў галаву. Перад ім стаяў Мікалай Чурбак, стары сябра і кум, усе дзеці Андрэевы пахрысціў.
— Не кожнаму добры, — неяк сумна адказаў Андрэй.
— Бачу, бяда нейкая вас мучыць, кум, — загаварыў Мікалай. — Дык хіба праўда тады наконт... ну, што нібыта... Пэўна, чалавек цэлае жыццё на зямельцы гэтай пражыў, прагараваў... прывык... шкада..
— А вы, кум, пра што?
— Ну, пра аб'яву, што...
З агарода прыйшоў Жорж.
— Ааа, хроснік, бачу, прыехаў, — спыняючы гутарку з Андрэем, звярнуўся Мікалай да Жоржа.



— А як жа, прыехаў, — тупым голасам заявіў Андрэй. — Учора прыехаў.
— Добры дзень інжынер! — урачыста прывітаўся Мікалай, сціскаючы хросніку руку. Жорж моўчкі кіўнуў галавой. Не меў сёння ахвоты на пустую размову. Твар яго быў суровы, станоўчы, але душу залівалу непакой. Бацька яшчэ нічога пэўнага не ведаў. Учора Жорж ледзь напамыкаў. Баяўся, што бацька залуецца, пачне крычаць, наракаць... Ды вось табе на! Прылез з газетай! Прыдзецца карты адкрыць. Добра, што маткі няма дома...
— А што, купіць, хочаце? — стараючыся прыдаць свайму голасу абыякавае гучанне, запытаў Жорж.
— Купіць не купіць, але патаргаваць можна.
«Пра што яны!» — устрывожана думаў Андрэй. Яго вочы блудзілі па тварах знаёмых яму і блізкіх людзей, але твары гэтыя патаналі недзе ў імгле.
— Не скажу, парадачны кавалак зямлі ды па-суседску, прыдаўся б, толькі фінанс, халера, зараз правізію дапіша, — гаварыў Мікалай.
Андрэй урэшце дадумаўся, што гутарка ідзе пра яго «Зарэчанку». Ліхаманкава затрасліся яму рукі.
— Я нічога не прадаю!— закрычаў адступаючы крок назад, як бы баяўся, што яго злапаюць, звяжуць і замкнуць у турму.
— Ну, а гэтая аб'ява ў газеце? Нібыта яна да вас не адносіцца? — не скрываючы свайго здзіўлення, запытаў Мікалай.
— А як жа, адносіцца, — сказаў Жорж.
— Нідзе не падаваў я ніякай аб'явы! — распачліва закрычаў Андрэй...
— Але я даваў! — таксама голасна адрэзаў яму сын.
— Ты?! — Андрэя цэлага аж затрасло, а ў вугалках яго вуснаў з'явіліся пузырчыкі белай пены. — Ты?! — паўтарыў, абкідаючы сына чужым, непрыхільным позіркам.
— Я! — нахабна адказаў Жорж.
— Пакажыце, кум! — Андрэй вырваў з рук Мікалая газету і нервова пачаў перагортваць старонкі. — Дзе гэта?!
Мікалай паказаў Жоржаву аб'яву. Літары мігацелі ды расплываліся ў вачах і Андрэй не змог прачытаць ані воднага слова. Гэтая бязраднасць яшчэ больш яго ўзбурыла. Скамечыў газету і скочыў да сына.
— Хто цябе прасіў, гаўняк! — закрычаў, дзёргаючы за каўнер пінжака.
— А хто прасіў у мяне грошай? — заліваючыся чырвонай злосцю прагаварыў Жорж. Папаў метка. Андрэевы пальцы раптоўна аслаблі і асунуліся ўніз.

— Усёціха, за маімі плячыма... Нікому я стары ўжо не патрэбны... не прыдатны... — скардзіўся Андрэй.

— А ці можна з вамі спакойна?.. — паяднаўча адазваўся Жорж.

— Спачатку абакралі старога, вывезлі ўсё з дому... думаў, вучацца, на людзей выйдуць... і маеш табе! Ідзі, дзеду, з торбай, у свет шырокі!

— Тата!

— Вон! Прэч!

Андрэева рука паказвала дарожку, што вяла да шашы.

— Няма чаго злавацца, кум, — сказаў Мікалай. — Трэба спакойна падумаць, абмеркаваць.

— Пра што тут думаць!

— Хай тады бацька чакае аж суд нам на галавы ўлезе!

Так, гэтага найбольш баяўся. Не адзін раз зрываўся са сну, расціраў вочы, і толькі тады пераконваўся, што яшчэ ён у сябе, у сваёй «Зарэчанцы», дзе амаль семдзесят год таму нарадзіўся. І цяпер аставіць гэта ўсё невядома каму? Не! Не!

— Хочам як найлепш, — гаварыў сын. — То ж гэтая зямля толькі паглынае нашыя грошы, а даходу ніякага. Нінка таксама за тым, каб прадаць. Вось ліст ад яе, — дастаў з кішэні белы канверт, заадрасаваны добра вядомым Андрэю почыркам. Калі ліст прыходзіў з пошты, заўсёды неяк устрывожана адзывалася яго сэрца. Цяпер аднак нават рукі не падняў. Здавалася яму, што нешта ў ім абарвалася, быццам ненасытныя зладзеі ўкралі палавіну яго сэрца.

— У горадзе, тата, пасядзіце, унукаў падгадуеце. І ў мяне, і ў Нінкі месца знойдзецца.

— Чужой ласкі не патрабую! — закрычаў Андрэй. Верх зноў брала даўнейшая ганарыстасць багатага Андрэя, уласніка «Зарэчанкі», якой усе яму зайздросцілі.

На дарожцы, што бегла ад шашы, паявілася легкавая машына.

«Ці ж бы нейкі купец?» — падумаў Жорж і пайшоў яму насустрач.

* ✻ *

З высокага судовага пад'езду Андрэй сышоў хісткім цяжкім крокам, як бы баяўся, што вось-вось зямля абарвецца яму пад нагамі, і ён паляціць у бяздонную пропасць.

Некалькі хвілін таму назад падпісаў у пана рэента дакумент. Гэты подпіс... Як дзяцюк з першага класа, вадзіў рукой па белай паперы, траслося ў яго старых пальцах, а ён так і не змог дапісаць апошняй літары свайго прозвішча.



Побач ішлі дачка, сын, новыя ўласнікі «Зарэчанкі» і сведкі. Усе вясёлыя, задаволеныя, што іх справу ўрэшце аформлена, дагаварваюцца, дзе бы найлепш «замачыць» яе.

Толькі Андрэю ўсё гэтае неяк чужое, далёкае. Хай сабе ідуць, хай гавораць... Андрэй стаіць на тратуары, блудзіць позіркам па небасяжных дамах вялікага горада і раптам адчувае сябе маленькім, загубленым, як мурашка сярод дрымучага лесу.

Бываў Андрэй тут толькі госцем, раз у год на Яна прыязджаў на кірмаш.

А цяпер?

Свет шырокі, столькі ў ім прастору, дарог і сцяжынак. Якая мае быць цяпер яго? Дзе яму знайсці прытулак і звычайныя турботы, да якіх прывык ад маленства? Чым заняць час?

Мімавольна хавае руку пад кашулю. У далоні чуе невялічкую торбачку сагрэтую яго целам. Моцна, проста сутаргава сціскае яе пальцамі.

— Зямля...! Мая... мая... зямля...!

— Тата, ідзём! — прыказаў сын.

Андрэй не варухнуўся. Толькі яшчэ мацней прыціснуў да грудзей гэтую торбачку.

— Тата, што з табой? — занепакоілася дачка.

— Усё забралі... усё... — шаптаў Андрэй, а дзве вялікія слязінкі скакалі па глыбокіх баразнах яго старэчага твару.

Дзеці ўзялі яго пад рукі. Андрэй ішоў цяжка, валочачы ногі.


*Анатоль Корзун*

# Пацалункі Кастухі

Пра іх гавораць: героі. Гляджу на яго. Пабялелыя валасы, парэзаны змаршчынамі твар. Звычайны чалавек. Толькі высокі, плячысты, здаравенны. Здаецца вось-вось схопіць за каўнер і швырне цябе недзе на вяршыну дрэва. А швырнуць яму ёсць чым. Мая далонь, калі вітаюся з ім, хаваецца ў яго руцэ, быццам далонь нейкага дзіцяці. Проста трудна паверыць, што гэты чалавек дзесяткі раз ужо развітаўся з жыццём, што Старая Кастуха была яго штодзённай сяброўкай.

1.

Стары вопытны фельчар з Орлі, Вансовіч, спачувальна паглядзеў у твар Язэпу Маркоўскаму.

— Не, браток, ніякія лекары табе нічога ўжо...

— Як?! Дык я...

Клешчы жалю заціснулі горла. Вочы, здавалася, выскачаць на лоб. Язэп быццам жывую ўявіў сабе Кастуху, што касой сваёй злавеснай вось-вось кранае яго горла. Пажаўцелы, худы, змучаны твар пакрыўся маршчынамі болю.

«Уміраць? Цяпер... Не дажыўшы трыццаці год? Не! Не!!!

А двое дзяцей? А жонка?!»

Як рэха пахавальнага звона недзе з перагародак мінулага часу, даходзяць да яго свядомасці словы каменданта беластоцкай турмы:

— Чырвонага раю хочаце?! — Вось там, — камендант паказвае на ўсход, — там ваш чырвоны рай! А тут, тут... і ўміраць я вам не дазволю і жыць не будзеце!

Калі гэта было? — прыпамінае Язэп. — Тады, 17-га лютага 1937 года? Падчас гэтай трохднёвай галадоўкі? Не, здаецца, крыху раней, здаецца тады, калі пратэставалі супраць абмежавання перасылак толькі да двух кілаграмаў у месяц. Так, напэўна, тады ён...

А зрэшты ўсё роўна! Кожны ж турэмны дзень камуністаў быў перапоўнены напружаным змаганнем.

— Калі выйдзеш адсюль, зубамі муру будзеш трымацца! — грыміць камендант, а злосць яго разам з пенай сплывае па барадзе.

У прытухлых ад пакуты вачах маладога, рослага, шырокаплечага мужчыны гарыць прага жыцця.

«Давялі, каты!» — скрыгочуць зубы.

Язэпу шырокія далоні сціскаюцца ў кулакі.

* ✲ *

За што яго так?

Язэп Маркоўскі быў звычайным хлеба робам. Нарадзіўся ў 1908 годзе ў вёсцы Дэніскі, што на Бельшчыне. На бацькоўскай гаспадарцы не стала яму месца. Прыйшлося пакінуць яе старэйшаму брату. Пайшоў у прымакі. Спадзяваўся шчасця, знайшоў гора.

Быў 1932 год. Язэп паехаў на шарварак.

— Што так спяшаешся, прымак? — загаварыў Мікалай Тымінскі, Язэпаў знаёмы з суседняй вёскі, — яшчэ паспееш адрабіць гэтую паншчыну. Давай закурым.

— Ахвотна, калі маеш што курыць.

Гутарка пайшла аб справах блізкіх мужыцкай скуры.

— Ты цяпер буржуй, — хітравата жмурачы вочы гаварыў Тымінскі. — Да скраблякоўскага пана на заробак пайшоў, мельнікам стаў. Ад грошай, пэўна, кішэні ўжо абрываюцца.

— І ворагу не жадаў бы гэтакай ласкі. Працуеш па 12 гадзін у дзень, а заробіш толькі, што на 2 кг цукру не хопіць. Адна бяда.

— На бяду таксама ёсць лякарства.

— Няўжо ж? — жыва пацікавіўся Язэп.

Не першы раз прыходзілася яму гутарыць з тым чалавекам. Ён заўсёды не так, як другія сяляне, што аб пасевах, аб жывіне ці пра кірмаш... ён пераважна інакш, неяк таямніча, што слаўцо, то мацнейшае, палітыкай пахне. Як цяпер.

— Ёсць лякарства на бяду, на нашую мужыцкую, батрацкую, — гаворыць, а позірк яго ляціць за стужкамі дыму недзе далёка-далёка. — Ёсць партыя такая, камуністычная, значыць, яна...

— Гэй там, гультаі! Даволі сядзець! — крычыць загадчык.

* ✲ *

Да Язэпа Маркоўскага прыстала яшчэ трох: Рыгор Каршак, Еўдакім Місюк і Мікалай Сліўскі. Усе прымакі. Язэп быў у іх сакратаром. Сувязь трымаў з Хведарам Грыгаруком з Гусакоў.

— Язэп, заўтра збор ва ўрочышчы Баравая.

— Язэп, са сваімі хлопцамі ты вось гэтую літаратуру.

— Язэп, у Гайнаўцы забастоўка. Патрэбны хлеб, мука, бульба, крупа... Язэп, на МОПР неяк малавата ад вашых... Пастарайся.

А Язэп шопатам пераказваў сваім таварышам. Потым недзе на світанні, ціха, бы кот, каб дамаўнікоў не разбудзіць, падкрадаўся да пасцелі.

— Дзе цябе чэрці носяць?! — галасіла жонка. — Мусіць ужо бабу нейкую сабе знайшоў!

Моўчкі, злапаўшы кусок хлеба, ішоў Язэп у млын на сваю пасаду, што з ласкі пана... Млынавыя каменні гаргочуць, як зубы галоднага звера. У галаве кружыцца ад стомы. Хаця б гадзінку заснуць, адпачыць!

— Дзядзька Язэп, дзядзька Язэп! — голас хлапчука гучыць неяк трывожна. — Вас у Райск... Там паўстанне!...

«О, малайчына Чарвінскі! — сцвярджае ў думках Маркоўскі, — не дарма, значыць, гаварыў ён пра рэвалюцыю, калі выступаў на зборах... — і бач — паўстанне ў яго!»

— Заступі мяне, — просіць Язэп свайго памочніка. — Мне трэба тэрмінова дахаты.

І бяжыць у Райск.

* ✲ *

А на прадвесні 1936 года ў Бельску...

— Сведак Чарвінскі, — пытае суддзя, — ці ведаеце вось гэтага абвінавачанага?

— Ведаю, высокі судзе. Ён член Камуністычнай партыі Заходняй Беларусі. Я ў яго тры дні скрываўся пасля райскага бунту.

«Гэта так? Гадзюка! Прадаў ты нас...! Праз цябе столькі бяды...» — ляцяць горкія думкі і Язэп бачыць перад сабой начальніка бельскай «дэфы».

— Браць яго! — прыказвае Майсей Радульскі.

І двух паліцаяў пакідае стол, на якім карты і фляшка гарэлкі.

Язэп павярнуўся, бы раз'юшаны мядзведзь. Паліцаі, як мухі адляцелі ад яго. Прыбеглі другія. Збілі з ног, звязалі ў кій.

«О, каб не кайданы!» — скрагоча зубамі Язэп перавальваючыся з боку на бок, бы калода.

Б'юць палкамі ў падошвы ног.

— Хто знаходзіўся ў вашай ячэйцы? — паўтарае пытанне Радульскі. — Маўчыш?! Леватыва! — крычыць начальнік «дэфензівы».

Гумовую трубку ўціскаюць у нос аж да горла. І раптам булькае нафта, залівае горла... адна паўлітроўка... другая... трэцяя. Смурод і боль... Страшэнны боль... Здаецца, што ўсё гарыць, проста лоб развальваецца. Пакуль не патраціш свядомасці... А яны смяюцца, рагочуць.

Карузель здзекаў кружыцца сем дзён.

За што? Якім правам? Ён жа нікога не крануў, нічога не ўкраў...

— А гэтыя лістоўкі, сцягі, газеты, што словы праўды, мужыцкай, рабочай праўды рассявалі...

І за гэта і палкі, і нафта, і турэмны карцэр.

— ...памерці не дам, і жыць не будзеш! — грыміць турэмны начальнік.

Вясенняе дыханне ветру прыносіць востры пах бэзу, за акном у агародчыку зацвілі цюльпаны...

— Пане доктар! Я ж... у мяне двое дзяцей... Няўжо мне?

Стары фельчар спачувальна ўздыхае.

— Паспрабуем, — гаворыць.

На змучаным і пажоўклым твары загарэлася слабенькая іскрынка надзеі, як бы смерць не яго, а ён гэтую Кастуху злавіў за горла і з яе касой назад увапхнуў у кішэню.

2.

Над галавой скрыпяць дошкі, прыціскаюць плечы. Маці прыкідваецца хворай. Тыф — найлепшы спосаб на германцаў. Язэп ужо ледзь вытрымоўвае. Яго аграмаднае цела проста не памяшчаецца пад ложкам. А бабе гэтай цалкам не спяшаецца. Расселася, бы курыца на гняздзе. Хіба шпіёнка нейкая. Можа гітлераўцы ўжо штосьці пранюхалі?

Мароз, што белым ініем абляпіў падлогу пры падваліне, праціскаўся Язэпу пад кашулю.

«Чаму брат не выпудзіш яе к чорту?! Разгаварыўся, як з кумой нейкай!» — скрыгоча Язэп зубамі.

Ужо трэці месяц скрываўся ў брата Хведара ў Дэнісках.

* ✲ *

Прадстаўнікі савецкай улады Бельскага раёна паставілі Язэпа Маркоўскага найперш загадчыкам звыш тысячагектаровага маёнтку былога дзедзіца Стажынскага са Страблі, пасля кіраўніком страблеўскага млына. Урэшце збыліся яго мары, браў заплату за гады змаганняў, за здзекі і турэмныя нявыгады. Начальнікі яму давяралі. У лютым 1940 года Язэп Маркоўскі атрымаў членскі білет ВКП(б).

Вайна захапіла яго знянацку пад Замбровам у казармах 49-га асобага сапернага батальёна. Адступаў. Галодны, з абцёртымі нагамі адступаў аж пад Мінск. Адбіўшыся ад сваёй воінскай часці, адзін праходзіў непадалёк роднай вёскі. І не спыніўся, хаця дзеці дома чакалі. Ён астаўся савецкім салдатам. Ішоў на ўсход, каб потым біць фашыстаў. Пад Мінскам полк прымае бой. Няроўны, адчайны, без надзеі на поспех. Куля трапіла ў левы бок. Калі вярнулася свядомасць, было ўжо ціха. Ні сваіх, ні немцаў. Язэп паплёўся на ўсход шукаць сваіх. Сталася інакш. Пры дапамозе знаёмага ўладзіўся ў калгасе вёскі Замош'е. Салдатка, удава Малнія, прыняла яго на кватэру.

Старшынёй калгаса быў Арсеній Трухан. Ён палюбіў Язэпа, давяраў яму. І гутаркі іх канчаліся штораз больш упэўненым вывадам: трэба змагацца, як толькі паявіцца партызанка — у лес. Пад школьным ганкам прыхавалі ўжо сабе вінтоўку.

А фронт стаяў у варот Масквы.

Язэпа запрасілі на хрэсьбіны. Самагонкі гаспадар не шкадаваў.

— За Гітлера! Хай жыве Гітлер! — закрычаў нехта, падымаючы шклянку. Язэп уздрыгануўся, як бы раскаленае жалеза прыклалі яму да свежай раны.

— Каго хваліш, злодзей праклятьі! — не вытрымаў Язэп. — Сваю айчыну фашыстам прадаеш!

Усе змоўклі, стала ціха. Язэп са злосцю швырнуў шклянку на стол і накіраваўся да выхаду.

— Твой Гітлер, — пабачыш, разам з табою на адной перакладзіне вісець яшчэ будзе! — кінуў ад парога.

Раненька на другі дзень з'явіўся ў яго старшыня Трухан.

— Дрэнная справа, Язэп, — заявіў. — Цябе хочуць прадаць жандармерыі, як палітрука або савецкага афіцэра. Уцякай, браце!

Язэп не чакаў нават да абеду. Першага лістапада быў ужо ў Дэнісках у брата Хведара.

* ✲ *

Раптам жанчына насцярожылася.

— Што гэта? — запытала гаспадара. — Здаецца хтосьці ў вас пад ложкам хаваецца.

Хведар запярэчыў. Жанчына, госць з Беластока, не ўступала.

— Не ўсыпала ты мяне, дык яго, мяркую, не прадасі, — сказаў урэшце Хведар. — Ёзік, вылазь! — Гэта свая, — дабавіў, звяртаючыся ўбок да ложка. Язэп з трэскам распраставаў косці.

— Гэта Зютка Купрыяновіч з Беластока, — паясніў брат.

— Я ў яе кватэраваўся будучы савецкім міліцыянерам.

Новае знаёмства аказалася спрыяльным для Язэпа. На другі дзень апынуўся ён у Беластоку на кватэры ў Зюткі Купрыяновіч. Бы шчур у нары, тры месяцы прасядзеў на паддашшы дома пры вуліцы Белавежскай 33. Быў цяпер не Язэпам, а Хведарам. Меў дакументы брата. Сусед Міхальчук выследзіў яго. Не, не пайшоў з даносам у гестапа. Наадварот, дапамог уладзіцца на работу. Фірма была варшаўская. Кіраваў ёю «свой» інжынер — Паўлючык. Ён зрабіў Маркоўскаму «Аўсвайс».

* ✲ *

Свабода Язэпа не задавальняла. Ён шукаў кантактаў. Седзячы адзін у патаемных месцах сотні раз уяўляў сябе ў партызанах. Сядзіць у засадзе, чакае. Вось набліжаецца атрад гітлераўцаў.

«Агонь!» — ляціць каманда і страчыць Язэпавы кулямёт.

Найбольш бяспечна адчуваў сябе Язэп за горадам. У Завыках жылі Язэпавы сваякі: Лёня Кожан, з братам Янкам. Маркоўскі часта з'яўляўся іх госцем. Усе гутаркі зводзіліся ў іх да аднаго асноўнага пытання: хто каго: Гітлер ці Сталін?

Калі фельдмаршал Паўлюс з цэлай сваёй арміяй праваліўся над Волгай, сумненняў у іх ужо не было. У патаемным месцы знайшоўся кулямёт, 5 вінтовак, 86 гранатаў і цэлы мяшок патронаў. Каб толькі да вясны, калі цёплы вецер змые снег у лесе...

* ✲ *

Сядзяць у клуні Сашкі Стаськоўскага: Язэп, Сашка, Карніла і Кароль. Гэта новыя знаёмыя Маркоўскага з вёскі Бацюты. Твары ў іх сур'ёзныя, заклапочаныя. Абмяркоўваюць пазаўчарашнюю няўдачу. Расшрубавалі рэйкі. Як дзеці цешыліся, што прынамсі адзін гітлераўскі эшалон не дойдзе на фронт. Дыверсію прыкмеціў участковы і ўсё прапала. Трэба было неяк інакш.

Раптам у клуню ўварвалася Сашкава сястра.

— Немцы ў вёсцы!

Скочылі на загуменне. Дзяўчына асталася дома.

Баяліся маладыя канспіратары, што дзяўчына не вытрымае, назаве іх прозвішчы. Адкапалі зброю і схаваліся ў лес. Язэп вярнуўся ў Беласток.

На другі дзень дзявочае цела знайшлі за вёскай. Дзяўчына-гераіня памерла моўчкі.

* ✲ *

Варшаўскай фірме інжынера Паўлючыка даручана было наладзіць гідраўлічную ўстаноўку ў нямецкім шпіталі. Працавала



брыгада Маркоўскага. Санітарамі ў шпіталі былі савецкія ваеннапалонныя. У паграбах аграмаднага гмаху (цяпер там памяшчаецца сядзіба ВРН) часта знаходзілася аказія завесці гутарку па душах. Слова прыставала да слова і будаваўся давер. Сем санітараў пакляліся, што ахвотна пойдуць у партызаны, каб толькі была зброя. Зброю меў Язэп.

Канчаўся сакавік. Сонца прыпякала ўсё мацней і мацней. У гутарках рысаваліся планы недалёкіх баявых паходаў. Асталіся лічаныя дні. І тады...

Роўна ў абед, 23 сакавіка 1943 года жандары вывелі Язэпа Маркоўскага са шпітальных паграбаў. Яго і Абрамовіча — таварыша па працы.

* ✲ *

Смерць ізноў выскачыла з кішэні, абняла яго касой за шыю і, як п'яўка, халоднымі ядавітымі вуснамі прыліпла да губ. Цяпер ужо ніяк не мог яе адарваць.

3.

Ногі ўжо не трымалі цела. А ночы — гэтай лістападаўскай, здаецца, не будзе канца! Зубы ляскочуць ад холаду, цела хістаецца, як сцяблінка на ветры. І яшчэ дождж!

«Навошта эсэсманы ў поўнай баявой гатоўнасці акружылі цэлы лагер? Навошта іх трымаць без руху на смірна? Не далі нават ні гэтай смярдзючай кавы, якой у дзень і ўвечар іх пояць, ні гэтых памый, што супам у іх завуцца, якія даюць на абед. Навошта гэта? — замучваецца пытаннямі Язэп.

— Канчаць хіба будуць», — сцвярджае і глядзіць на таварышаў нядолі.

Гэта ўжо не людзі. З людскога вобліку асталіся ў іх толькі шкілеты і цяпер стаяць адзін ля другога. Сотні, тысячы... дзесяткі тысяч жывых шкілетаў. Жывых? Як доўга?

* ✲ *

Язэп тут цалкам нядаўна. З Беластоцкай турмы прывезлі яго ў Майданак 24 жніўня 1943 года. Усё папярэдняе разам са зверскімі катаваннямі ў беластоцкай турме — выдавалася яму зараз дзіцячай гульнёй у параўнанні з тым, што цяпер запаўняла кожную хвіліну яго памірання.

* ✲ *

За арагоджай з калючага дроту, за высокімі вартаўнічымі вежамі, выплывала на неба нясмелае асенняе сонца.

«Каб толькі вытрымаць, не перавярнуцца!» — думае Язэп.

— Інтэрнацыянал на чацвёртае поле! — крычыць нейкі афіцэр. — Юдэн на пятае поле!

З сухім лоскатам ляцяць на галовы дубінкі, як учора, як сёння, як заўтра. Урэшце, пасля 12-ці гадзін можна распраставаць здзеравянелыя ногі. Язэп ведае, што адзін дзень жыве даўжэй. Але вось звыш 20-ці тысяч яўрэяў гэтага дня — 3 лістапада 1943 года — пераўтварыліся ў дым, што моташным пахам расплыўся далёка, шырока за Майданак...

* ✲ *

2 красавіка 1944 года яшчэ на досвітку аб'явілі трывогу. Паўтары тысячы вязняў не вярталася назад у баракі. Гналі іх, як жывёлу.

«Калі павядуць направа, дык... — у газкамеру, — меркаваў Язэп, — калі ўлева, значыць жыўцом у крэматорыю».

Зрабілася неяк горача. Не пачуў нават болю, калі дубінка смаганула яго па касцях.

Правялі... проста...

Запхнулі ў вагоны, а вагонамі ў глыб Райха — аж за Рэйн, у канцлагер Нацвалер. Тут нечакана знайшліся землякі: Цімох Абрамовіч з Беластока, Лёня Стрэльчук з Бельска, Аляксандр Бужынскі з Грабаўца і Федзя Васілюк з іншага Грабаўца.

Працавалі ў каменяломах. Рылі тунелі ў скалах. Ішла чутка, што немцы будуць будаваць там авіяцыйны завод. За драты ганялі іх толькі нанач.

* ✲ *

Прайшло пару дзён. Язэп працаваў у тунелі. Раптам бачыць: людзі бягуць у цёмную пропасць тунеля. Скочыў за імі. У гэты момант з вартаўнічай вежы застракатаў кулямёт. Пасыпаліся групы. Многа трупаў. Язэп вярнуўся. Эсэсманы ўзнялі трывогу. Як авечак, збілі іх у кучу і палкамі пагналі за драты. На зборачнай плошчы загадалі пераклічку. Не хапіла 22 вязняў. Апрача забітых. Без яды і сну пад голым небам трымалі ўсіх двое сутак. Трымалі і білі.

Прыклад аднак быў заразлівы. Думка пра ўцёкі не астаўляла Язэпа.

«Усё роўна тут нам не пержыць» — гаварыў сабе.



* ✲ *

Згаварыўся з Алёшкам Бужынскім. За хлеб раздабылі ножыкскладанчык і запальнічку. Чакалі толькі спрыяльнага моманту. Ужо пару дзён працавалі над тунелем, на паверхні. Дакладна агледзелі мясцовасць. Была тут абшырная прасека, а далей у адлегласці нейкіх 500 метраў кругом стаяў лес.

4.

Ахраннік стаяў на ўзгорку. Аб'явілі файрант. Язэп падышоў да ахранніка, Алёшка Бужынскі трымаўся побач.

— Пан, арбайт гут? — загаварыў Язэп.

— Я, я, —гут арба...

Замест слова разнёсся крык. Язэпу ўсё ж яшчэ шмат асталося з яго мядзвежай сілы.

Дарагая была цяпер кожная секунда часу. Каб хаця да лесу! Ля вушэй свісцяць ужо кулі. Раптам Язэп чуе, што Алёшка распачліва кліча на дапамогу. Глядзіць назад. Таварыш перавярнуўся і не можа ўстаць.

Хвіліна хістання: вяртацца ці не?

Вярнуўся, злавіў за руку і пацягнуў пад гару. І сіла аднекуль знайшлася. Імчаліся, як чэрці за грэшнай душою. Дарогу перагарадзіў нейкі ручаёк.

— У воду і рэчкай! — загадаў Язэп. — Каб сабакі след згубілі.

Сцяна лесу нечакана абарвалася. Перад імі абшырная палянка зарослая высокай мяцёлкай, а ўводдалі, на грані кругагляду — нейкія сялібы. Небяспечна бегчы далей, ды і сіл ужо не хапае. Заляглі ў густой траве. Якраз у пару. Ад сяліб выйшла гаманлівая гурма немцаў. Ідуць здаецца проста на іх.

— Уцякайма! — збялелымі ад страху вуснамі шэпча Бужынскі.

— Не, ані кроку! — станоўча сычыць Маркоўскі і ўпіхае галаву глыбока ў мох, каб прынамсі не бачыць, як схопяць яго, а далоні аж да шаленства заціскаюцца на сцяблінках травы.

Гарклівы гоман расце, набліжаецца.

Значыць, развітацца трэба з жыццём.

І ўрэшце — вялікая ільгота. Пагоня праходзіць міма, накіроўваецца ў лес.

Цяпер можна нават крыху перакусіць. Яны ж заўчасу прызапасілі лішні паёк хлеба.

Чакалі ночы. Ноч цяпер была іх самай лепшай сяброўкай, хацелася есці. Голад падрэзваў ногі, а ў нагах зараз быў для іх ратунак.

Ішлі на ўсход.
Не падумалася ім, што дзесяткі раз бліжэй у Швейцарыю. Інстынктоўна кіраваліся на радзіму.
Над Рэйнам сялібы стаяць густа. Голад пераадольвае страх.
— Ты ідзі ў хлявы, шукай што-небудзь, — распараджаецца Язэп, — а я пастаю ля дзвярэй. Калі будзе нехта выходзіць, дык я яго кіем у лоб... зямлю грызці будзе.
Закудахталі куры. Здавалася, што цэлую вёску разбудзяць. Язэп і Алёшка хутка паімчаліся ў лес. У Бужынскага ў руках трапяталіся дзве курыцы. Абсмалілі іх як-небудзь, парвалі на кавалкі і з'елі на палавіну сырыя.
Курыма, гусьмі і кролікамі карміліся 16 дзён. Аб'елася сырое мяса. Аднойчы Бужынскаму трапілася ў рукі поўная торба пранікаў. Кінуліся на іх, як мядзведзі на мёд. Пасля некалькіх мінут не асталося ніводнага праніка. Не ведалі, бедныя, што яны былі прасякнуты атрутай для шчуроў. Ім страшэнна хацелася хлеба. Пасля ад прагі ледзь-ледзь іх не паразрывала. Не маглі цэлы дзень адарвацца ад вады.

* * *

На шаснаццаты дзень вандроўкі выйшлі з прырэйненскіх лясоў. Перад імі кругом, як вокам згледзіш, распасціраўся пустыр. Ішлі цэлую ноч. А лесу ні следу. Далёка за вёскай пабачылі ў полі тры стагі. Рашылі ў іх перасядзець дзень.
Выбралі сярэдні — яшчэ цалкам не кранутым. Першы прачнуўся Язэп. Прыслухаўся. Ля стагоў гаргочуць немцы. Штурхнуў таварыша.
— Бяруць салому, — прашаптаў Алёшка.
— Ага, — пацвердзіў Язэп. — Прыдзецца ўцякаць, як паедуць.
— Хіба, — згадзіўся Алёшка.
Воз рухнуўся і паскрыпеў.
— Ну, давай! — штурхнуў Язэп сябра.
У той момант над галовамі пачулі гарклівыя галасы.
— Грузчыкі хіба асталіся, — прыкінуў Алёшка.
Язэп маўчаў. Сэрца яго стала раптам біць, як ашалелае, быццам прадчувала няшчасце.
І за другім разам грузчыкі асталіся на сцірце.
А за трэцім разам...
Немец адваліў сноп і закрычаў:
— Гальт! Гальт! Рукі ўгору, рускія смярдзючыя свіні!
Другія таксама з віламі паспяшалі яму з дапамогай.
Перад імі ў саломе трапяталіся дзве істоты — больш пахожыя на малпаў, чымсьці на людзей. Зарослыя, брудныя, абарваныя.



Звязалі ім рукі і ногі. Паслалі за жандарамі.
«Цяпер ужо канец!» — падумаў Язэп і на губах пачуў халодны пацалунак Кастухі, што яго так пакахала.

5.

Эсэсман пайшоў пабрыцца. Ён не мог паказацца начальству не давёўшы сябе да элегантнага выгляду. Язэп і Алёшка сядзелі самі. Зарослыя, брудныя, засаленыя кроўю і жырам, выглядалі, як бы толькі што вырваліся з пекла.
— Ты сваю курыцу ўжо недзе расходваў? — запытаў Язэп таварыша па бядзе.
— Не. Маю яшчэ ў торбе.
— Гэта ж яўная смерць!
— І без таго разваляць... Пугамі заб'юць... голадам заморацць... усё роўна.

*

Увайшла гаспадыня, немка, у якой кватараваўся канваент, гэты эсэсман. Глянула на сваіх нечаканых гасцей і закрыла вочы рукамі.
— Майн гот! Божа мой! — адазвалася расціраючы на шчоках вялікія слёзы. — Вы людзі? Рускія?
Немка гаварыла хутка і многа. Яны не вельмі разумелі. Потым гаспадыня выбегла з пакоя і пасля нейкага часу вярнулася з талеркамі. Язэпу і Алёшцы загарэліся вочы.
Першы раз пасля 16-ці дзён бадзяння сапраўдная, вараная страва! Елі, аж вушы трасліся.
Немка, гледзячы на іх праз слёзы, гаварыла:
— У мяне тры сыны. Усе тры пайшлі на ўсходні фронт. Адзін прапаў, а двух рускія ўзялі ў палон. Яны таксама, як вы, бедныя, галодныя...
— Не бядуй, матка! — сказаў Алёшка, які многа лепш ад Язэпа разбяраўся ў нямецкай мове. — Рускія добра кормяць і добры суп і шпэк даюць.
— Але там мароз, Сібір! — лямантавала гаспадыня.
Вярнуўся эсэсман. Алёшка злавіўся за жывот.
— Шайс, шайс! — пачаў крычаць, скручваючыся нібыта ад болю. Пусціў яго. Алёшка доўга, вельмі доўга сядзеў у ўборнай.
— Няма ўжо курыцы, — прашаптаў пасля Язэпу.

* * *

Эсэсман адправіў іх у гестапа горада Майнц. Распачаліся допыты. Многа, многа дзён зноў круцілася карусель здзекаў.

Яны паўтаралі адно: адсталі ад 12-га эшалона, якім іх вывозілі з Майданка. Даследчыкі не верылі. Гестапавец, які ведаў рускую мову, завёў іх пасля некалькіх дзён у прасторную залу.

— Ведаеце, што гэта? — запытаў.

Язэп прыгледзеўся да асаблівых прыладаў, якія знаходзіліся ў гэтай камеры. Не патрабаваў паясненняў. Штосьці падобнае бачыў і ў бельскай «дэфе», і ў беластоцкай турме. Вось вешальніца, побач абручы са шпікульцамі да сціскання галавы і далей піла для падрэзвання горла, ля печкі розныя шпрыцы для прыпальвання скуры, на стале прыбор, якім ломяць пальцы.

— Раю прызнацца, — дабратліва па-руску гаворыць гестапавец. — Інакш вось гэта ўсё вас не абміне.

Сядзяць аддзельна ў розных камерах. Падчас рэвізіі ў Маркоўскага знаходзяць кальцо — памятку з Майданка, а на ім прозвішча і лагерны нумар.

Гэта пераконвае гестапаўцаў. Абодвух адпраўляюць у турму. Некалькі дзён праходзяць спакойна. Не катуюць. Можна адпачыць. Толькі думкі, праклятыя, не даюць спакою. Усё прапала! А жыць хочацца... Ды яшчэ як хочацца...

* ✻ *

Раптам камера раскрываецца з грохатам. Запаўняюць яе гестапаўцы. Язэп выцягваецца на смірна. Святло фанарыкаў безупынна коўзаецца па яго твары.

— Эр, я эр... ён, так, гэта ён, — паўтараюць немцы, перадаючы сабе з рук у рукі нейкую газетку.

Язэп стаіць, бы аслупянелы. У галаву прыходзяць самыя недарэчныя думкі. Ніхто не спяшаецца паясніць. І толькі тады, калі прыйшлі забраць яго з камеры, ведаў, што гэта ўжо яму...

* ✻ *

Завялі найперш у кабінет начальніка турмы. Побач яго за сталом сядзела яшчэ чалавек сем.

«Значыць судзіць будуць», — падумаў Язэп і не памыляўся. Быў гэта суд, які ведаў толькі адзін прыгавор: смяротную кару.

— Тваё прозвішча? — запытаў раптам начальнік.

Язэп адказаў.

— Не, ты завешся Аўсееў! — сказаў перакладчык.

Язэп вытарашчыў вочы.

— Ты паходзіш з Кіева, а не з Беластока. Ты — шпіён!

«Што яны! Адурэлі, ці як?» — думаў Язэп, а ля вуха чуў шчыры рогат Кастухі — вернай сваёй сяброўкі.



— Панове, гэта няпраўда! — закрычаў. — Я з Беластока. У мяне там дзеці, жонка... Хай хаця яны ведаюць, што я...

— А вось, не ты гэта? — сунулі яму ў рукі нейкую газетку. —Нават твой таварыш гаворыць, што гэта ты!

Язэп глянуў на фатаграфію і рукі яго раптам задрыжэлі.

«Што за чорт! Якім чынам яны мяне ў газету пасадзілі?!» — ламаў са здзіўлення галаву.

— Ты?! — грымеў начальнік.

Язэп маўчаў, не адрываючы вачэй ад газетнай фатаграфіі.

— Не, гэта не я! — заявіў урэшце станоўча і пачаў пералічваць усе прызнакі, якія адрознівалі яго ад гэтага Аўсеева.

— Я прашу, зрабіце мне фатаграфію і тады параўнайце.

Перакладчык пераказаў Язэпаву просьбу, суддзі пашапталі штосьці між сабою і казалі вывесці Язэпа.

* ✻ *

Маркоўскі лічыць цяпер хвіліны і гадзіны. Ён перакананы, што гэта яго апошнія мінуты жыцця. Мінае дзень і другі.

І вось пятніца.

У камеру паяўляюцца ахраннікі. Прыказваюць ісці. У кабінеце начальніка чакае ўжо Аляксандр Бужынскі. Кайданы бразгочуць на руках, уядаюцца ў цела. Таварышы шлюць сабе развітальныя позіркі. Вось які канец іхніх змаганняў!

Ідуць праз горад.

«Значыць за горадам нас будуць...» — сцвярджае Язэп і разглядаецца навокал. Як прыемна! Чыстае, майскае паветра. Шчабечуць птушкі, як бы нідзе на свеце няма і не было вайны... Каб толькі не свядомасць, што вось зараз...

Перад вачыма мільганула вітрына фатаграфчыка. Эсэсман загадаў ісці ў яго майстэрню. О, як лёгка стала на душы!

* ✻ *

Язэп далічыўся ўжо дзевяностанекалькіх дзён іх турэмнага зняволення, каб крыху лепш кармілі, мог бы ахвотна сядзець тут да канца вайны. На допыты не бралі, да працы не гналі. Проста — рай. Памалу адвык чалавек ад думкі аб смерці. І раптам...

Прыйшлі якраз на соты дзень.

Горад Нацвалер пазналі адразу.

«Значыць нас назад у знаёмы лагер» — падумаў Язэп.

— Мусульманамі будзем, — з горкай усмешкай на губах сказаў Алёшка. Язэпу замільгацела ў вачах, усім лагернікам вядо-

мае відовішча: ля ўваходу ў барак падвешаны за рукі чалавек. Гэта мусульман. Лагернік-смяльчак, якому не ўдалося ўцячы. Кожны лагернік абавязаны здымаць перад ім шапку. Вітаць яго Мусульману не даюць ні піць, ні есці. Аж да смерці.

Язэп і Алёшка ведаюць аб тым. Бачаць ужо сябе на месцы папярэдніх таварышаў па няволі, якім не пашанцавала ва ўцёках. Адна толькі надзея: можа іх не пазнаюць.

— Патрабую капо крэматорыі! — крычыць у тэлефонную грубку эсэсман.

«Капо крэматорыі? — паўтарае Язэп дрыжачымі губамі. — Значыць... значыць...»

Штосьці сціскае горла, займае дух. Гэта каханая Кастуха прыціскаецца да яго вуснаў.

Капо распісаўся на квітанцыі і забраў іх з сабою.

Над знаёмым будынкам тырчэў комін. Цяпер пляваў ён у неба чорным смярдзючым дымам. Крэматорыя працавала.Ператварала людзей у попел. Туды капо вёў Язэпа і Алёшку.

6.

З гэтага будынка была толькі адна дарога — туды, дзе высокі комін пляваў у неба чорным дымам. Штодзень аставалася іх усё менш і менш. Адных выклікалі, а іншыя штыўнелі проста з голаду. Есці давалі ім раз у дзень па паўлітра шпінаку варанага на чыстай вадзе. Дні праходзілі ў безупынным чаканні на смерць, на сваю чаргу. Многа дзён... Тры нядзелі і тры дні. Тысячы хвілін, у якіх сэрца замірала ад думкі: цяпер ужо я, ужо канец.

Аж урэшце асталося іх у камеры ўсяго чатырох: Язэп, Алёшка, нейкі Ваня з Горкага і Эдэк з Чэнстаховы.

Афіцэр эсэсман прыімчаўся ў барак.

— Умееш гаварыць па-нямецку? — запытаў Язэпа. Язэп адмоўна пакруціў галавой. Эсэсман падскочыў да Алёшкі. Ён таксама адмовіўся. Зараз жа прыбег пісар. Праверыў іх нумары і аднатаваў штосьці ў спісак.

— Айн момэнт, — сказаў і недзе паімчаўся.

«Прышла мая хвіліна...» — падумаў Язэп.

— Збірацца! — раздалася каманда.

«Ужо? Так хутка?...»

* ✲ *

Горкія думкі ціснуцца ў галаву. Язэп праводзіць маланкавы падлік свайго жыцця. Не, нічога не шкадуе. Толькі жыць... жыць хочацца.



— Транспарт! — грыміць гэты сам лагерны пісар.

Цягнік грукатаў на рэйках. У дарогу выправілі іх на дзіва багата. На двух атрымалі паўкілаграма хлеба і адну мясную кансерву. Дарваліся да гэтай рэдкай стравы, як да мёду, ламаталі без аглядкі.

Завезлі іх у канцлагер Дахаў. Пасля двухтыднёвага каранціна ў 14-тым бараку, Язэп трапіў у механічную майстэрню. Узяў яго да сябе лагернік, чэх, майстар Язэп Лішка. Язэп узяў да сябе Язэпа. Маркоўскі выносіў жалезныя стружыны. Было нядрэнна. І з фронту даходзілі штораз лепшыя весткі.

Аднойчы... было гэта зімой... прыказалі Язэпу занесці ў барак кубал кавы. Ішоў і коўзаўся на сваіх дзеравяках па замерзшай сцежцы. Ля парога не стрымаў раўнавагі. Устаць сам ужо не мог. На другі дзень ранкам вынеслі яго таварышы на пераклічку, палажылі на снезе. Язэп ціха стагнаў і думаў:

«Цяпер не будзе мне ўжо літасці».

* ✲ *

Не, гэта яшчэ не быў канец яго пакут. Язэп трапіў у лагерны шпіталь.

Ляжаў тады Язэп у своеасаблівым шпіталі, а за яго сценамі гінулі незвычайна. Лекары-фашысты праводзілі тут на жывых людзях самыя зверскія вопыты: замаражвалі, вырэзвалі кавалкі цела, давалі нейкія смяротныя ўколы.

І каб зацерці сляды, шэф СС Гайнрых Гімлер аддаў загад цалкавітай ліквідацыі лагера.

Гэтую трагічную вестку адзін нямецкі камуніст перадаў амерыканцам. Былі яны недалёка ад Дахаў — усяго 18 кіламетраў. Мелі намер аставіць гэтае мястэчка і пайсці проста на Мюнхен. Вестка нямецкага камуніста ўстрывожыла іх. 32 тысячы лагернікаў прысуджаных на смерць чакала на іх дапамогу.

* ✲ *

Язэп лічыў дні ўжо па прывычцы. Тут кожная гадзіна была цаннейшая за месяц, а месяц за год.

Пасля абеду 29 красавіка раптам сціхлі ўзрывы снарадаў і стракатня кулямётаў.

Лагерныя баракі адклікнуліся магутным крыкам. З радасці, з вялікай нястрыманай радасці.

— Свабода!!!

Гэтае слова гучэла на розных мовах і кожны добра разумеў яго змест.

Язэп Маркоўскі таксама не вытрымаў на сваёй шпітальнай нары. Хаця ледзь звалокся, але пайшоў на двор... Цешыцца, захапляцца свабодай. То ж так доўга чакаў яе прыходу!

* ✲ *

Незадоўга Язэп Маркоўскі па ўласнай волі зноў быў чырвонаармейцам. Толькі крыўды сваёй не паспеў адпомсціць. Вайна ўжо кончылася.

7.

— Вось, браток, такая мая гісторыя, закончыў апавяданне Язэп Маркоўскі і напоўніў кілішкі, што доўга чакалі пустыя.

— Цяпер я — пенсіянер. Грошы, так сказаць, маю без працы, дык чаго наракаць? Давай вось ляпей вып'ем.

Я паглядзеў на гадзіннік.

— Засядзеліся мы. Ужо позна. 9-тая гадзіна.

— 9-тая, кажаш? — устрывожана неяк адазваўся Язэп і глянуў на свой гадзіннік. — Вось халера, разгаварыўся і быў бы апошнія паведамленні празяваў. Штодзень слухаю, — дабавіў, як бы высняючы.

«...на гэтым з'ездзе, — падаваў карэспандэнт з Бон, — сёння прысутнічаў асабіста канцлер Кізінгер. У сваім выступленні падтрымаў ён рэваншысцкія апетыты перасяленцаў, заяўляючы, што немцы ніколі не адкажуцца ад зямель за Одэрам і Нысай Лужыцкай...»

— Ну бач ты іх... — вылаяўся Язэп і адным глытком высушыў кілішак.



*Анатоль Корзун*

# Сяргей Сац

## ЁСЦЬ ТАКАЯ ЗЯМЛЯ

Ёсць такая зямля,
Дзе кветкам расці немагчыма.
Ёсць такая зямля,
Дзе травы прасякнуты дымам.
Ёсць такая зямля,
Дзе пажараў бляск і луна,
Дзе выстралы, залпы гармат,
Дзе жыццё забірае вайна, —
Жыццё партызанаў-салдат.

Ёсць такая зямля,
Дзе чалавек загубляе другога.
Ёсць такая зямля,
Дзе мір — у падвалах астрога.
Ёсць такая зямля,
Дзе вочы лютых грабежцаў
Так прагны людское крыві,
Кожнага вольнага месца
І нават марское глыбі.

Ёсць такая зямля,
Дзе ворагам усё ж не бываць.
Ёсць такая зямля,
Свабоды якой не забраць.
Ёсць такая зямля:
Зямля — в'етнамскіх людзей,
Зямля — справядлівых народаў,
Якім за ўсё даражэй
Шчасце, мір... і свабода!



# Алесь Свісёк

І вам агідны
ўсе філістэры — мяшчане.
Іх крывадушныя манеры,
вера іх...
А верыце вы
ў край свой і ў людзей жывых,
і ў веды,
і ў сяброўства,
і ў... каханне.

## ПАРТРЭТ

Чвэрць чалавека
і чвэрць індыка,
чвэрць пеўня
і чвэрць быка.
Хутка ўжо
(моцна веру я)
будзе з яго
жывёліна.

* * *

Толькі з табою
ў чоўне кахання
паплывём
сярэбраным небам.
Я зор залатых налаўлю
для цябе.
Прышпілю да валос.
А як месяц
іскрамі сыпне —
і іх нахватаю.
Табе на каралі.

* * *

Мы адны сярод ніў без дарогі
прытуліўшыся моўчкі ідзём.
Сонца золатам сцеле пад ногі,
вецер лёгка кранае крылом.
Жыта ціха выструньвае штосьці.
І цымбаляць у такт жаўрукі.
І кланяецца ў ногі калоссе.
І смяецца куколь, васількі.

Так нам добра з сабою бясконца!
Колькі ў сэрцы цяпла! Колькі ласкі!
Аб каханні гавораць нам: сонца,
вецер, жыта і птушкі, і краскі.

## ПРЫВІДЫ НАСТАЎНІКА

*Яшу Буршу*

Стойце словы!
Не пужайце сімфоніі.
Дзіўны аркестр.
І дзіўна зайграў.
Нічога, што сэрца сціскае і скроні...

Шэпча калоссе
і кветкі між траў.
Шуміць лес,
пяюць птушкі,
і рэчка,
і мора.
Урываецца гром
і грукат матораў...

Гэта ж мае словы —
асколкі сэрца жывыя,
што распырскваў дзецям
столькі год!
Нейтроны сэрца
атакуюць другія,
расшчапляюць.
Высылаюць праменнямі ў свет
новыя словы — новыя нейтроны.



Падпальваюць душы
каханнем праўды,
верай у чалавека.
Злучаюцца, растуць!
І ўсё-ўсё глушыць
галасоў сімфонія вялікая!
І бачу,
Бачу здань вялікую.
Быццам зоркі...
Іх усё больш, усё больш!
Свет паяснеў ад тых зорак без ліку!
Гэта ж усмешка мая!
Усмешка любоў.
Адбілася ў шчырых дзіцячых вачах,
мільёнамі ўсмешак
па свеце пайшла.
І цвітуць ўсмешкі-зоры
панурым на страх,
а на радасць і сілу
змагарам супроць зла...

Шум велічны ўзрывае галаву...
Думкі,
што сеяў я,
узышлі, жывуць!

# Вінцук Склубоўскі

## НЯВЫДУМАНЫЯ АПАВЯДАННІ

# СЭРЦА МАТКІ

Зімны вецер прадувае праз шчыліны страхі. Цёмная, непагодная майская ноч. Тайком ад сям'і Галя пакінула цёплы ложак і ўзлезла сюды на гару. Разаслаўшы посцілку і прыкрыўшыся старой вопраткай курчылася ад болю, які разрываў нутро.

У хаце спакойна спяць шасцёра дзяцей і бязглузды муж. Спіць спакойна, яму і ў дзень галава не баліць, як пракарміць дзяцей. Усё на галаве Галі.

Галі не пашчаслівілася ў жыцці. Вышла замуж за ўдаўца — на трое дзяцей. Выбіраць не прыходзілася — сама мела дзіця. За гэткую лепшы не схопіцца. Муж спакойны, хваравіты, зарабляў не многа. Затое Галя працавала, як мурашка. Яна з выгляду прыпамінала мурашку: маленькая, рухлівая, хвіліны спакойна не пасядзіць, усё круціцца.

На яе кволыя плечы лёг у асноўным цяжар утрымання немаленькай сямейкі. Жылося нялёгка, але галоднымі не былі і босы -голы ніхто не хадзіў.

А пасля — сям'я павялічылася, заробкі не паспявалі за патрэбамі. Бяда пачала заглядаць у дом. Часам трэба было пазычыць кошык бульбы, каб накарміць сям'ю. Дзеці хадзілі босыя і абдзёртыя.

Муж знікаў з дому і не раз вяртаўся п'яным. Праўда, працвярозіўшыся, біўся ў грудзі і абяцаў паправу, але хутка ўсё паўтаралася нанова. Часам прапіваў увесь скромны заробак.

Галя выбівалася з сіл. Было немагчыма цяжка. На дадатак увосені трэба было пакрыць страху, якая згніла. Узяла пазычку, якую трэба было штомесяц сплачваць. І ў гэтым часе зноў цяжарная. Зверылася мужу.

«Дасць бог дзяцей, дасць і на дзяцей», — бестурботна адказаў той. Каб хто больш сур'ёзны гаварыў гэта, можна было б падумаць, што насміхаецца.

Не раз прыходзіла думка пазбыцца цяжарнасці. Але або работа пільная надаралася, або іншыя клопацы перашкаджалі, не прыбралася.

Муж, здавалася, забыў пра гэту размову. Перад іншымі ўкрывала цяжарнасць. І з гэтым мусіла ўправіцца сама.

І цяпер, калі яна корчыцца ад холаду і болю, муж спакойна спіць у хаце. Галя заціскае зубы, каб не крычаць і толькі ціхі енк вырываецца з вуснаў. Эх, хутчэй бы гэта скончылася.

І хіба не меншы ад гэтага боль выклікае думка, што зрабіць з дзіцём, калі і без яго, хоць ты галаву ў пятлю саджай.

Як жа было б добра, каб нарадзілася нежывое. Працавала цяжка да апошняга дня. Не раз падымала цяжкія мяшкі, якія не кожнаму мужчыну былі б пад сілу. Хай бы нарадзілася нежывое!

Зноў схапіў страшэнны боль, аж пацямнела ў вачах. І раптам палягчэла. Яе абудзіў да прытомнасці піск дзіцяці.

«Жывое»! — з расчараваннем падумала яна. Галю схапіў страх за будучыню ўсёй сям'і і адначасова злосць на бестурботнага мужа.

«Не, гэтак немагчыма, трэба з гэтым скончыць!» Сарваўшыся, схапіла ў рукі слізкае піскліваe стварэнне. Сціснуць горла і зараз будзе па ўсім. Кінула дзіця на посцілку.

Жаласлівы крык дзіцяці пранік у сэрца. Рукі мімаволі апусціліся. «Яно ж на свет не прасілася!» — мільганула думка.

Скупы свет хмурнай майскай раніцы пранікаў праз акенца шчыта хаты. Глядзела на чырвоны, паморшчаны, старэчы тварык, выкрыўлены плачам.

«Зусім, як бацька, — падумала Галя. — І таксама нічога не думае. Чакае, што нехта за яго ўсё зробіць. А я ўжо не маю сілы. Лепш бы памерці разам з гэтым дзіцём».

Заплюшчыла вочы, уяўляючы сябе ў труне. Як добра ні аб чым не думаць, ні аб чым не клапаціцца, заснуць бы так і не абудзіцца!

Унізе — глухі, ледзь чутны кашаль. Пэўна, абудзіўся муж. Зараз усе будуць уставаць, заўважаць, што яе няма, пачнуць шукаць. Не, нельга даўжэй ляжаць. Але што зрабіць з дзіцём? Яно папісквае, уздрыгваючы ад холаду.

«Будзе праклінаць бацькоў за тое, што на свет пусцілі, — падумала. — Лепш хай памрэ. І самой жыць не хочацца.»

Устаўшы, выняла з куфра чыстыя пялёнкі. Закруціла дзіця і прысыпала ў кутку кастрыцай. Кут заставіла чыстай скрынкай і зышла з гары.

Хоць у галаве кружылася, а перад вачыма лёталі чырвоныя плямы, яна прыгатавала для сям'і снеданне і пайшла да суседа садзіць бульбу.

Носячы цяжкі кош, напоўнены бульбай, клала па бульбіне ў баразну. Цяжкі кош, як бы напоўнены не бульбай, а жалезам, не лягчэе, хоць бульбы паволі ўбывае.

Выразна пачула жаласлівы піск, уздрыганула, аглянулася кругом. Не, гэта толькі піск мышкі, якой бязлітасны плуг папсаваў норку.

«Беднае, сплыве крывёй, згіне ад холаду», — шаптала сэрца маткі.

«Так лепш будзе — для яго і для сям'і, — пацяшаў іншы голас, — яно ж яшчэ нічога не ўяўляе».

Зноў ёй прычуўся плач дзіцяці. Галя затрымалася, паставіла кошык, гатова бегчы дамоў, ратаваць дзіця.

Плуг аддаляўся штораз больш. Гаспадар затрымаў каня і аглянуўся. Галя прыпомніла, што яна садзіць бульбу. Вырасце бульба і яна дастане за сваю работу. Будзе чым накарміць сям'ю. А яно не названае, пакінутае, не пражыве нават гэтага майскага дня.

Галя спяшаецца, каб дагнаць каня. А ногі робяцца нейкія мяккія, як з ваты. Поле пачынае кружыцца. Зямля пад ёю рассоўваецца і яна ляціць уніз, мусіць у пропасць без дна. Усё знікае, расплываецца, як імгла.

Калі расплюшчыла вочы, усё кругом было белае. Апрануты ў белы халат да яе падыходзіць доктар. Яна ў бальніцы.

Моўчкі глядзіць на доктара і не можа здабыцца на слова. Доктар бачыць пытанне ў яе вачах.

— Дзіця тут, яно чуецца добра, — паясняе.

Шорсткі голас доктара сплывае, як аліва, на ўзбураныя марскія хвалі, супакойваючы ўзбураную стыхію думак.



*Анатоль Корзун*

# ЗАБОЙЦА

Вечарам каля паблізкага лесу чуваць было залпы ружэйных і кулямётных стрэлаў. Скрадаючыся за платамі і дрэвамі, быццам зладзеі, прабеглі бязладнай кучай фашысцкія салдаты.

Вёска быццам вымерла. Усе пахаваліся, дзе хто мог. Раз'ятраныя гітлераўцы стралялі кожнага, хто трапіў ім пад руку.

А потым зрабілася ціха. Нават вецер не шапацеў лісцямі дрэў. Цемра ночы заглушыла ўсякія гукі.

Хата Андрэя стаяла каля ўзгорка ў канцы вёскі. Рана Андрэй асцярожна ўзабраўся на ўзгорак і разглядаў наваколле. У другім канцы вёскі пачуліся брэх сабак і людскія галасы. Андрэй толькі хацеў вярнуцца ў свой схованак, але раптам убачыў, што людзі бягуць у тым напрамку, адкуль даходзілі галасы.

— Нашыя! Нашыя! — пачуў ён.

Ці гэта праўда? Сколькі год страху, здзекаў, слёз. І гэтаму ўжо канец. Не гледзячы на свае пяцьдзесят год, Андрэй бягом пусціўся спатыкаць Чырвоную Армію.

Андрэй меў тры гектары зямлі. Каб пракарміць сваю сям'ю, мусіў наймацца ў кулакоў і памешчыка Вайцяхоўскага. Плацілі грошы. Але выбіраць не было ў чым. Гэткіх як ён было многа, а працы не было.

Дзеці радзіліся і паміралі, нат не пазнаўшы — хто гэта доктар. У час вайны памерла і матка. Астаўся з двума сынамі.

І вось прышло доўгачаканае вызваленне. Старэйшы сын пайшоў у армію. Андрэй быў выбраны старшынёй сельсавета і жыў з малодшым сынам Лёнем, якому было 13 год.

У вёсцы панавала парушэнне. Вялася падрыхтоўка да парцэляцыі маёнтку Вайцяхоўскага. Многія цешыліся, што збыліся векавыя мары. Але былі і такія, якія баяліся браць зямлю. Вайна яшчэ не скончылася, фронт не так далёка. Хто ж яго ведае, што яшчэ можа быць? Мо вернуцца паны і будуць помсціць. Лепш пачакаць. Гэтую няпэўнасць падтрымоўвала варожая прапаганда, якую вялі вясковыя кулакі і іх прыспешнікі.



Андрэй двоіўся і троіўся, каб змабілізаваць сялян да правядзення рэформы.

Землямераў не было. Трэба было самому даваць рады. Сабраўшы сялян, Андрэй, узяўшы пад паху шнур і калкі, павёў іх дзяліць зямлю.

Вечарам змучаны, але задаволены, сядзеў у канцылярыі, абдумваючы план далейшага дзеяння, калі да яго ўвайшоў Сцяпан Вясковец, яго найбліжэйшы сусед.

— Зямлі хочаш? — спытаў Андрэй Сцяпана, які ўсеўшыся на крэсла, моўчкі круціў папяросу, як бы не рашаючыся распачаць гутарку.

— Не з дурных я, — адказаў Сцяпан. Закурыўшы папяросу, ён зацягнуўся дымам і пасля хвіліны маўчання пачаў:

— Слухай, Андрэй. Я цябе папярэдзіць прышоў. Стары ты, а заслеплены бальшавіцкай прапагандай. Дрэнна гэта скончыцца. Бальшавікі, аслабшыя вайной, ледзь дыхаюць. Армія альянтаў непарушана. Яна чакае толькі спрыяльных умоў, каб расправіцца з бальшавікамі, а сюды прыдзе Андэрс; тады ўсе камуністы на сухой асіне вісець будуць. Раю табе, як сусед, кінь ты гэту парцэляцыю.

Андрэй пачырванеў са злосці, ёрзаў расхваляваны на крэсле, але выслухаў Сцяпана да канца.

— А ты мо ад Вайцяхоўскага? Мо на лёкая яго авансаваў? — адказаў.

— Сам ты бальшавіцкі лёкай, — ускіпеў Сцяпан.

— Дачакаешся вяроўкі. Вунь у лесе цэлая армія да бою гатова. З Лондану загаду чакае.

— Пайшоў ты к чорту са сваім лонданскім урадам, — не вытрымаў Андрэй. — Вон адсюль, каб цябе мае вочы не бачылі, бо зараз міліцыю паклічу, дык і свайго Андэрса не дачакаешся.

— Успомніш ты яшчэ мяне, — сыкнуў праз зубы Сцяпан і, бразнуўшы дзвярыма, выйшаў.

Дзіўным чалавекам быў гэты Сцяпан. У хаце бяда аж пішчэла, а за паноў заступаўся. Перад вайной уладам падлізваўся, перад кожным паліцыянтам бліном гатоў быў легчы. Марыў становішча солтыса дабіцца. Пасля вызвалення Заходняй Беларусі пачаткова сядзеў ціха, а пасля з рознымі панкамі звязаўся. Паўставала арганізацыя, скіраваная супраць Савецкай улады.

У час вайны таксама быў членам тайнай арганізацыі. Гаварылася там многа пра вызваленне краіны. Але немцаў не чапалі, а нават гутаркі ішлі, што па-ціху ад немцаў аружжа атрымоўвалі. Затое вялі барацьбу з савецкімі партызанамі ды падазронымі ў сімпатыі да камуністаў.

А цяпер лясы запоўніліся гэткімі фашысцкімі прыхвастнямі.

Барацьба была яўна скіраваная супраць народа, які, скінуўшы акупацыйнае ярмо, выпрастоўваў плечы.

— Не дачакаюцца яны, — уголас падумаў Андрэй, сціснуўшы кулакі, як бы гатовячыся кінуцца на невідочнага ворага.

Некалькі дзён потым Андрэй даведаўся, што Сцяпан знік з дому і што бачылі яго з бандамі. Ён стаў нават на чале атрада, які праводзіць рэквізіцыю быдла і іншай маёмасці сялян і крывава распраўляецца з членамі і прыхільнікамі ППР, а таксама з прадстаўнікамі дзяржаўных установ, а асабліва міліцыянерамі і працаўнікамі бяспекі. Атрад Сцяпана праяўляў вялікую актыўнасць і адзначаўся выключнай лютасцю.

Позна ўночы, калі вёска была пагружана ў глыбокім сне, на вуліцы вёскі пачуўся тупат ног і брэх сабак. Раптоўны стук у дзверы збудзіў Андрэя. Не паспеў апрануцца, калі дзверы выляцелі з завесаў і ў пакой уварвалася трох мужчын. Адзін стаў каля дзвярэй, двух з аўтаматамі гатовымі да стрэлу падышлі да Андрэя.

— Ты Андрэй Мялешка? — спытаў адзін з іх.

— Я, — адказаў Андрэй.

Кароткая аўтаматная чарга, Андрэй паволі асунуўся на зямлю.

Лёня, праснуўшыся сядзеў, дрыжучы як асіна, на ложку. Халоднае дула аўтамата скіравалася на яго. Глядзеў у дула, з якога яшчэ выходзіў дымок і не змог нават сказаць слова.

— Не трэба, — сказаў другі мужчына, адсоўваючы дула аўтамата ўбок. Ён відавочна не страціў астаткаў чалавечых пачуццяў.

— Не было загаду, — як бы апраўдаўся ён перад таварышам.

— Ну, чорт з ім, — згадзіўся бандыт і яны выйшлі з памяшкання.

Лёня сядзеў яшчэ доўга моўчкі і толькі дрыжыкі ўстрасалі яго целам. Пасля апаў на падушку і заліўся горкімі слязамі. Рана знайшлі яго суседзі непрытомнага ў гарачцы.

З таго часу Лёня змяніўся. Ён зрабіўся маўклівы, нетаварыскі, задумлівы.

На вёсцы ўсе гаварылі, што гэта работа Сцяпана. Праўда, ніхто яго ў гэту ноч не бачыў у вёсцы і сярод забойцаў яго не было. Але бандыты былі з атрада Сцяпана і ніхто не верыў, што зрабілі гэта без яго загаду, а Сцяпан неаднаразова пагражаў Андрэю.

Але кончыўся добры час для бандаў. Штораз больш аператыўна дзейнічала войска, міліцыя, бяспека. Ім дапамагаў сялянскі актыў.

Рады бандытаў раставалі. Адны з іх гінулі ў барацьбе, іншыя траплялі ў палон і, асуджаныя вайсковымі судамі, сядзелі па турмах. Многія зложылі аружжа пасля аб'яўлення амністыі.



Пра Сцяпана загінуў усякі слух. Адны гаварылі, што ён забіты, другія, што ён схаваўся на Заходніх землях.

Прашло 12 год. Час заціраў у памяці Лёні цяжкае перажыванне той страшнай ночы. Людзі забываліся пра вайну і змаганні з бандамі. У гэты час у вёсцы з'явіўся Сцяпан. Вярнуўся з жонкай і дзяцьмі на гаспадарку да старых бацькоў.

У Лёні адкрылася заросшая рана. Забойца яго бацькі сядзеў у суседнім доме. Яго штодзень можна было бачыць праз акно, як кратаўся па падворку. Спакойна прасядзеў на захадзе найгоршы час, цяпер як ні ў чым не бывала, жыве на сваёй гаспадарцы.

Лёня сціскаў кулакі і гатоў быў кінуцца на Сцяпана і рваць яго на кускі. Але паспрабуй. Помсціцца, у турму пойдзеш. Трое дзяцей без хлеба астанецца. А мо пайсці, данесці на пастарунак МО і што з гэтага? Чым дакажаш? Дзе знойдзеш сведкаў? Не меў ніякіх доказаў. Чуў ад людзей. А мала чаго людзі нагавараць могуць.

Не, нічога не зробіш. Трэба пагадзіцца з гэтым, што Сцяпан астанецца без кары.

Час праходзіў і супакойваў узбураныя пачуцці Лёні. Сцяпан нават са свайго боку прабаваў здабыць давер Лёні. Загаварваў да яго ветліва. Дапамогу ў гаспадарцы абяцаў. Лёня глядзеў з-пад ілба і адказваў буркліва.

Сцяпан не змог уседзець ціха. Разам з шваграм Вярбіцкім ён пачаў гнаць самагонку. Доўга гэта ўдавалася. Але нехта данёс міліцыі. Міліцыя знайшла апарат і гарэлку. Швагра абсудзілі на паўгода ў турму. Заплацілі па 5 тысяч злотых штрафу, а колькі суд і адвакат каштаваў. Злічыцца цяжка.

— Як ты думаеш? — звярнуўся Сцяпан да Вярбіцкага, — хто мог на нас данесці?

— А хто ж, калі не Мялешка, — адказаў Вярбіцкі. — Па бацьку пайшоў, уладам выслугоўваецца.

Сцяпан і сам меў падазрэнне на Лёню. Ён жа найбліжэйшы сусед, а пры гэтым ваўком глядзіць на Сцяпана.

— Трэба яму адмясціць добра бакі, ды загадаць, каб звярнуў нам кошты справы, — запрапанаваў Сцяпан.

— Добра раіш, — абрадаваўся Вярбіцкі. Хай я яго дзе самога спаткаю!

Сцяпану гэтага толькі было і трэба. Сам ён не рашаўся напасці на Лёню. Мо глыбока ўтоенае пачуццё віны паралізавала яго волю і паўстрымоўвала ад дзеяння.

Незадоўга Лёню адвезлі ў бальніцу. Вярбіцкі падышоў да Лёні, калі той араў сам далёка ад вёскі.

— Даносамі займаешся, суседзяў прадаеш. Зямлю будзеш гры-

зці, як бацька, калі не звернеш мне і Сцяпану коштаў і страт, — і ён ударыў Лёню ў зубы, трыманым кіем так, што той без памяці зваліўся на зямлю.

Пасля двух тыдняў Лёня выйшаў з бальніцы. Справа супраць Вярбіцкага была спынена.

— Можаш падаць у суд, — параілі яму. А паспрабуй судзіцца без сведкаў. Коштаў без ліку, а ладу ніякага.

Вярбіцкі астаўся пераможцам.

Пры кожнай аказіі ён пагражаў Лёні, патрабуючы заплаты для сябе і Сцяпана. Сцяпан маўчаў, але па-воўчаму позірку можна было дагадацца, што ведае аб пагрозах Вярбіцкага і думае тое самае...

Лёня жыў пад страхам. Вечарам баяўся выйсці на двор. Яму здавалася, што за кожным кутом яго падпільноўвае Вярбіцкі, або Сцяпан і яму прыпамінаўся абліты крывёй бацька. Спаў неспакойна, а часамі зрываўся з крыкам. У вёсцы ўсе гаварылі, што Сцяпан мае схаваны рэвальвер. Стрэліць з-за вугла і ніхто ведаць не будзе.

— Мо лепш заплаціць, хоць немаведама за што. — Прыходзіла часам Лёні думка. Ён у сапраўднасці не меў нічога супольнага са справамі Сцяпана і яго швагра. Але паспрабуй вытлумач ім гэта. А з чаго ім заплаціш. Тысяч хіба з дваццаць збярэцца. Хіба гаспадарку прадаць. А самому з жонкай і дзяцьмі з торбамі па свету.

Лёня параіўшыся з жонкай, напісаў да брата, які пражываў у Шчэціне. А атрымаўшы памысны адказ, рашыў прадаць гаспадарку і выехаць у Шчэцін. Грошай трохі будзе, брат паможа.

У хаце заставаліся толькі неабходныя рэчы. Усё іншае было распродана. Лёня рыхтаваўся ў дарогу.

Сцяпан і Вярбіцкі ўстрывожыліся. Здабыча вымыкалася ў іх з рук. Яны сышліся, каб параіцца.

— Бачыш, уцячы хоча, — заўважыў Вярбіцкі, — а грошы нашы прапалі.

— А чаму мелі б прапасці? — адказаў Сцяпан.

— Прадаў гаспадарку, грошы мае.

Лёня быў цэлы тыдзень хворы. Сёння ён адчуваў сябе ляпей. Яму нудзілася ляжаць без заняткаў. Каб заняцца чым-небудзь, ён узяў кій і нож і пачаў стругаць забаўку для дзяцей.

— Нехта ідзе, — уцешыўся Лёня, чуючы крокі на панадворку. Дзверы адчыніліся і ў хату ўвайшоў Вярбіцкі. Лёня здзіўлена адлажыў нож і кій.

— Выязджаем? — прамовіў Вярбіцкі, падыходзячы бліжэй да ложка.

— Выязджаю, — адказаў Лёня.



— А як з грашыма?

— Якія грошы, чаго вы да мяне прычапіліся?! Вон з хаты! — ускіпеў Лёня, зрываючыся з ложка і гатовы кінуцца на Вярбіцкага.

Вярбіцкі моўчкі выцягнуў з кішэні нож. Жонка Лёні, бачачы гэта падала мужу сякеру. Вярбіцкі аглядаючыся, пасоўваўся да дзвярэй, але ледзь знік за дзвярыма, а Лёня адлажыўшы сякеру, не паспеў легчы ў ложак, калі ў памяшканні з'явіўся Сцяпан.

— Ты да людзей з сякерай не соўвайся. Аддай лепш па-добраму грошы!

— Я табе дам грошы, бандыт! Прайшлі тыя часы, калі ўсе табе грошы павінны былі даваць.

Лёня схапіў нож і кінуўся да Сцяпана. Сцяпан сунуў руку за пазуху.

«Па рэвольвер» — бліснула думка ў Лёні і ён маланкава ўдарыў Сцяпана нажом у грудзі.

Сцяпан пахіснуўся, апусціў руку і пачаў адступаць. Але Лёня не панаваў над сабой. Смерць бацькі, страх і пабоі, змарнаваная гаспадарка — усё гэта было ўзрыўчаткай, а правакацыйнае патрабаванне грошай — запальнікам. Лёня, дапаўшы да Сцяпана, біў нажом дзе папала, аж той, сабраўшы рэшткі сіл, вырваўся, выбег на панадворак і, прабегшы некалькі крокаў паў на снег.

*

«Грамадзяне суддзі! — гаварыў на судзе пракурор. — Быў я ў памяшканні забітага Сцяпана Вяскоўца. Ён пакінуў пяцёра малых дзяцей. Сэрца сціскаецца, калі глядзіш на тую бяду і галечу. На гэтых босых і абдзёртых дзяцей, якія засталіся сіратамі».

На зруйнованай гаспадарцы, нават без кроплі малака, у пустым амаль памяшканні, чакалі на суд свайго бацькі-забойцы жонка і трое дзяцей.

# Злодзей

Янка быў злосны і растроены. Ходзячы з кута ў кут у сваім маленькім пакойчыку, размеры якога хутчэй нагадвалі кабіну касманаўта, чым жылое памяшканне, комкаў у пальцах даўно пагасшую папяросу.

«У шахту едзь, або ў горад на фабрыку. Першынство маюць сямейныя», — прыпомніў ён словы працаўніка бюро працы, і з вуснаў яго вырваўся праклён.

«З букетамі там цябе сустракаць будуць, — іранізаваў Янка. — Ягоны сын напэўна не паедзе ў горад, яму праца знойдзецца, нягледзячы но тое, што і так маюць з чаго жыць. Толькі ў мяне заўсёды калоды пад нагамі».

І сапраўды жыццё Янкі ўкладвалася нялёгка.

Маткі ён зусім не памятаў. Мачыха адносілася абыякава. Проста мала звяртала на яго ўвагі. Калі меў сем год, памёр бацька. Мачыха незадоўга, сабраўшы пажыткі выехала да новага мужа, пакідаючы яго на ласку дзядзькі, у якога на кватэры жылі яго бацькі. Дзядзька лічыўся добрым гаспадаром.

«Каб яму гэтак добра было на тым свеце», — успомніўшы яго, выругаўся Янка.

Будзілі чуць свет. Ах, як хацелася спаць! З зайздрасцю паглядаў на ўпасенага сына гаспадара, які, хоць быў два разы большы ад Янкі, вылежваўся ледзь не да поўдня. Бегаў босымі нагамі па сцюдзённай расе, а ў жываце бурчала ад голаду. Снеданне не хутка. Хоць бы кавалак сухога хлеба!

Нялёгка прыходзіўся гэты хлеб. Прыгнаўшы быдла дамоў на полудзень і напхаўшы жывот бульбай з бацвіннем, зноў да работы: травы свінням набраць, градкі палоць — работа заўсёды знойдзецца.

У школу хадзіць часу не было. Ішоў тады, калі ўжо быдла ў поле гнаць не было трэба. Дзеці ўжо прайшлі многа, дагнаць было цяжка. Знеахвочваўся тым і вучыўся дрэнна. З дзяцьмі здружыцца не ўмеў. Як на злосць яшчэ гэта рыжая купіна на галаве замест людскіх валос.



«Рыжы»! — крычаць на яго дзеці, і чым больш гневаўся, больш смяяліся. Кідаўся біцца, але на яго нападала адразу некалькі. Вяртаўся ў царапінах і сіняках.

З цяжкасцямі скончыў два класы. Ледзь чытаць па складах навучыўся ды ставіць на паперы нейкія кульфоны, мала падобныя да літар.

Уцёк ад дзядзькі ў мястэчка. Некалькі дзён хадзіў галодны, начуючы на станцыі. Прыгарнулі яго рыбакі. Памагаў ім, даставаў есці і кілішак водкі. Не маючы шаснаццаці год, уладкаваўся на работу пры будовах. Цягаў цэглу, вапну, пясок. За гэта даставаў грошы. Першыя грошы, якімі мог свабодна распараджацца. Наняў сабе гэты пакойчык і чуўся зусім шчаслівы.

А цяпер перад зімой звольнілі. У правінцыянальным мястэчку зімой працу знайсці не так лёгка.

«Едзь у горад!» — добра ім гэта гаварыць.

Прыпомніліся начлегі на станцыі. А тады ж было цёпла. Можна было цэлымі днямі цягацца, а як трэба, дык і на траве праспацца. Дзе дзенешся, пакуль працу ды памяшканне знойдзеш, тым больш, што і грошай толькі столькі, колькі атрымаў пры разлічэнні. Зарплату расходваў. Трэба было і выпіць з таварышамі і пагуляць. Нат і не ведаў, як яны хутка зніклі. Так што перад выплатай нават пазычаць прыходзілася.

— Што так галаву павесіў? — у дзвярах стаяў сусед Якуб. Янка не заўважыў нават, калі ён увайшоў у пакой.

Пра Якуба шырылася нядобрая слава. Сквапны быў да лёгкага хлеба. Калі працаваў, дык толькі для вока і столькі, колькі было неабходна, каб утрымацца на пасадзе ў прадпрыемстве направы аўтамашын. Жыў значна лепш, чым можна было спадзявацца па яго скромных заработках. Яго дэвізам было: «Смерць разявакам», а разявакамі ў яго ўяўленні былі ўсе, хто жыў толькі з чэснай працы.

У прыватным жыцці Якуб быў таварыскі. Любіў выпіць і з некім, але і сам у даўгу не заставаўся. Да Янкі ён адносіўся прыхільна, хаця і падсмейваўся з яго праз прастацтва. Не адну бутэльку разам выпілі.

— Чаму не зойдзеш да мяне? Часу не хапае? — у апошніх словах чуўся насмешлівы намёк на сітуацыю, у якой знаходзіўся Янка.

Нягледзячы на гэта, Янка быў задаволены, што можа адарвацца ад пякучых думак і пачуцця адзіноцтва, якое наведвае чалавека ў цяжкія хвіліны жыцця.

У Якуба за сталом сядзеў ужо равеснік Янкі, Франук. Гэтаму,

калі ён не сядзеў у турме, жылося вельмі добра. Шастаў грашыма, як трэскамі, гуляў як «ухар купец» і быў цвярозы толькі тады, калі вяртаўся дамоў пасля начлегу ва ўчастку міліцыі. Янка не любіў яго і ўнікаў сяброўства з ім. Але цяпер яму было ўсё роўна.

Выпіўка цягнулася да позняй ночы. На стале і пад сталом стаяла ўжо цэлая батэрыя бутэлек па водцы, віне і піве, калі распачалася гэтая ракавая гутарка.

— Грошы ляжаць на вуліцы, трэба іх толькі ўмець падняць, — выводзіў гаспадар.

— Дзе? — здзівіўся наіўны Янка, якому ўжо добра курылася з раскудлачанага чуба.

— А хоць бы ў прадуктовым ларку.

— Ну, гэта не падымаць на вуліцы, а проста ўкрасці грамадскую маёмасць, — здагадаўся Янка, а ў яго затуманеных алкаголем мазгах будзіўся пратэст.

— А табе грамадства многа дало? — пытаўся Якуб насмешліва.

Янка задумаўся.

Мімаволі ўспомнілася сумнае дзяцінства, дзядзька — кулак і апошняе звальненне.

— Гэта ж чужое, дык і папасці можна.

— Будзе наша! — настойваў на сваім гаспадар.

— Баішся? — іранічна спытаў Франук, які дагэтуль моўчкі прыслухоўваўся да гутаркі.

— Не баюся, але... — не ўмеў вытлумачыць, што гэтае «але» азначала.

— Вып'ем! — напаўняючы шклянкі водкай, запрапанаваў гаспадар.

Было ціха. Мястэчка было пагружана ў глыбокім сне, калі ўзброеныя ў лом Франук і Янка падышлі да ларка.

Франук залажыў лом у вушка замка. Трэск, быццам арматны выстрал — і замок бразнуў аб зямлю. Хвіліну стаялі моўчкі. Цемра ночы паглынула ўсе гукі. Было зноў ціха. Янка ўвайшоў у ларок. Адчыніў шуфляду століка. Загарнуў злотых са сто драбніцы. Больш там не было. З полак набраў у кардонную скрынку шакаладу, цукерак, віна. Аддаў Франуку, які стаяў на варце. Узяў яшчэ колькі мог. Вярнуўся да гаспадара.

— Варта было замок ламаць дзеля гэтага! — сказаў незадаволены гаспадар. — Нават на тысячу злотых не збярэцца. Дай мяшок. Пайшлі яшчэ раз.

Якуб схаваў крадзенае ў яму з бульбай. Тэрпентынай сляды да ларка папырскаў і здаволены пайшоў спаць.

Галава балела Янку, калі прабудзіўся назаўтра, а яшчэ больш балела сэрца, калі ўспомніў учарашняе.



— Маўчы, хоць бы цябе на кавалкі кроілі, — з пагрозай сказаў учора на развітанне Якуб.

Маўчы! А тут крычаць на ўвесь голас хочацца. Бразнулі дзверы, Янка падскочыў. «Па мяне ідуць», — думаў. А гэта гаспадыня дамоў вяртаецца з ранішнімі закупамі.

«А мо пайсці самому ў міліцыю, але чым вытлумачышся? Што быў п'яны? За гэта, кажуць, яшчэ мацней судзяць, чым цвярозага. Пасадзяць, а пасля ад Якуба і Франука месца не знойдзеш. Асабліва Франука. Яму пырнуць нажом чалавека ні па чым.

Эх, як бы працаваў, каб толькі мець супакой, каб ніхто не чапаў».

Выехаць бы адгэтуль як найхутчэй, але што гэта паможа? Падазрэнне адразу на яго будзе, а супольнікі выкарыстаюць гэта, каб усю віну на яго зваліць. Не выехаў. На трэці дзень прышла міліцыя.

Дык вось ты які! — з дакорам глядзела гаспадыня.

Ішоў паміж двума міліцыянерамі пахіліўшы галаву. Баяўся спаткаць позіркам каго знаёмага. Толькі каля пастарунку азірнуўся на шэрыя дамы, агалочаныя з лісцяў дрэвы, пустыя пакапаныя гароды і далёкі цёмны таемны лес. Глядзеў на гэта так, як бы ніколі ўжо не прышлося яму гэтага бачыць.

Міліцыянты затрымаліся разам з ім, як бы спачуваючы яго думкам.

— Зладзея павялі! — раздаўся голас праходзячых тратуарам людзей. Голас гэты ўкалоў, як іголка і вырваў Янку з задумы. Пахіліўшы галаву, ён ступіў на лесвіцу, якая вяла яго на пастарунак.



*Анатоль Корзун*

# ЦЮЛЕНЕВАЕ ФУТРА

На рэльсах чыгункі непадалёк Беластока знойдзена труп мужчыны год каля 50. Выказана меркаванні, што гэта выпадак самагубства.

Міліцыйнае паведамленне было кароткае, лаканічнае. А гісторыя была доўгая, балючая.

## 1. ВАДЗЯНЫ МЛЫН

Вада з шумам падала на млынавае кола і, рухаючы яго каціламся далей, утвараючы ўнізе як бы гурбу снегу, звал белай пены. З гэтай гурбы выцякала рэчка паволі, неахвотна, як бы баючыся плысці ў невядомую далечыню.

А кругом мёдам дыхалі разнакаляровыя сенажаці, над якімі адбываўся канцэрт цвыркуноў.

Над рэчкай бегаў жвавы хлапчук. Ён збудаваў свой млын, які, праўда, нічога не малоў, але варушаны вадой, таксама махаў крыламі кола, як і сапраўдны.

— Вырасту, збудую вялікі, лепшы ад гэтага, — марыў ён. — Будзем з бацькам у сваім млыне працаваць.

Хто ведае, што можа вырасці з хлопца, а тым часам ён пас кароў уласніка млына, вясковага багацея, на якога гне сваю спіну яго бацька, працуючы рабочым у млыне.

Зімой ён хадзіў у школу, у суседнюю вёску — ад млына 5 кіламетраў. Ні марозы, ні мяцелі не маглі яго паўстрымаць.

— Нават каб камені з неба валіліся, ты не ўсядзеў бы ў хаце, — смяяўся з яго бацька. У сапраўднасці ж быў горды з сына, які быў першым вучнем.

Навука ішла яму лёгка. Ён ахвотна браўся за кніжкі. Але апрача кніжак яго чакала іншая праца. Ён майстраваў млын, — такі, у якім працаваў яго бацька.

Нялёгка жылося яго бацьку. Ён быў залежны поўнасцю ад капрызаў свайго гаспадара, які выціскаў з яго пот сколькі гэта было магчыма. Ён мусіў без пратэсту падчыняцца, бо жыў у яго доме і са свайго заробку. Не паслухаеш — выганіць, і куды з сям'ёй падзенешся.

Цягнучы цяжкое ярмо, ён марыў, каб запэўніць сыну лепшую будучыню. Адымаючы сабе апошні кусок ад вуснаў, ён умясціў сына ў гімназію.

Сцёпа бачыў гэта і яму да болі шкада было свайго бацьку.

— Пачакай, тата, вывучуся, свой млын збудуем. Бацька ўсміхаўся. Прыемна яму было гэта слухаць, хаця быў упэўнены, што гэтага ён не дачакае. «Паставіць бы толькі сына на ногі» — уздыхнуў ён.

Не ўдалося і гэта. Ён памёр, калі Сцёпа паступіў у Палітэхнічны інстытут.

«Крыўдна, — думаў Сцёпа. — Праз мяне ён знясіліўся працай. А я не змог яму адудзячыцца. Хоць бы дабіцца чаго і памагчы маці».

Утрымоўваючыся з карэпетыцый, часта галодны і абарваны, ён упарта праціскаўся праз калючы гушчар да мэты, да якой свабодна ішлі, часта папіханыя сілай, гладкай дарогай сыны абшарнікаў, палкоўнікаў і фабрыкантаў.

Маці не дачакалася яго дапамогі. Згінула ад фашысцкай бомбы ў верасні 1939 года, калі Сцёпа з дыпломам інжынера ў кішэні ішоў на зборны пункт.

## 2. НА РАЗДАРОЖЖЫ

І вось ён у арміі, якая, здрадженая сваімі правадырамі, голымі грудзьмі гераічна абараняла сваю бацькаўшчыну. Разам з іншымі ён прайшоў гэта пекла. Разам з іншымі плакаў з бяссільнай злосці, адступаючы бясконца з разбіткамі іншых атрадаў.

А пасля жыццё ў Савецкім Саюзе. Цяжкія ваенныя часы. Слаўны паход ад Леніна да Берліна ў радах І польскай арміі.

Біўся ён адважна. Помсціў за акалечаную вайной бацькаўшчыну, за маці, якая не дачакала яго дапамогі, за знявечаных нямецкімі снарадамі і танкамі таварышаў, за сваё бесталковае жыццё. Ішоў у найбольшы агонь ворага і нейкім цудам выходзіў цэлы.

І вось над руінамі фашысцкага логава залуналі чырвоныя сцягі. Сцёпа з чатырнаццацю медалямі і адзначэннямі і сівінкамі ў валасах выпісаўся з арміі.



## 3. КАЛЯ МЭТЫ

Выпісаўся дамоў. А дзе яго дом? Трэба пачынаць жыццё нанава, ад пачатку. Мільёны ўзяліся за лапаты, сякеры, кельні. А ён — будаўнічы інжынер усюды патрэбны. Тысячы рук і галоў не хапіла б. Ён апынуўся на адказнай пасадзе ў Варшаве.

Але цяпер, калі ваенныя перажыванні пачалі здавацца нейкім кашмарным сном, сярод мірнага стукату трамваяў і шуму вуліцы, яму штораз прыпаміналася рытмічнае пастукванне млына і шум ападаючай на кола вады.

І яму сняцца квітнеючыя сенажаці, пахіленыя над рэчкай вольхі і лозы і белы ад мукі бацька.

— Мушу сабе купіць млын, — вырашыў ён.

А нашто яму гэты млын, ён вытлумачыць толкам не змог. Меў добрую працу па сваёй прафесіі, меў добрых знаёмых і не меў тых, якім млын мог бы прынесці радасць. Проста захацелася глянуць у прошлае, якое ўжо ніколі не вернецца.

Сабраўшы грошы, ён купіў машыну воднага млына. Засталося толькі знайсці адпаведнае месца і паставіць будынак.

— Пабудую млын на Беласточчыне, недзе блізка таго месца, дзе правёў дзіцячыя гады, дзе змарнаваў усё жыццё бацька. Эх, каб дажыў гэтага часу. А мог бы жыць. Меў бы цяпер каля сямідзесяці год.

## 4. ЗДРАДА

У гаспадара, у якога ён знайшоў пакой, з'явіўся новы кватарант — дзяўчына з вёскі, якая, скончыўшы гімназію, паступіла на работу ў фабрыцы ў якасці кантысткі.

Яго штораз больш цягнула да гэтай дзяўчыны і ён міма волі заглядаўся на яе.

— Бачу, спадабалася табе — жаніся, — параіў яму гаспадар.

— Стары я, — уздыхнуў Сцяпан. Ён меў ужо сорак год і быў два разы старэйшы за дзяўчыну.

— Абы толькі хацеў, — заўважыў гаспадар.

— Ты ж інжынер, — грамадская пазіцыя.

«Скромная дзяўчына з вёскі», — думаў Сцяпан і гэта падымала ў яго разуменні яе вартасць. Ён усё яшчэ адчуваў любоў да вёскі.

Дзяўчына згадзілася выйсці замуж. Што ж — інжынер на адказнай пасадзе, чалавек сур'ёзны.

Аднаго разу ён адкрыўся перад жонкай са сваімі думкамі аб пабудове млына.

— Вырачыся кіно, тэатра, выгаднага памяшкання і ехаць у

дзіч — дзіўны ты, Сцёпа, старэешся відавочна, — адказала жонка. Яе працінялі дрыжыкі на сам успамін вёскі. Бацька яе быў малазямельным селянінам, яна пазнала ўсе няўзгоды, якія перажываюць дзеці беднякоў на вёсцы. А дзяцінства прабягала ў выключна цяжкі час адбудовы краіны пасля ваеннага пажару.

Пагардлівы тон жонкі кальнуў яго недзе глыбока ў нутры. Але аргументы жонкі цяжка было не прызнаць слушнымі.

Да гэтай тэмы яны больш не вярталіся.

## 5. ІНШЫ СВЕТ

Ганна трапіла ў кампанію дырэктараў, інжынераў, людзей часта з няпэўным узроўнем ведаў. Але з аграмаднымі амбіцыямі. Сцяпан перарастаў намнога ўсіх іх сваёй інтэлігенцыяй, але ў захаванні выглядаў на прастачка. Ён не ўмеў надскакваць, выкрыўляцца і кідаць гладкімі пустымі словамі. Ганне не падабалася захаванне мужа. Ёй імпанавала гэтая прэтэнсіянальная кампанія з арыстакратычнымі манерамі. Яна не заўважыла, што гэтыя наровы прыкрываюць толькі ўнутраную пустату. Сама яна старалася прысвоіць такія ж манеры, хаця і ў яе гэта не выходзіла гладка.

Каб больш звязацца з кампаніяй, яна пачала запрашаць да сябе гасцей і пільна сачыць за модай.

Сцяпан усімі сіламі хацеў дагадзіць жонцы і без пратэстаў выконваў яе пажаданні. А патрабаванні жонкі рабіліся штораз большымі.

З боку суседак, на якіх яна паглядала звысака часта чула злосныя заўвагі.

«Бачылі вы гэткую, ледзь з гною вылезла, а фохі строіць, пані. Штодзень у іншым адзенні».

Гэткія ўвагі рэзалі яе, як нажом. Адначасова яна чулася вышэйшай за іх. «Зайздросцяць» — пацяшала сябе. «Ну, я ім яшчэ пакажу. Палопаюць яны са злосці». І яна старалася ўбірацца яшчэ больш.

## 6. ЗЛАЧЫНСТВА

Сцяпан зарабляў добра. Апрача зарплаты ён падзарабляў дома, апрацоўваючы праекты будоў.

Аднак грошай не хапала. Асабліва пасля таго, як у іх паявілася дачка. Жонка зрабілася яшчэ больш капрызнай, а ён не бачачы свету за дачкой, не мог адмовіць ніякім капрызам маткі. Ён пачаў пазычаць грошы ў знаёмых. Даўгі паступова нарасталі, і ён не паспяваў іх сплачваць. Таварышы яго пачалі адмаўляцца пазычаць, а некаторыя гневаліся і зрывалі з ім адносіны, пагражалі скіраваць справу ў суд.

Сцяпана мучыла гэта. Ён траціў аўтарытэт. У сапраўднасці хацеў заплаціць, але выдаткі жонкі стаялі на перашкодзе.

У гэты час да яго з'явіўся знаёмы з вёскі, які рыхтаваўся да пабудовы млына.

— З ліцэнцыяй маю клопат, — гаварыў ён. — Ты маеш тут знаёмых, круцішся ў гэтых кругах, пагавары з кім-небудзь, у даўгу не застануся.

Пакінуў 500 зл.

Сцяпан абяцаў пагаварыць.

— Вярну грошы, як толькі іх раздабуду, вытлумачу, што памагчы не ўдалося, — успакойваў ён сваё сумленне.

Грошы раздабыць не мог.

Прыйшлося прадаць машыну на млын. Паведаміў усіх знаёмых. Незадоўга з'явіўся купец. Заплаціў 30 тысяч. Сцяпан думаў сплаціць даўгі. Перашкодзіла жонка.

— Бачыў ты, якое прыгожае цюленевае футра купіла Янкоўская, — прыміляючыся, пачала гутарку жонка. — А ён жа толькі тэхнік, ці ж табе роўня. А як яно пасавала б мне!

Некалькі дзён пасля Ганна фарсіла ў цюленевым футры, з пагардай паглядаючы на зайздросных суседак.

А крэдытары станавіліся штораз больш нахальнымі.

У гэты час з'явіўся купец на машыну, які не ведаў, што яна ўжо прадана.

Прадаў другі раз.

— Высвятлю, што гэта недаразуменне, а тым часам раздабуду грошы, вярну, — прабаваў успакоіць сябе Сцяпан.

Але грошы, якія ён зарабляў, расплываліся, як вада. Вярнуць грошы не было магчымасці.

## 7. ЗАПЛАТА

Сцяпан адседжваў тры гады турмы, на якія суд прыгаварыў яго за ашуканства.

Калі працуеш, здаецца, забываеш, хаця нейкі цяжар ціснe сэрца. А калі вернешся з працы: некалькі крокаў уперад, і зноў некалькі назад. А думы нападаюць як саранча, здаецца, мазгі пераварочваюць.

І не турэмны рэжым мучыў яго. Быў у жыцці на возе і пад возам. Прывык да горшага. Думкі яго былі пры жонцы і маленькай

ічцы. Плакалі, калі яго забіралі. Сніліся яму ўначы, на яве, не івалі спакою.

Не меў жалю да жонкі. Ён для яе ў самае пекла пайшоў бы, ы была шчаслівая, абы ёй было добра.

Як яны, бедныя, жывуць. Жонка паступіла на работу. Мае сяднюю адукацыю, але прафесіі ніякай. Можна было вучыцца лей. Дагэтуль скончыла б універсітэт. Цяпер мусіць задаволіц скромным заробкам.

Пісьмы яе прачытваў па некалькі разоў і перахоўваў, як свясць.

Пасля двух год пісьмы спыніліся.

— Хатнія клопаты, праца, — прабаваў сябе цешыць Сцяпан. іе ў душу закрадаўся сум.

«Не, гэта не тое, яна ж зусім маладая». Падшэптваў яму нейголас. Ён праганяў яго з галавы і ўспакойваў сябе. Але назойзая думка вызвалялася ў час сну і гойсала па мазгах.

Сніць, як ён ідзе праз рэчку па лёдзе. Лёд заламаўся. Ён тоне. рад ім мост, на якім як абаранкі, ратунковыя паясы. Кінуў бы о. На мосце з'яўляецца Ганна, смяецца, абдымаецца бяссорамз маладым мужчынам і не звяртае на яго ўвагі.

Прачынаецца абліты потам, як бы сапраўды вылез з рэчкі. ўга кідаецца на нарах. Думае пра Ганну. Як яго спатыкала, лі вяртаўся з працы. Асабліва першыя часы пасля шлюбу.

Вось ён вяртаецца дамоў змучаны, галодны, аж у жываце іскае. Сядае за стол, а яна замест абеду падсоўвае яму пад нос лю і смяецца смехам, які разрывае Сцяпану сэрца.

Ірачынаецца спалоханы. Сэрца б'ецца ў грудзях, як толькі о злоўленая птушка.

Удзень стражнік прынёс яму два пісьмы. Гэта ніколі ў турме здаралася. Адно пісьмо ад жонкі. Пазнаў яе почырк на канэце. Другое з суда.

Ён трымаў пісьмы дрыжачай рукой. Не адважыўся чытаць. льш перажываў як тады, калі суддзя адчытаў прыгавор.

Стражнік паглядзеў спачувальна. Сказаў некалькі супакойваых слоў, якіх змест не дайшоў да сведамасці Сцяпана.

Выцягнуў пісьмо з судовага канверта.

Пазыў аб развод» — прачытаў.

## 8. ІМЯНІНЫ ГАННЫ

Бвякнулі жалезныя вароты. На вуліцы апынуўся сівы згорбы мужчына. Аглянуўся, як бы хацеў уцячы перад свабодай, звер, які не хоча пакінуць сваю клетку, у якой яго доўга трымаюць. Не, не вернешся. Не выйдзеш адтуль па сваёй волі і не вернешся там. Ішоў машынальна. Не задумваючыся куды.

— Пойдзеш дамоў, — сказаў яму сёння стражнік, праводзячы з цэлі ў канцылярыю.

«Дамоў, дамоў...» паўтараў ён у думцы. «А дзе гэты мой дом?» Ён не меў куды ісці, як тады, калі яго выпісалі з арміі. Але тады перад ім быў адчынены свет. Ён ішоў з пачуццём добра выкананага абавязку, чыстым сумленнем, з яснымі думкамі.

А цяпер ён ідзе з пятном аферыста і машэнніка, якому многія з даўніх таварышаў не захочуць падаць рукі. Ідзе без надзеі на будучыню, з разбітай верай і ў людзей і ў самога сябе.

«Патрэбны рабочыя, муляры, тэхнікі», — чытаў ён у газеце ўчора. А я інжынер, столяр, муляр, здун, я, які па-мастацку магу выканаць кожную работу, нікому непатрэбны... арыштант».

Мімаволі глянуў на сябе. На ім была нармальная, цывільная вопратка. Але і яна здавалася перасякнутай запахам турмы. Хто б мімаволі не глянуў на яго, яму здавалася, дагадваўся, што ён ідзе з турмы. «Арыштант».

Не заўважыў, як апынуўся за горадам. Кругом залягалі палі і красаваліся розным колерам духмяныя сенажаці. Але ён гэтага не бачыў.

«Сёння імяніны жонкі, — прыпомніў ён. — Але яна ўжо не жонка... І дачку забрала, маленькую Эву, не аддасць турэмшчыку».

Праходзіў каля чыгункі. З грукатам падляцеў цягнік.

«Трэба з гэтым скончыць», — мільганула думка. А пасля міліцыйны рапарт.

## 9. СТО ГОД...

Пры багата застаўленым стале сядзелі госці. Побач Ганны элегантны малады мужчына. Апаражнілі кілішкі. Хрыплымі галасамі адспявалі: «Сто год». Нехта пачаў «горка» крычаць, хаця было ўжо тры месяцы пасля вяселля.

Толькі маленькая Эва не падзяляла з усімі вясёласці.

— Мама, а калі вернецца тата, — спытала яна неспадзявана, калі ўціхамірыліся госці.

Ганна пачырванела, змяшалася.

— Гаварыла я табе не раз, што гэта твой тата, — адказала з раздражненнем.

Эва глянула на чыста выгалены твар франта і апусціла галаву. Ёй прыпомніўся тады барадаты твар свайго бацькі, на руках у якога ж яна не адчувала ніякай небяспекі. У яе на вачах паказаліся слёзы.



*ктар Кабац*

# Марта

## 1. ЯК СЁМКА ПЁК БУЛЬБУ

Хмары неспадзявана зніклі, і жоўтыя праменні асенняга сонца азалацілі прамокшую зямлю. Людзі высыпаліся ў поле капаць бульбу, буракі. Выйшаў і Піліп з жонкаю, загадаўшы сямігадоваму Сімку пільнаваць маленькую Галю.

Сімка важна надуў губы. Глядзіце, хто я такі, сам гаспадар у хаце. Але глядзець не было каму, і таму роля гаспадара хутка яму надакучыла. Паглядзеў непрыязна на сястрычку. Вунь яго таварышы на вуліцы гарцуюць, а ён мусіць гэтую смаркатую пільнаваць.

А «смаркуля» ў гэты час займалася цікавым эксперыментам. Яна брала нагу і прабавала пасмактаць вялікі палец. Але нага вырывалася з рук і ўцякала. Гэта раздражніла Галю. Яна заёрзалася, заплакала, але вымушана была задаволіцца пальцам рукі, які аказаўся больш паслухмяны. Гэта супакоіла яе, яна заснула.

— Цяпер можна пагуляць, — падумаў Сімка і выбег на вуліцу. Там ён сустрэў Грышку, Юрку і Маню, з якімі пачаў гульню ў хованкі.

Раптам ён пачуў крык Галі. Ён пабег дамоў. Галя, абудзіўшыся, верашчала на ўсё горла, брыкала нагамі і патрасала кулачкамі. Ледзь удалося замкнуць рот соскай.

Дзеці не дачакаўшыся таварыша па гульні, прыйшлі да яго ў памяшканне.

— Давайце распалім вогнішча і напячэм бульбы, — запрапанаваў Сімка. Усім спадабалася прапанова.

— А дзе будзем распальваць?

— Тут, пасярэдзіне хаты.

Дзеці нацягнулі з двара галля і паклалі пасярэдзіне хаты. Сімка выцягнуў з калыскі Галю і пасадзіў на падлозе на посцілцы. Хай і яна паўглядаецца.

Маленькі агеньчык рос на вачах і хутка шугануў аж пад столь. Хата напоўнілася дымам, а агонь пачаў бушаваць па ўсім памяшканні, абсыпаючы дзяцей пякучымі іскрамі. Дзеці без памяці кінуліся за дзверы. Толькі Галя, упаўшы на плечы, крычала на ўвесь голас.

## 2. ПОДЗВІГ МАРТЫ І ЎЗНАГАРОДА

Марта ляжала каля буды, ляскаючы час ад часу зубамі на дакучлівыя асеннія мухі. Але мух было многа. Калі каторую ўдалося злавіць, дык на яе месца з'яўлялася некалькі. Бачачы, што не пераловіць назойлівых насякомых, Марта ўткнула морду ў лапы і задрамала, рухаючы толькі час ад часу вушамі.

Марта — гэта старая сука дзеда Сымона. Ніхто не памятае колькі ёй год. Дзеці, якія гулялі з ёю, калі была шчанём, раз'ехаліся па свеце і маюць ужо свае сем'і. Сымон, які ў той час быў мужчынам поўным сіл, прыгорбіўся і пасівеў. Страціўшы ў час вайны сям'ю ён жыў сам, як кол, і ўсю яго жывёлу станавіла Марта. Старасць давала сябе адчуць і Марце.

Назваў яе гэтак адзін жэўжык па злосці за тое, што не дазволіла яму красці яблык у Сымонавым садзе. Мартай жа называлася старая жанчына, з якой ён меў свае рахункі за падраныя вушы. Балелі яму не столькі вушы, сколькі тое, што даўся старой злавіць у яе садзе. Называючы яе імем сучку, ён парахаваўся гэтым самым з адной і другой.

Дзецям спадабалася гэтая клічка, і яна так прыліпла да сучкі, што потым і сам гаспадар пачаў яе клікаць гэтым імем. І хаця гэтае імя мела вырашыць злоснасць яе старой аднайменніцы, Марта-сучка была спакойная і лагодная, як цяля.

Яна любіла дзяцей і дазваляла ім цягаць сябе за вушы, а нават ездзіць на ёй. Бурчэла грозна і хапала за руку або нагу, але так далікатна, што яе ніхто не баяўся. Затое дзеці дзяліліся з ёю хлебам, бульбай, а часам прыносілі ёй смакавітыя косткі.

Марту вырваў з дрэмкі роспачны крык дзіцяці, які даходзіў з суседняй хаты. Яна падняла галаву, прыслухалася і пабегла ў гэтым напрамку, адкуль даносіўся крык.

Дзверы былі адчынены. Хата была поўная агню і дыму. Падбегла да дзвярэй, з-за якіх даносіўся прарэзлівы крык дзіцяці. Падалася са страху назад, але незадоўга, стуліўшы вушы, скочыла ў мора дыму. Схапіўшы Галю за кашульку, валакла яе да дзвярэй.

З сыкам звалілася на галаву галавешка. Марта са скавытам пусціла дзіця і скочыла да дзвярэй. Але нейкая нябачная сіла яе затрымала. Яна вярнулася, схапіла дзіця і апошнімі сіламі выцягнула на панадворак. Скавычачы ад болю, сядзела пры самлеўшым дзіцяці. А ў вачах залягла цемра. Агонь выпаліў вочы.

Апрытомнела ад моцнага ўдару ботам. Гэта бацька дзіцяці прыбег з поля і, не ведаючы, што здарылася, адагнаў сабаку ад дзіцяці.

Марта са скавытам кінулася ўцякаць, не могучы ўцяміць сваім сабачым розумам, што дрэннага яна зрабіла. Яна ж была толькі сабакам і чалавечыя ўчынкі не заўсёды ёй былі зразумелымі.

## 3. ЯК ГАСПАДАР ШКАДАВАЎ МАРТУ

Пакуль людзі прыбеглі з поля, гарэла некалькі дамоў. Згарэлі забудаванні старога Сымона з усімі яго скромнымі нажыткамі. Ён знайшоў кут у далёкіх сваякоў. Марта асталася сама на пажарышчы. Гаспадары Сымона не пускалі яе на панадворак. А Сымон не мог заступіцца за яе — ён сам быў як бяздомны сабака на чужой ласцы.

Марта блыталася па вёсцы з галавой пакрытай суцэльнай ранай, з чырвонымі, набегшымі крывёй невідушчымі вачыма. «Трэба яе забіць, нашто мае мучыцца», — раілі суседзі Сымону.

Але Сымон не мог на гэта рашыцца. Столькі год яна яму верна служыла. Была як бы членам сям'і, тым даражэйшым, што іншых ён не меў. У патайку ад гаспадароў дзяліўся з ёю скарынкаю хлеба, якую ён даставаў з ласкі.

Марта ставалася з кожным днём штораз больш падобнай да дошкі. Не могучы на гэта глядзець, Сымон папрасіў суседа завесці яе куды-небудзь далей ад дому, і той, едучы ў Бельск, кінуў яе ў полі.

«Чаго вочы не бачаць, таго сэрцу не шкада» — думаў Сымон.

А галодная, худая Марта ішла няведама куды.

## 4. ГРЫШКА-ГЕРОЙ І КАНЕЦ АПАВЯДАННЯ

Марта пачула вёску, чужую вёску. Дзе была яе вёска, яна не ведала. Век пражыўшы з людзьмі, яна з даверам ішла да людзей.

— Глядзіце, шалёны сабака, — крыкнуў хтосьці з грамадкі дзяцей і ўсе, як спужаныя вераб'і, пачалі ўцякаць. Не спалохаўся толькі Грышка. Ён адважна выступіў наперад, кінуў каменем у Марту і трапіў яе балюча ў нагу.

Марта са сковытам пачала ўцякаць на трох нагах, а заахвочаныя прыкладам Грышкі хлопцы кідалі за ёй каменнямі.
Марта ўцякала. Сковыт яе чуўся штораз менш, аж пакуль не растапіўся ў празрыстым паветры пагоднага дня. Пасля гэтага дзеці спакойна вярнуліся да сваёй гульні.
А Марта валаклася польнай дарогай. Толькі слёзы-пэрлы значылі яе дарогу, ды нядоўга. Нітка — праменні сонца, нанізваючы іх, узносілі высока і завешвалі на срэбрнай хмурцы.
Раптам Марта затрымалася нерашуча. Да яе дайшоў пах чалавека і хлеба. Першы яе налякаў, другі прыцягваў. Але баяцца не было чаго. Гэта старая бабуля-жабрачка пасілкавалася пры дарозе. Пабачыўшы Марту яна ўсміхнулася.
— Бач ты, відавочна такая самая бедная, як і я. Адслужылі мы, зрабілі, што да нас належала, цяпер нікому не патрэбныя.
Яна кінула Марце краец хлеба. Марта пахілілася да хлеба. Але скіўіцы адмовілі ёй паслухмянасці. Ёй закружылася галава, яна пахіснулася і ўпала на пыльную дарогу.

# Апошняя экскурсія

— Паедзеш пасля працы на экскурсію? — запрапанаваў Андрэй Мечыславе, з якой ён разам працаваў на фабрыцы ў Дайлідах.
— Тваім Цітроэнам?
— Маім.
— Добра. — І Маню вазьму з сабой.
Маня была найлепшай сяброўкай Мечыславы, з якой яна не хацела расставацца.
Калі гудок абвясціў канец працы, Мечыслава з Маняй хутка паспяшылі дамоў, каб прыгатавацца да экскурсіі.
Незадоўга пад'ехаў на сваім аўтамабілі Андрэй.
Праехаўшы вуліцу Варшаўскую і Сянкевіча, аўтамабіль звярнуў на роўнае супрасльскае шасэ і плаўна каціўся з горкі на горку.
Вось і Супрасль. Андрэй затрымаўся на месцы. Непадалёк ад моста, на беразе нехта вудзіў рыбу.
— Вальдэк! Сюды! — крыкнуў Андрэй, пазнаўшы ў ім свайго сябра, — паедзем на экскурсію.
Вальдэк агледзеўся і паволі пачаў збіраць свае прылады. Яму не хацелася адказаць сябру. У чацвярох яны даехалі да лесу і затрымаліся на прыгожай паляне.
Была сярэдзіна верасня. У лесе ўжо пахла восенню, хаця дрэвы стаялі яшчэ зялёнымі.
— Пашукаем грыбоў, — запрапанаваў Вальдэк.
— Паспеем з грыбамі, трэба спачатку пакрапіцца.
Ён, паклаўшы газету на траву, разлажыў хлеб, вяндліну і паставіў пляшку гарэлкі.
З прымаўкамі і жартамі пайшла кругом шклянка. Вальдку не хацелася піць. Калі прыйшла яго чарга, ён памачыўшы вусны ў гарэлцы, карыстаючыся няўвагай таварышаў, выліў яе на траву.
Вецер шапацеў у дрэвах. З верхавін ёлак даходзіў шум, па-

добны да гукаў сумнай далёкай музыкі. Але экскурсанты чулі толькі той шум, які выклікае ў галаве гарэлка.

Водка развязала языкі. Усе голасна жартавалі, смяяліся, спявалі, хоць гэта і не выходзіла складна.

Толькі Вальдка немагчыма было разварушыць. Ён гаварыў мала і не меў ахвоты да спеву.

Цёмна было, калі яны сядалі ў аўтамабіль.

— Дай, я павяду аўтамашыну, — звярнулася да Андрэя Мечыслава.

— Вядзі, — абыякава адказвае Андрэй.

— Ды кіньце вы гэты глупствы, — запратэставаў Вальдэк, — бяды хочаце нажыць!

— Я ж на курс хадзіла і ўмею кіраваць, — пакрыўджана адказала Мечыслава.

— Такое там тваё кіраванне, — настойваў на сваім Вальдэк, — дый правоў на кіраванне аўтамабілем не маеш. Ну, сядай за руль, — папіхаючы за плячо Андрэя, сказаў Вальдэк.

Андрэй заняў месца пры рулі. Ён меў добра ў чубе і яму ўсё было абыякавым, але аўтамашынай кіраваў ён даволі спрытна. Незадоўга паказаліся агні Супраслі.

На рынку ў Супраслі стаяў грузавік, якім Вальдэк прыехаў сюды з іншымі таварышамі. Ён парашыў перасесці на грузавік.

— Ну, чаго там, сядзі, тут жа выгадней, чымсь трэсціся ў грузавіку, — адгаварваў яго Андрэй.

— Мушу яшчэ спаткацца з таварышамі. Справу маю, — тлумачыўся Вальдэк. Ён не мог дапасавацца да вясёлага настрою іншых, і таму яму хацелася чым хутчэй з імі развітацца.

— Пайшоў ужо гэты мрук, — сказала Мечыслава, — а цяпер я павяду машыну.

Андрэй, глянуўшы на яе, нерашуча маўчаў.

— Што, мо і ты баішся, як той мрук, — іранічна адазвалася Мечыслава.

Не, Андрэй не баяўся. Ён быў у такім настроі, што ў самае пекла пайшоў бы.

Тымчасам грузавік рушыў, а Вальдэк сядзеў ззаду ў кузаве і глядзеў на істужкі святла, якія кідалі рэфлектары аўтамабіля яго таварыша. Ён быў рады, што адчапіўся ад іх. Адначасна адчуваў як бы дакор сумлення.

— Трэба было іх паўстрымаць ад водкі, — вёў ён сам з сабой спрэчку. Але што я мог зрабіць! Яны ж не дзеці. Усё роўна не паслухалі б. Толькі абсмяялі б. Не трэба было іх пакідаць. А што б я памог. Сам жа кіраваць аўтамашынай не ўмею. А мо б спатрэбіўся. Ад дурасці якой паўстрымаў бы.

У ім будзіўся непакой. Палосы святла хісталіся то ў адзін, то ў другі бок. Відаць было, што аўтамабіль ідзе няроўна. Грузавік уязджаў у вёску Агароднікі.

— Мо лепш затрымаць грузавік?!

Раптам у месцы, адкуль выходзілі палосы святла вырас слуп іскраў. Палосы святла зніклі.

Вальдэк раптоўна застукаў у кабіну шафёра і закрычаў:

— Затрымаць, затрымаць!

Запішчэлі тармазы; з шафёркі паказалася галава шафёра:

— Што там такое?

— Хутка заварочвай, Андрэй здаецца машыну разбіў.

Шафёр завярнуў грузавік і незадоўга яны былі каля дрэва, пры якім стаяў аўтамабіль Андрэя. Не, гэта не быў ужо аўтамабіль, гэта была куча жалеза.

З правага боку на траве ляжаў Андрэй, з левага — Маня. Яны не падавалі прызнакаў жыцця.

Пад пабітай будкай шафёркі ляжала Мечыслава, нагой датыкаючыся тормаза. Аглушаную, ледзь жывую, яе выцягнулі з шафёркі. На грузавіку яе даставілі ў бальніцу.

Праз месяц, яна, слабая і з шумам у галаве, вярталася дамоў. Чым бліжэй была дому, тым цяжэй было ёй на сэрцы. Яна ўвесь час азіралася, баючыся, каб не сустрэць каго са знаёмых, а адначасова адчувала сябе такой адзінокай і пакінутай, быццам яна знаходзілася на пазбаўленай жыцця планеце.

На магільніку, сярод золата лісцяў, шумеў вецер, а над магілай Андрэя і Мані плакала восень.

## Зося Стаськевіч

### ЯК РЫГОРКА СУСТРЭЎ ВЯСНУ

Сонца грэе, сонца свеціць,
Ціха ў класе сядзяць дзеці.
Слухаюць апавяданне
Аб вясне цудоўнай, ранняй,
А настаўніца чытае,
Нібы дзівы раскрывае,
Усё, як казка, як карціна,
Чараў поўная краіна,
Столькі красак і праменняў
Сыпнуў зямлі час вясенні...
Захапіўся клас урокам,
А Рыгорка сядзеў бокам,
Настаўляў паважна вуха,
Ды нічога нейк не слухаў.
Думкі адплылі далёка,
На вясенніх, на аблоках,
Так і марыў пакрыёму:
— Эх, званок бы, і дадому...

Ледзь закончыліся ўрокі,
Ўжо бяжыць Рыгорка ўскокі,
Ўжо і ў хаце. Кінуў кніжкі,
Хлёбнуў супу мо тры лыжкі,
Шапку начапіў на вуха
І шыбнуў на двор: дзе суха,
Дзе балота, лёд, вада,
Не глядзіць «герой». Гайда!
Проста з хаты пад стадолу,
Пад стадолай — на дашок,
А з дашка спусціўся долу —
Проста бацьку на мяшок
І рассыпаў у лужу сечку...
Злуе бацька: — Чорт паднёс,



Адлупцую, як авечку!
А Рыгорка? — Гоп на воз,
З возу проста на драбіну
І з драбінай... Грах! — на бок,
Прызямліўся, шчасце хлопцу,
Дзе саломы быў кулёк.
Хоць ад болю трашчаць косці,
Як струна, Рыгорка ўстаў
Каб хоць бацька, зноў, у злосці,
Пугай не пачаставаў.

Так да самай цёмнай ночы
Наш Рыгорка бушаваў.
Як віхор, дзе неслі вочы,
Ні кутка не праміна́ў.
А вярнуўшыся дадому,
Каб ніхто хлуды не даў,
Прашмыгнуўся пакрыёму
І ў пасцель пашыбаваў.
Спіць. І сніцца яму ўночы
(Быць бы вам ў такой бядзе):
Сумка, вытрашчыўшы вочы,
Усе кніжкі ў бой вядзе.
Нібы шаблі, звоняць пёры,
А алоўкі, як штыкі,
Паднялі іх грозна ўгору
Раззлаваныя сшыткі.
Наступае на Рыгорку
Тысячны пяцёрак рад.
Ён ад страху чуць не мёртвы,
Раптам... двоек з ім атрад!
Падступаюць на падлогу,
На прыцэл ужо ўзялі...
Як далі пяцёркі бобу —
Двойкі так і паляглі.
Страх і жах схапіў Рыгорку —
Абарону чорт пабраў.
Ён прысеў, нібы пад горку...
Пад абстрэл такі папаў...
Асляпіла бляскам вочы,
Нешта з лоба ўжо цячэ,
Тут...
        прачнуўся ён, ускочыў...
Сонца праз акно пячэ.

— Цьфу, ты — мара, гэта ж позна —
Стаў Рыгорка наракаць.
Маці глянула сур'ёзна:
— Трэ' было раней устаць.
Мігам вопратку надзеўшы,
На падворак выбег «зух»,
Не памыўся, не паеўшы,
Цугаваў, ледзь лапаў дух.
Да званка у клас з'явіўся,
Выняў кніжкі... разлажыў...
За патыліцу схапіўся:
— Я ж урокаў не вучыў...

* ✲ *

За нядбайства, так і трэба,
Ўсім Рыгоркам, па вясне,
Двойкі сыплюцца, як з неба,
І на яве, і у сне.

## ДОБРЫ ЎЧЫНАК ТРОХ ДЗЯЎЧЫНАК

Скрай сяла бялее хата,
Ў ёй жыве бабуля — Ната.
У бабулі ёсць гародзік.
Перад хатай, у загародзе.

Выйшла з хаты бабка Ната,
Ў руках граблі і лапата,
У прыполе і ў кішэнях
Поўна ўсякага насення.

А дарогай, недзе з поля,
Шлі: Алеся, Люба, Толя.
— Гляньце, бабка ў загарожы,
Ходзьце, ходзьце ёй паможам.

Борздка рушылі дзяўчаткі,
Ўжо ля бабчынае хаткі,
Прывітаўшысь з бабкай Натай
Сталі працаваць заўзята.

Неўзабаве, па-парадку,
Былі ўскопаны ўсе градкі.
Як тачоныя, ўсё роўна,
Баразёнкі ляглі роўна.



— А цяпер, — гаворыць Толя, —
Дзе пасадзім мы фасолю?
— Пад сцяной, — кажа Алеся, —
Каб вілася аж па стрэсе.

Тут цыбульку і пятрушку,
Там маркоўку і капусту.
А пад плотам — найбольш нізка —
Там расці будзе радыска.

— А там, — Люба зноў гаворыць, —
Мы пасадзім памідоры.
Пакуль вырасце расадка,
Пастаіць пустая градка.

На гуркі, на мак дзяўчаткі,
Адвялі таксама градкі.
— Пад акном пасеем кветкі,
Каб цвілі для бабкі ўлетку.

Як рашылі — так зрабілі,
Ўміг гародчык пасадзілі.
— Мы садзілі, мы аполем, —
Заявіла цвёрда Толя.

Ў бабкі коцяцца слязінкі:
— Дзякуй, дзякуй вам, дзяўчынкі.
— Хай бабуля наша знае,
Што яе не забываем.

## ЯКІ МОЙ ДЗЕД

Раз у цёплы вечар на падворку,
Зыйшліся дзеці на гаворку.
Узнікла шмат цікавых спрэчак:
Не пра сабак, не пра авечак...
А проста — гэта не сакрэт, —
Які ў каго разумны дзед.

— Мой дзед, — азваўся першым Юрка, —
Мне шмат расказваў аб турках,
Аб тым, як шведы і татары
Ішлі на нас калісь, як хмары.
Яму вядомы ўсе падзеі,
Бо ён гісторыкам ў музеі.

— А мой, — ажывіўся Пархом, —
Працуе ў пушчы лесніком.
Такі разумны і цікавы,
Што знае ўсе лясныя справы.
Водзіць мяне ў лясную гушчу
І правіць усё пра пушчу.

— Цікава гэта вы сказалі, —
Пачуўся збоку голас Галі.
А мой дзядуля — ўжо як голуб —
Амаль што не хадзіў у школу,
Але на скрыпцы, як зайграе,
То аж у грудзях дух займае.

— У мяне, вось, дзед! — ўключыўся
Косцік, —
Працуе солтысам на вёсцы.
Дваццаць пяць год на той пасадзе.
Ён кожнаму усё дарадзіць.
За працу ён дастаў адзнаку
І ўрад прыслаў яму падзяку.

— Мой дзед, — гаворыць ўсім Сакрат, —
Насіў калісьці аўтамат —
Быў партызанам і салдатам.
І зараз ён з нагоды свята
Носіць усе свае медалі,
Што за баі яму давалі.

Нагаварылі ўсе нямала,
Ды толькі Толя ўсё маўчала.
Не ведалі таго сябры,
Што дзед яе ўжо нежывы.
Усе з цікавасцю свой зрок
Накіравалі ў Толі бок.

— Мой дзед, — сказала сумна Толя, —
Араў і не вярнуўся з поля.
Ён партызанам памагаў,
Адзенне, ежу ім даваў...
Не ўспеў ён заслужыць медалі,
Яго бандыты расстралялі.

Ляжыць на могілках, пад клёнам,
Над ім мурог парос зялёны,
А восенню скрыпяць канары,
Ды слёзы льюць сівыя хмары.

І стала ціха — змоўклі дзеці,
Нават прыціх у дрэвах вецер.
Звяры прыціхлі, птушак гоман,
Як бы памерла ўсё на момант,
Каб праявіць таму пашану,
Хто даў жыццё за партызанаў.

Назаўтра рана ішлі дзеці
Магілу дзедаву уквеціць.

# Леапольд Танкевіч

## ПЫТАННІ І АДКАЗЫ

Хто хаця раз блудзіў, шукаў,
Той ведае адразу,
Як нам патрэбны у жыцці
Пытанні і адказы.

Яны з вачэй тваіх глядзяць
І галаву свідруюць.
Па твары яны праляцяць,
То па губах вандруюць.

Заўсёды носіш іх з сабой,
Ці вечарам, ці ранкам.
Жыцця дарогаю з табой
Ідуць без перастанку.

Бо кожны знае, што не раз
Пытаў, чаго не ведаў.
А калі добры быў адказ,
Тады ішоў па следу.

Ах, як жа часта у жыцці
Каму таго не знаці,
Адказаў слухаем такіх,
Што вушы затыкаці.

Ці ж хто не ведае таго,
Ці ж хто таго не знае:
Сёння пытаюць у яго,
А заўтра ён пытае.

Праходзяць месяцы, гады —
Час не змяніў нічога.



Глядзім — ужо і малады
Ідзе ў сляды старога.

Усё прыняў, здаецца, ён:
І гутарку, і словы,
І той сварлівы дзіўны тон,
Якім вядзе размовы.

А дзе ж знаходзіцца віна,
Дзе праўда ёсць схавана?
У нас знаходзіцца яна
Усім так добра знана.

Ды толькі ўсе гэта змяніць
І павярнуці могуць.
Яно задоўга нас баліць,
Каб нам таго не трогаць.

## БУДЗЬ ЗДАРОЎ, РОДНЫ ДОМ...

Будзь здароў, родны дом!
Ціхі сад малады!
Навясціці я вас
Зноў прыеду сюды.

У гэтым доме я рос,
Тут да школы хадзіў.
Каля белых бяроз
Сіні бэз пасадзіў.

Колькі радасці тут
Перажыта тугі.
Нат пратоптаны след
Для мяне дарагі.

Бо ад гэтых палёў,
Ад раднога сяла,
У дарогу жыцця
Мяне сцежка вяла.

Як таго не кахаць,
Як таго не любіць,
Не, дзяцінства свайго
Не магу я забыць.

Не пакіну нідзе
Нат хвілінкі адной.
Пакуль буду я жыць
Астанецца са мной.

## МОРА

Мора вечна жыве,
Хоць праходзяць гады.
Яно кліча, заве
Да зялёнай вады.

А калі падбяжыш,
З пяску робіць парог.
То зноў хутка, глядзіш,
Падбягае да ног.

Сваёй хваляй-рукой
Абнімае цябе.
Прытуліся шчакой, —
Ціха шэпча табе.

А як вецер-свістун
Праляціць па вадзе,
Як яно зашуміць,
Як яно загудзе.

Тады з пенай плывуць
Хвалі цёмнай вады.
Як жа страшна гудуць,
Як жа выюць тады.

Забіраюць пясок,
І каменні, і жвір.
То адкінуць убок,
То закруцяць у вір.

Падбягаюць, бягуць
Усё хутчэй і хутчэй.
Аж не можна ад іх
Адарваці вачэй.



* * *

Каму жыццё глядзела ў вочы,
Каму яно сціскала грудзі,
Той не сагнецца пад цяжарам,
І панясе яго у людзі.

І хоць выбоістай дарогай
Будзе па шчасце сваё крочыць,
Той не спужаецца нічога,
Каму жыццё глядзела ў вочы.

А калі страшная навіна
Яго абудзіць апаўночы,
Не затрасецца, як асіна, —
Каму жыццё глядзела ў вочы.

## У ЧАС НАВАЛЬНІЦЫ

Загрымела. Навальніца
Абудзіла ўсё сяло.
За акном, па аканіцах,
Закапала, паліло.

Чую крыкі сярод ночы,
Тупат ног гаспадароў.
Бляск маланкі слепіць вочы,
Проста ў сэрца закалоў.

Маці скацяркаю белай
Атуліла гэты змрок,
І грамніцу з вянком зелля
Ужо паставіла ў куток.

Пахіліліся галовы
У малітве над сталом.
Гром, ступаючы сурова,
Зноў ударыў за сялом.

Як развеяць іх трывогу,
Што вяртаецца вясной?
Грамаадвод каля дарогі
Сам вядзе заўзяты бой.

Атуліўшыся каўнерам
Адчыняю я акно...
Падыйшлі, вачам не верацъ —
Іскры сыплюцца ажно.

Адышлі, павесялелі,
І пайшлі на супакой.
Толькі маці, хоць сардэчна,
Пагразіла мне рукой.

* * *

Не хачу я сёння
    Заставацца дома,
Кліча луг зялёны,
    Шум лясных дубраў.
Сцежкі-пуцявіны
    Мне даўно знаёмы.
Я хачу паслухаць
    Ціхі шопат траў.

За шумлівым гаем,
    Па шырокім полі,
Я хадзіў за плугам
    Першай баразной.
Родны край бацькоўскі
    Я цябе вітаю.
І квяцістым лугам
    Я праходжу зноў.

А кругом навокал
    Вёскі ў зяляніне,
І пакрыты белым
    Дыванам сады.
Ціха шэпча лісце
    На тугой галіне...
Як жа тут застацца,
    Не пайсці куды?

## УЖО НЯМА, КАГО ЧАКАЮ

Калі вечар шэрым змрокам
Дзень пагасіць за сабой,



Ах, як хочацца сустрэцца
Мне з дзяўчынай маладой.

Яе гібкі стан дзявочы
Ажываў мне часта ў сне.
А той позірк, тыя вочы,
Што глядзелі на мяне...

Мо здалёк мяне пазнае,
Мо ў акно сваё глядзіць...
Ды няма, каго чакаю,
Хоць ідзі, хоць не ідзі.

А за вёскай, каля гаю,
Дзе стаяць бярозкі ў рад,
Як жа хораша спявае
Хор сабраўшыхся дзяўчат.

Можа там яе спаткаю,
Мо ў кругу дзяўчат сядзіць...
Не, няма, каго шукаю,
Хоць глядзі, хоць не глядзі.

Сэрца білася трывожна,
Прадчувала смутак мой...
Хто, скажы, не дазваляе
Сустракацца мне з табой?

## ПАЧАКАЙ...

Надзівіцца з цябе
Я даўно не магу.
Як ты можаш рабіць
Так усё на бягу.

То ў спакою ідзеш,
То заскочыш убок,
Каб скарэй разматаць
Думаў-мараў клубок.

Гэтых думак-дарог
Не магу я абняць.
Каб хвіліну ты мог
На мяне пачакаць!

Я знайшоў бы сваю,
Хоць бязмерны іх лік.
Не хадзіў бы кругом,
Не папаў бы ў тупік.

А тады за табой
Я пайшоў бы, як цень.
Не згубіўся б нідзе,
Ані ўночы, ні ўдзень.

Можа просьба мая
Цябе трохі кране.
Я прашу... Пачакай!
Пачакай на мяне!

## СОРАМНА, ДЗЯЎЧЫНА...

Сорамна, дзяўчына,
Так хваліцца ўсім:
Сёння ходзіш з гэтым,
Заўтра ходзіш з тым.

Моргаеш вачыма,
Круціш галавой.
А дзе ж ты, дзяўчына,
Маеш гонар свой?

Двух іх баламуціш,
Водзіш за насы.
Бо яны шалеюць
Ад тваёй красы.

Сёння з тым у парку
Пасядзець ідзеш.
А другога заўтра
У кіно вядзеш.

Спрытна замятаеш
За сабой сляды.
Як сайдуцца разам,
Што пачнеш тады?



З кім пойдзеш пад руку:
З першым ці другім?
Бо тады нялоўка
Будзе вам усім.

# Янка Чыквін

* ✲ *

Што мне Ньютоны, што Галілеі
Ці пустата Тарычэллі...
Сам я выходжу на арбіту алеі
У камбінезоне вячэрнім.

Сам я кружуся па крузе фактаў,
Чакаючы з мора пагоды.
І апагей мой, што кот наплакаў,
І ніякай у жыцці выгады.

Сам для сябе я мэтай і стартам,
Сам для сябе я пілот і ракета —
Шуршу па парку ў чаравіках упарта,
Цокаю штодзень па ясных паркетах.

І без навукі цярплю перагрузку
Нястачы штодзённай патрэбы:
Кватэра малая, то погляд за вузкі,
Ідэі няма, а то хлеба...

Эй, бездань адвечна з Млечнай алеяй,
Нас аддзяляюць касмічны гады
І хоць у калысцы не жыць нам заўжды,
Што мне Ньютоны, што Галілеі.

* ✲ *

За вёскай з сена ўставала надранне,
З-за лесу сонца цякла пазалота —
Як быццам нехта кранаў фартэпіяна
Па вырасшых у гародах нотах.

Усё было справядліва ў прыродзе.
Далёка дзесьці была недарэчнасць



Адвечнай смерці, што прыйдзе і пройдзе,
А ўсё ж такі нешта пакіне на вечнасць.

Маўчалі шчэ каляіны дарожны,
Дзе-недзе хаты курылі цыгары,
У невядомае людзі ішлі асцярожна,
Баючыся смеху на выспаным твары.

І час стаяў, як ракіты на лузе,
Гнуткі, жывы, працякаючы ў хаты.
Над вёскай міску неба трымаў бусел
Каб заўжды тут было толькі свята.

## СЯРОД ВАС НЯМА

Сябры мае з вясковых лет,
Аб вас не ведаю нічога я —
Нікому не патрэбны ў горадзе паэт.

Ды хто цяпер і любіць салаўя
У машынны век наш несур'ёзны, —
Маленьку птушку ў процьме спраў.

У вёсцы восень ставіць кросны,
І ткуць дзяўчаты свае мары
Ва ўзоры нерэальныя дзівосна.

І маці вам вячэру варыць,
І на вячоркі прыдуць госці,
Шчаслівыя ўсе, усе да пары —
А ўсё ж такі няма сярод вас кагосьці...

## З ЧУЖЫМІ

У Крысталю мужчыны... з чужымі, чужымі,
Да ранку, дашчэнту, салодка-горка.
Інакш ужо нельга. Інакш немагчыма.
Жыццё, як фунт ліха, як дробка махоркі.

Яшчэ ўсё танцуюць. У музыкі дыме
Яшчэ, як у лесе, зблытаўшы дарогу
Снуюць па Крысталю, з чужымі, з чужымі...
Інакш ужо нельга. Інакш ўжо не могуць.

Жанчыны, жанчыны у крэслаў руінах,
У горлах дэкольтаў, у цела няволі...
Не выйсці адгэтуль ўстыдлівай дзяўчынай,
Так бясклапотна ўсе тут сваволяць.

З Крысталю усім з паўночнага дыму
У ранак голы, цудоўны, дзіцячы
Выйсці самому ўжо немагчыма,
Ужо немагчыма жыць іначай.

## КРЫНІЦА

Слова аб табе хачу сказаць —
даспела,
пульсуе,
як ножкі дзіцятка,
гамоніць ва мне,
бы вада ў крыніцы,
схіліцца —
тут грудзі, тут сэрца.
Хаджу за табою вачыма бяздоннымі.

Прыходзяць людзі чужыя,
насустрач спяшаеш,
ім дзверы — як сэрца —
душою частуеш — не чаем.
За сталом
я сярод гасцей
у адчаі
галавой ківаю
і называю нашае жыццё рыфмаю багатай.

Асталіся адны.
На рэшту вечара ты будзеш мне.
Няма цяпер другіх,
што апранаюцца ў тваё каханне,
тых старцаў,
што баяцца ў кутку сцямнець,
тых малайцоў,
што бегаюць у тваё надранне.
На рэшту вечара ты будзеш мне.
Хаджу за табою вачыма бяздоннымі,
каб у мой агарод хоць камні падалі.
Сном раз'яднаная з светам маім,
спіш бессаромна.
Як слова на вуснах,
ходзяць і топчуцца скаргі — падлізы,
жыць не даюць ні мне, ні табе.

# Віктар Швед

## ТРЫЯЛЕТЫ

Удваіх вы ішлі па дарозе,
Ён цябе абмінуў і пакінуў.
У жыцця непрыхільнай хвіліне,
Удваіх вы ішлі па дарозе.
Ён пакінуў цябе у знямозе
І пакрочыў уласнай сцяжынай.
Удваіх вы ішлі па дарозе,
Ён цябе абмінуў і пакінуў.

* ⁂ *

Ты руку мне падай, дарагая,
Праз жыццё нам лягчэй ісці разам.
Мне не трэба ніякіх адказаў,
Ты руку мне падай, дарагая.
Нас дарога чакае цяжкая,
Удваіх — палягчэе адразу.
Ты руку мне падай, дарагая,
Праз жыццё нам лягчэй ісці разам.

* ⁂ *

Я разок толькі глянуў у вочы,
Акунуўшыся ў іх, як у моры.
І цяпер мне і радасць і гора.
Я разок толькі глянуў у вочы.
І спакою няма ўдзень і ўночы,
І душою і сэрцам я хворы...
Я разок толькі глянуў у вочы
Акунуўшыся ў іх, як у моры.



* ⁂ *

З незвычайнай душою жанчына
Мне пасеяла ў сэрцы трывогу.
І мне болей не трэба нічога.
З незвычайнай душою жанчына.
Не шукаю ніякай прычыны,
Хоць прычын усялякіх ёсць многа.
З незвычайнай душою жанчына
Мне пасеяла ў сэрцы трывогу.

* ⁂ *

Мне да шчасця нямногае трэба,
Толькі ў сэрцы не мець адзіноты,
Адчуваць крышку ласкі, пяшчоты,
Мне да шчасця нямногае трэба.
Мець штодзённа скарыначку хлеба
І душы рамантычныя ўзлёты.
Мне да шчасця нямногае трэба,
Толькі ў сэрцы не мець адзіноты.

## БУСЛЫ

*Дзе буслы водзяцца, гром не ўдарыць.*
*(народная прыказка)*

Жыццё мяняецца няспынна,
Не верыць прыказцы народ.
На пуні, у гняздзе буслінным,
Паставілі громаадвод.

І правялі балот асушку,
Як быццам бы буслам на здзек.
З балотам жабы-весялушкі
Свой аджылі кароткі век.

Стаяць буслы ў нямой журбоце,
Цяжка даводзіцца ў жыцці.
Хоць вешайся на громадроце
Або ў вырай зноў ляці.

## РУЖЫ

Зацвіў стол духмяным букетам,
Крывавяць ружы ў вазоне.
Яны развіталіся з летам,
Чакае іх толькі агонія.

Людскі зрок нацешыўся мала
Жыццём нетрывалым і кволым.
Пялёсткі згарнуліся вяла,
Як слёзы павіслі дадолу.

## НАЧНЫ АРКЕСТР

У прыпечка шчыліне
Зайграў скрыпач-цвыркун.
І паплылі ў хаціне
Мелодыі са струн.

На шыбе мух сямейка
Ачнулася з дрымот,
І ўторыць на жалейках
Рапсодыю журбот.

Акорды моўкнуць, ціша...
Не спіцца павуку.
Дзяцей сваіх калыша
У сетцы-гамаку.

## МАКАРКА І ХМАРКА

Плыве па сінім небе шпарка
Купчастая, сівая хмарка.
Унучак кажа: мілы дзеду
Ты падсадзі мяне, паеду.

Я, дзедка, з хмаркі гляну вокам
На навакольны свет шырокі
І раскажу табе багата
Вярнуўшыся ізноў дахаты.



## ЛЁН

### I

Пад новы плён араў загон
Мой працавіты тата.
У глебу ён пасеяў лён,
Бліскучыя зярняты.

І рос лянок, рос даўгунок,
Матуля даглядала.
Як васілёк цвіў, цешыў зрок,
Даспельваўся памалу.

Рвалі лянок, а вецярок
Прасушваў дбала жмені.
Клалі ў вазок, звязлі на ток,
Прачом стаўклі насенне.

Пазней лянок плыў у ставок,
Мачыцца у вадзіцы.
Мачыўся, мок, і на лужок
Зноў выплываў сушыцца.

Чарэп прыпёк, стагнаў лянок
У церніцы зубастай.
Наступны крок — на кадлубок —
Трапачкай білі часта.

### II

Прадзе, прадзе з кудзелі ніць
Раўнюткую матуля.
Крутая ніць з рукі бяжыць
На калаўротка шпулю.

Снуе, снуе матуля ніць
На сноўніцы крылатай.
А сноўніца скрыпіць, рыпіць,
І кружыць з ёю хата.

Туды-назад туды-назад
Імчыць рука чаўночак.

Матуля кужаль тчэ, варштат
Туркоча ўдзень і ўночы.

На луг са мной ішла вясной
Бяліць палотны мама.
Я па дарожцы ільняной
Бег босымі нагамі.

Каторы год ужо мінуў...
Цяпер мая матуля
З калісьці вытканага льну
Даношвае кашулі.

## ТРАНЗІСТАР

Ягорка фарсісты,
Задзірае нос.
Брат яму транзістар
З горада прывёз.

Скрыначка малая,
А ўнутры сакрэт:
Грае ў ёй, спявае
І гаворыць свет.

Падарунак брата
Хлопец браў з сабой.
Калі пасвіў статак
Летняю парой.

Поўны захаплення
Заўсягды Ягор:
У яго кішэні
І аркестр і хор.

## ВЯСЁЛКА

Лівень змоўк, плыве вясёлка
На плаксівых хмар хрыбты.
Захапляецца Міколка:
Колькі хварбаў, пекнаты.



Там у высі, на нябёсах,
Хмары хтось запрог ў дугу,
Ўдалі грукаюць калёсы:
Гу-гу-гу, гу-гу-гу.

## ЗЯЗЮЛЯ

Ад ранку: ку-ку, ку-ку,
На хвоях, елках, буках
Зязюля кукавала
І пільна назірала:
Каму б сваё яечка
Падкінуць у гняздзечка.

Падкінула. Праз лета
Ёй птушкі кормяць дзетак,
А ў мачахі-зязюлі
На думцы толькі гулі,
Разносяць без прынукі
Па свеце ку-ку, ку-ку.

## БЯРОЗАВІК

Помню гэтую хвіліну:
Абламаў калісь галіну
І з галіны у збанок
Крышталічны сок пацёк.
Я чакаў цярпліва, потым
З незвычайнаю ахвотай
Піў салодкі, як мядок,
Мой бярозавік, мой сок.
Пад бярозаю праходзіў
Згорблены стары Мяфодзій,
На мяне падняўшы зрок
Адазваўся так дзядок:
— Ведай, дарагі сынок,
Не бярозавы п'еш сок.
У збанок сабраў ты слёзы
Акалечанай бярозы.

## ГАСПАДАРЫЛА СОНЦА НА ГРАДКАХ

Колькі дзіваў на градках ля хаты
Нінка ўбачыла летняй парой!
Ловіць сонца сланечнік цыбаты,
Залатою трасе барадой.

Як вужака, па тычцы да сонца
Струкавы узбіраецца боб.
І гарбуз прыпякае бясконца
Аграмадны, бліскучы свой лоб.

Ад спякоты, як крот на загоне,
Закапаўся ў зямлю бурачок.
Пад зялёным схаваў парасонам
Прыгажосць чырванеючых шчок.

На адной ножцы дрэмле капуста
Апусціўшы ўніз вяла лісты.
Агурок выграваецца тлусты,
У кароне стаіць мак густы.

Блузак шмат апранула цыбулька,
Хоць і сонца праменьчык прыпёк.
Грэе плечы ў цяпле, як бабулька,
Побач дзедка сівенькі — часнок.

Шмат на градках і дзіваў і чараў
Заўважыла Нінка кругом.
Дбала сонейка тут гаспадарыць,
Напаўняе прыроду жыццём.

Успаміны

**Людвіка Войцікава**

# Пяць месяцаў у Мінску

### (З ЖЫЦЦЯ МАКСІМА БАГДАНОВІЧА)

«У хуткім часе ў Мінск прыедзе Максім Багдановіч», — пачулі мы голас А. Смоліча, які ўвайшоў у сталоўку «Беларуская хатка», трымаючы ў руках ліст. Усе прысутныя заварушыліся, пасыпаліся пытанні «Калі? Надоўга? Што ён піша?»

«М. Багдановіч піша, што хоча пажыць у Мінску, у сваім родным горадзі, дыхнуць паветрам Бацькаўшчыны, пачуць жывую беларускую мову. Просіць паклапаціцца аб працу для яго, а калі канкрэтна прыедзе — яшчэ напіша, або папярэдзіць тэлеграмай». Нас хапіла і радасць і трывога. Радасць, што пазнаем нашага дарагога паэта і трывога за яго здароўе, яго жыццё. Як доўга ён паміж намі пабудзе?

Было гэта ў палове верасня 1916 г. У «Беларускай хатцы» на Захараўскай вул. № 18 сталоўцы «Т-ва дапамогі ахвярам вайны» кожны вечар збіраліся як сябры і працаўнікі Камітэта т-ва, так і іншыя беларусы. Збіраліся, каб супольна скарыстаць вольны вечар, падзяліцца думкамі, уражаннямі пражытага дня.

Цяпер вестка аб прыездзе М. Багдановіча дала новую тэму да гутарак і адначасна новыя абавязкі. Трэба было падумаць загадзя, дзе ён будзе жыць. Перабіраючы розныя магчымасці, затрымаліся на тым, што найлепш будзе наняць пакой у З. Бядулі. З. Бядуля з сёстрамі Роняй і Чэрняй жыў на маленькай ціхай вуліцы — Мала Георгіеўскай у доме Рэдзькі. Дамок стаяў у глыбіні панадворка, за домам быў садок. Ціха, спакойна, добрае паветра. Кватэра мела тры пакоі: у двух жыў Бядуля з сёстрамі, а трэці, вялікі, светлы, з асобным уваходам, стаяў пусты. З Бядуляй хутка дагаварыліся. Ён рады быў мець пад сваёй страхой такога госця...

Нарэшце ў канцы верасня М. Багдановіч прыехаў. Спаткаў яго А. Смоліч і прывёў у «Беларускую хатку» дзе мы цэлай грамадой чакалі іх з нецярплівасцю.

Сардэчны, скромны, просты М. Багдановіч адразу заваяваў агульную сімпатыю. Ужо ў канцы вечара здавалася, што ён даўно паміж намі, што ўсім блізкі і дарагі. Тым больш трывожыла нас яго бледнасць і бліскучыя гарачкай вочы. Кашляў зусім мала. Пасля гарбаты сядзелі нядоўга. Трэба было змучанаму дарогай адпачыць. На прыгатаваную кватэру адвялі Багдановіча Смоліч, Фальскі і Галубок.

Дагаварыліся, што Багдановіч будзе сталавацца ў «Бел. хатцы», дзе будзе мець не толькі абеды, але і снеданні і вячэры. Мая маці ў той час была загадчыцай сталоўкі і мы жылі на месцы. Так што я з Багдановічам бачылася па 3 разы на дзень, а вечары, як заўсёды, праводзілі разам з цэлай нашай грамадкай. Галубок, Фальскі, Смоліч, Багдановіч, часта Ядвігін, я...* Праз пару дзён выявілася, што Багдановіч вельмі мала дбае аб сваё здароўе. Найчасцей забываўся прыняць лякарствы, не прыносіў іх з сабой. Як кожны такі хворы, не любіў, каб яму прыпаміналі аб лякарствах, а тым самым аб хваробе. Тады ўмяшалася мая маці. Угаварыла Багдановіча, каб аддаў ёй у рукі ўсе лякарствы і сама іх яму давала ў адпаведны час. Новыя дозы хто-небудзь з нас прыносіў з аптэкі, так што ён не патрабаваў аб сваім лячэнні думаць і клапаціцца. Адразу ў першы вечар здзівіла нас просьба Багдановіча не класці яму ў гарбату цукру... На пытанне ці не любіць салодкага адказаў: «не ў тым справа... але з цукрам не п'ю». Дарма стараліся пераканаць, што гэта не здарова, што цукар яму неабходны... Не і не. Раз нехта, не помню ўжо хто, цішком перамяняў шклянку і гарбата аказалася салодкай. Як жа ж ён разгневаўся, разнерваваўся. Ледзь удалося ўспакоіць і прыйшлося перапрасіць. Праз пару дзён пасля гэтага, калі мы снедалі ўдваіх, я запыталася: «скажыце шчыра, чаму так упіраецеся пры сваёй пастанове, на што вы сабе шкодзіце?»

«Бачыце, кажа, я вельмі перажываю тое, што я бяссільны памагчы тым, хто цяпер падчас вайны церпіць голад, асабліва шкадую дзяцей... Калі я сабе адмаўляю таго, што люблю (бо прызнацца люблю салодкую гарбату) мне здаецца, што я раблю нейкую ахвяру і гэта хоць крыху пацяшае...» «Выбачайце, кажу, але фактычна ваша ахвяра нічога дзецям не дае». «А гэта пабачым...» неяк загадкава адказаў. І сапраўды праз нейкіх тры месяцы пабачылі. Багдановіч працаваў у магістраце ў аддзеле харчавання. Там працаўнікам апрача платы выдавалі «паёк», пераважна цукар. І вось у адзін дзень раніцай, выходзячы на працу,

* *Толькі З. Бядуля ніколі не прыходзіў, як і ніколі не прыймаў удзелу ў пасяджэннях.*



М. Багдановіч просіць маю матку, каб дала яму чыстую пошаўку. Увечары, калі ўсе сабраліся і дзівіліся чаму няма Багдановіча, ён прыйшоў позна і прынёс на плячах больш як паўпуда цукру. Аддаў яго мне (я была сакратаркай «Камітэта дапамогі ахвярам вайны») і кажа: «гэта для дзяцей уцекачоў». Усе былі ўзрушаныя. Толькі зрабілі вымаўку, што не сказаў каму-небудзь, каб памагчы прынесці, і сам цягнуў і мучыўся.

Неяк у канцы кастрычніка прыехала да мяне з фронту медсястра беларуска, мая сяброўка з «Гродзенскага Гуртка Беларускай Моладзі» Марыся Бобрык. Прыехала на адзін дзень і ўвечары позна выязджала. Я сабралася яе праводзіць. Мы з ёю ўжо выходзілі, як падышоў да мяне Багдановіч і пытаецца: «Можна мне з вамі?» «Разумеецца, калі ласка»... Вуліцы былі пустыя, нідзе нікога. Не ведаю чаму, мы ішлі не па тратуары, а пасярод вуліцы. Мы з сяброўкай успаміналі Горадню, нашае там жыццё, працу ў Гуртку, Багдановіч з зацікаўленнем слухаў, заўважыўшы, што жыў у Горадні, як быў маленькі, і што там пахаваная яго маці. Варочаліся зноў па сярэдзіне вуліцы памаленьку, не спяшаючы. І тады ён пачаў гаварыць аб сабе...

«Я ўжо пагадзіўся са сваёй хваробай і з тым, што жыць асталося не шмат, але мне цяжка, што не магу мець сям'і. Я так люблю дзяцей. Ведаеце, як я пачаў пісаць і друкаваць вершы — на жаль не на сваёй мове, а па-расейску, бо я гадаваўся ў расейскім асяроддзі, як не горка да гэтага прызнацца — я напісаў калыханку і аддаў яе ў друк, падпісаўшы псеўданімам. Усе, хто чытаў, думалі, што гэтую калыханку напісала жанчына і то жанчына — маці! У гэты твор я ўлажыў усё сваё жыццё»...

Пасля наша гутарка перайшла на Мінск і ўражанні ад усяго пазнанага і пабачанага. М. Багдановіч, паводле яго слоў, чуўся паміж намі добра, як у сям'і. «Маю толькі адно прыкрае перажыванне, якое адбірае мне спакой. Можа вы чулі, што я ўжо даўжэйшы час перапісваўся з мінчанкай N. Завязалася лістоўная прыязнь, шчырасць. Вось прыехаўшы і пазнаёміўшыся з N. асабіста, уся прыязнь развеялася... Не магу ёй адказаць тым самым — не магу... і гэта так мучыць! Раблю чалавеку прыкрасць. Ці ж гэта можа не балець?» Як я пераканалася ў далейшым чутнасць М. Багдановіча на нечую крыўду была выключнай. Жыццё праходзіла. «Камітэт дапамогі ахвярам вайны» вёў барацьбу з беспрацоўем. Асабліва балюча было мне, што г. зв. Тацьянінскі камітэт адмовіў нам далейшай субсыдыі на ўтрыманне дзіцячага прытулку і запрапанаваў забраць нашых дзяцей пад сваю беспасрэдную апеку. Мы прымушаныя былі згадзіцца. Але паставілі варунак, што нашыя дзеці будуць вучыцца асобна па-беларуску і вучыць іх будуць нашыя вучыцелькі: дачка Яд-

вігіна Ванда Лявіцкая і яе памочніца Ядзя Раткевіч, якія і дагэтуль апекаваліся дзяцьмі.

Нашыя дзеці на лета былі вывезеныя на вёску і трэба было іх адтуль перавезці ў Ратамку і аддаць у прытулак Тацьянінскага камітэта. Прышлося мне ехаць памагчы перавозіць дзяцей. Дні ўжо былі кароткія, холад, а ехаць трэба фурманкай кіламетраў 30-ць. Падарожжа не вельмі мілае. Сядзелі мы ў сталоўцы ў поўным зборы і гаварылі аб гэтым. Была пятніца, ехаць мела я ў суботу. Раптам М. Багдановіч кажа: «І я паеду.» Мы ўсе ахнулі! «Што вы кажаце! У такі холад 30 кіламетраў фурманкай! І не думайце!» Зазлаваў на нас Максім. «Што я маленькі. Волі сваёй не маю? Сказаў паеду і— паеду». Ізноў пасыпаліся пратэсты. Адзін Галубок маўчаў і думаў нешта сваё. Калі ўжо даходзіла да праўдзівай сваркі, Галубок кажа: «Ціха, ша! Успакойцеся! Я пайду і хутка вярнуся, тады пабачым!..» Не было яго з гадзіну. Нарэшце крокі па сходах, адчыняюцца дзверы, уваходзіць Галубок з аграмадным кажухом, якія насілі вартаўнікі ў дэпо.

— «Маеце, дзядзька Максім, паедзеце». Усе абступілі Галубка, дзякуючы за такое ўладжанне справы.

На другі дзень паехалі. Было ўжо цёмна. Выехалі за горад на тракт. Грукат сціх. Пачалі мы гутарку. Закранулі розныя тэмы. Дайшлі да паэзіі, да яе форм, да тэорыі паэзіі... І раптам нашую ўвагу звярнула нейкая незвычайная чырвань на небе. Пад'ехалі далей на ўзгорак, глядзім — пажар... гарыць вёска! Далёка ад нас, але і так было відаць слупы агню, якія падымаліся аж да хмараў. Які жудасны вобраз! «А сколькі там гора людскога, сколькі слёз» — кажа Багдановіч. Мы змоўклі надоўга.

Прытулкі Тацьянінскага камітэта ў Ратамцы мела візітаваць сястра Льва Талстоя. Дзеля гэтага ладзілі спектакль-вечарыну. Нашая школа мела выступіць са сваёй асобнай праграмай ды ў беларускіх нацыянальных вопратках. Паставілі сцэнічны абразок «Пастушка»; дэкламацыі, хор. З Мінска сабраліся паехаць і мы. М. Багдановіч, А. Смоліч, сёстры Бядулі (каб падтрымаць хор, яны абедзьве прыгожа пялі) і я. Дагэтуль стаіць мне ў вачах Багдановіч: у белай вышыванай кашулі, падпярэзаны прыгожым паяском, вясёлы. Умяшаўся ў хор... Здавалася і ён запяе...

— Скончылася ўсё позна, цягніка ўжо не было і прышлося праседзець ноч, бо спаць не было дзе. Школа беларускіх дзяцей змяшчалася ў летнім драўляным дамку — «дачы». Вучыцелькі мелі маленечкі пакойчык з жалезнай печкай, а клас не апаліваўся. Мы, дзяўчаты, сабраліся ў маленькім пакоі, а Багдановіч (Смоліч выехаў увечары, не чакаючы канца) пастанавіў сядзець у халодным класе. Як мы не прасілі, нічога не памагала. «Там і так цесна» — кажа. На працягу ночы я разы тры хадзіла намаўляць яго, каб не рызыкаваў, надумаўся... «Мы не збіраемся спаць, сядзім, гаворым, ідзём». «Не, — кажа Максім, — я рызыкую сваім здароўем, але не буду рызыкаваць вашым, мая хвароба заразлівая. Вы ж гэта ведаеце».

Прыйшла зіма. Снег, марозы. Калі пасля марозу прыходзіла адліга, чырвоныя цэглы новага касцёла пакрываліся серабрыстай шэранню і гэта было цудоўна, як у казцы. На работу мы з Багдановічам выходзілі разам і адразу пераходзілі на другі бок вуліцы, каб ісці каля касцёла (ён стаяў амаль процiў «Бел. хаткі» крыху наскос) і нацешыцца яго цудоўным выглядам. Багдановіча проста адарваць не можна было, да таго быў захоплены. А стаяць на марозе, або вільгаці для яго было забойствам, сказаць, што гэта яму пашкодзіць, не можна было, вось і прыходзілася нешта прыдумваць, або спяшацца на работу, або казаць, што мне зімна.

Надыходзіў Новы год. Пастанавілі спатыкаць яго ў «Бел. хатцы» ўсёй нашай грамадой. Усё наладзіць і выслаць усім запросіны даручылі Багдановічу, Смолічу і мне. Сабраліся, хто толькі з нашых быў у той час у Мінску. На спатканні былі: М. Багдановіч, Ядвігін Ш., Альбэрт Паўловіч з дачкой Уладзяй і зяцем Я. Фарботкай, кс. Гадлеўскі, Ф. Шантыр (прыехаў з Бабруйска) Усев. Фальскі, У. Галубок, А. Смоліч, адв. Чаўсоў, Ванда Лявіцкая, Р. Земковіч, А. Уласаў, Я. Крыўка, мая маці Э. Сівіцкая і я. Настрой быў мілы і ўсе былі рады з гэтай імпрэзы.

Далей ўсё ішло па-ранейшаму толькі, на жаль, Багдановіч чуўся слабейшым. Калі ў сталоўцы ўсё заціхала, усе парасходзіліся, ён аставаўся і да позна сядзеў у канцылярыі Камітэта. Гэта быў невялікі пакой з балконам, які знаходзіўся паміж сталовым пакоям і тым, дзе мы жылі з маёй маткай. Там стаяў стол, некалькі крэслаў і глыбокі мяккі фатэль. У гэтым фатэлі сядзеў Багдановіч доўгія гадзіны па-поцемку. Я не раз прапанавала лампу, пыталася, можа што пачытаць, але не хацеў нічога. «Мне тут так добра» — казаў.

Прадчуваўся ўжо блізкі канец вайны і змены, якія могуць наступіць у жыцці народаў. Мы часта гаварылі аб тым, што можа хутка дачакаемся сваіх беларускіх школаў, а падручнікаў да навукі няма. Лементары сякія-такія былі, а вось чытанкі пасля лементароў няма. Смоліч запрапанаваў узяцца за апрацоўку такой чытанкі-хрэстаматыі. Складаць яе мы мелі ўтраіх: М. Багдановіч, А. Смоліч і я. Насамперад распрацавалі план. Мела кніжка дзяліцца на чатыры часці: 1-ая Вясна; 2-я — Лета, 3-я Восень, 4-я Зіма.. Трэба было падбіраць матэрыялы і працу па-

дзялілі мы паміж сабой так: М. Багдановіч меў заняцца паэзіяй: падбіраць адпаведныя вершы з беларускай літаратуры, рабіць пераклады і, разумеецца, пісаць вершы самому. А. Смоліч браў на сябе тэмы геаграфічныя, гістарычныя і пераклады з расейскай мовы, а я — тэмы прыродазнаўчыя і пераклады з польскай мовы.

Шмат вечароў прасядзелі мы ў сталоўцы ў познія гадзіны, калі ўжо нашы штодзённыя вячэрнія госці парасходзіліся. Кожны з нас ужо пакрысе напісаў, але далей супольна працаваць не прыйшлося. Надыходзіла вясна, дажджы, вільгаць. Багдановіч чуўся горш. Тэмпература падымалася. Трэба было яму змяніць клімат. Пастанавілі на супольных нарадах, што паедзе ён у Ялту. Здабылі грошы, прыгатавалі ўсё, што трэба на дарогу, і ў канцы лютага наступілі ад'ездзіны. Мы ўсе хацелі праводзіць на вакзал, але ён запратэставаў: «Развітаемся тут, у «Беларускай хатцы». Мне цяжэй будзе расставацца з вамі ўсімі пры натоўпе чужых людзей». Жагналі мы яго са слязамі ў вачах, як бы прадчуваючы, што жагнаем назаўсёды. Маці мая абняла яго і пацалавала ў лоб; мне ён сказаў: «я да вас напішу». І не напісаў, не хапіла відаць сілы. А мо і напісаў ды лісту не выслалі чужыя людзі? Хто ведае...

Але, калі прыйшла вестка аб яго смерці, такой цяжкай у адзіноцтве, мы не маглі сабе даравáць зробленай памылкі. На што было выпраўляць яго не парадзіўшыся з доктарам, не ўпэўніўшыся, што гэта яму паможа... Як глупа. Трэба было запэўніць тут на месцы больш выгады, больш сардэчнай апекі. Смерць яго не мінула б, надзеі на гэта не было, але няхай бы паміраў паміж намі, сваімі, адданымі яму шчыра прыяцелямі ў роднай старонцы. Ён жа гэтага хацеў... А можа меў надзею, што яшчэ падлечыцца і вернецца? Хто ведае...

Прайшло паўвеку, а ўспаміны аб гэтых пяці месяцах усё жывыя.

ЗМЕСТ

*Адам Міцкевіч (Пераклад Б. Тарашкевіча)*
Пан Тадэуш . . . 3
*Алесь Барскі*
З цыкла «Палетак» . . . 24
З цыкла «Пад дрэвам» . . . 28
З цыкла «Мадонна» . . . 35
*Яша Бурш*
Маё я . . . 40
Цяжкае чытанне . . . 40
Мой адрас . . . 41
Белавежа . . . 41
Гасцiннасць соснаў . . . 42
Агарак вёскі . . . 42
Свяцця натуры . . . 43
Добры — бязрадны . . . 43
Дзялянка сонца . . . 43
Гарызонты . . . 44
Шпацыр мімікі . . . 44
Чалавечыя справы . . . 44
Каб гэта я . . . 45
Пасевы . . . 45
Гульня ў стварэнне свету . . . 46
Табуля раса . . . 46
Загадкавасць . . . 47
Размова цела з душой . . . 47
Перахоп . . . 47
Нецярплівасць . . . 48
На ўласны кошт . . . 48
Манеўр . . . 49
Рэкагнасцыроўка . . . 49
Ахвяра зайздрасці . . . 49
Урок думак . . . 49
Зблізку . . . 50
Бязвольныя рукі . . . 50
З сябе . . . 50
*Мікалай Гайдук*
Трызна . . . 53
Воўчы спеў . . . 60
Жнівень у Белавежскай пушчы . . . 65
*Уладзімір Гайдук*
Колькі . . . 70
Колас . . . 71
Бунт душы . . . 71

Сялянка . . . . . 73
Селянін мастак . . . . . 73
Ой, няма, як... . . . . . 74
*Юрка Зубрыцкі*
Дарогі жыцця . . . . . 75
Змагары . . . . . 77
Сварожычы . . . . . 77
Баллада пра зубра . . . . . 78
Ля помніка Пушкіну . . . . . 79
*Уладыслаў Дваракоўскі*
На світанні . . . . . 81
*Міхась Красоўскі*
Небывалы баль . . . . . 85
*Уладзімір Паўлючук*
Сон . . . . . 88
Пах засмечанай вуліцы . . . . . 89
Накцюрн апусцелых палёў . . . . . 91
Паэзія Максімавых загуменняў . . . . . 93
Гісторыі з-над разоранай скібы . . . . . 94
*Сымон Раманчук*
Восень жыцця . . . . . 97
*Віктар Рудчык*
Жменя зямлі . . . . . 104
Пацалункі Кастухі . . . . . 115
*Сяргей Сац*
Ёсць такая зямля . . . . . 132
*Алесь Свісёк*
І вам агідны... . . . . . 133
Партрэт . . . . . 133
Прывіды настаўніка . . . . . 134
*Вінцук Склубоўскі*
Сэрца маткі . . . . . 136
Забойца . . . . . 140
Злодзей . . . . . 146
Цюленевае футра . . . . . 151
Марта . . . . . 159
Апошняя экскурсія . . . . . 163
*Зося Стаськевіч*
Як Рыгорка сустрэў вясну . . . . . 166
Добры ўчынак трох дзяўчынак . . . . . 168
Які мой дзед . . . . . 169
*Леапольд Танкевіч*
Пытанні і адказы . . . . . 172
Будзь здароў, родны дом . . . . . 173
Мора . . . . . 174
У час навальніцы . . . . . 175
Ужо няма, каго чакаю . . . . . 176
Пачакай . . . . . 177
Сорамна, дзяўчына... . . . . . 178
*Янка Чыквін*
Што мне Ньютоны... . . . . . 180
За вёскай з сена ўставала надранне . . . . . 180
Сярод вас няма . . . . . 181
З чужымі . . . . . 181
Крыніца . . . . . 182
*Віктар Швед*
Трыялеты . . . . . 184
Буслы . . . . . 185
Ружы . . . . . 186
Начны аркестр . . . . . 186
Макарка і хмарка . . . . . 186
Лён . . . . . 187
Транзістар . . . . . 188
Вясёлка . . . . . 188
Зязюля . . . . . 189
Бярозавік . . . . . 189
Гаспадарыла сонца на градках . . . . . 190
*Людвіка Войцікава*
Пяць месяцаў у Мінску . . . . . 191